# НАШ КРАЙ



№ 3 (42) 1929

САКАВІК

ШТОМЕСЯЧНІК
Ц.Б. КРАЯЗНАЎСТВА

# ЗЬМЕСТ.

# Краязнаўства і абарона краіны.

Капіталістычныя дзяржавы ўсяго сьвету маюць досыць разьвітую прамысловую і сельска-гаспадарчую тэхніку, якая ў значнай меры забясьпечвае ўладу капіталістых над працоўнымі масамі. Моцная і разьвітая прамысловая тэхніка капіталістычных краін небясьпечна для нашага маладога Савецкага Саюзу, які за кароткі час свайго мірнага будаўніцтва ня змог зраўняцца ў тэхнічным разьвіцьці з перадавымі капіталістычнымі дзяржавамі. Тэхнічна мацнейшыя дзяржавы захаду заўсёды будуць нам пагрозаю ў сэнсе экономічнага нажыму. Вось чаму Комуністычная партыя і ўся савецкая грамадзкасьць з усёю сур'ёзнасьцю ставяць пытаньне аб найскарэйшым вызваленьні працоўных мас нашага Саюзу ад усякай экономічнай залежнасьці ад капіталістычных краін, аб найхутчэйшым падняцьці на вышыню сучаснае тэхнікі і навукі ўсіх відаў нашае гаспадаркі, што ў сваю чаргу патрабуе культурнае рэволюцыі сярод самых шырокіх працоўных мас. Разьвіцьцё нашае народнае гаспадаркі, падняцьце яе на ўзровень навукі і тэхнікі сёньнешняга дня з адначасным культурным пад'ёмам працоўных мас—вось адзін з найбольш моцных сродкаў абароны нашай краіны. А паколькі краязнаўства мае сваёй мэтай дапамогу разьвіцьцю нашай гаспадаркі, нашай культуры, нашага дабрабыту, паколькі краязнаўчая праца будзе садзейнічаць вырашэньню практычных задач гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, пастолькі яно будзе дапамагаць і абароне нашай краіны. Абедзьве гэтыя задачы—і задача гаспадарчага і культурнага соцыялістычнага будаўніцтва і задача абароны і ўзмацненьня абароназдольнасьці нашае краіны—цесна і непарыўна паміж сабой зьвязаны і вырашацца яны павінны разам пры дапамозе навукова-дасьледчых установаў і організацый. Пры дасьледваньні сваёй краіны мы ні на хвіліну не павінны забываць, што наша вывучэньне павінна перш за ўсё мець практычную ўстаноўку: дапамагчы соцыялістычнаму будаўніцтву і ўзмацніць абароназдольнасьць працоўных мас нашага Савецкага Саюзу.

Гэта, здавалася-б, досыць відавочнае значэньне краязнаўства ў справе абароны краіны ўяўлена яшчэ далёка ня ўсімі організацыямі, установамі і мясцовымі працаўнікамі. Адсюль вынікае неабходнасьць популярызацыі краязнаўства наогул і значэньня яго ў справе абароны краіны ў прыватнасьці сярод савецкіх і грамадзкіх працаўнікоў, а разам з тымі сярод шырокіх працоўных мас.

Краязнаўчая праца можа мець больш блізкае і непасрэднае значэньне ў справе абароны Савецкай краіны. Прывядзем некалькі прыкладаў.

Мінула імпэрыялістычная і грамадзянская войны паказалі асабліва важнае значэньне веданьня экономічна-гаспадарчага становішча

тэй мясцовасьці, дзе адбываюцца ваенныя падзеі. Кулацка-заможнае насельніцтва вельмі няпрыхільна сустракала, напр. часьці Чырвонай арміі і досыць часта актыўна дапамагала нашым ворагам у часы грамадзянскай вайны.

Для вайсковых часьцей вельмі неабходна ведаць у час ваенных опэрацый, дзе і якія маюцца запасы фуража, продуктаў, налічча і якасьць вады для піцьця. Рабіць спэцыяльныя разьведкі часамі бывае немажліва, і тады прыходзіцца карыстацца паказаньнямі мясцовых людзей, найбольш знаёмых са сваёй мясцовасьцю. Аб тым, як трэба адносіцца да падобных паказаньняў, маюцца спэцыяльныя ўказаньні.

У будучым войны, бязумоўна, будуць насіць клясавы характар. З прычыны гэтага ў нашым-жа тылу могуць быць і нашы клясавыя ворагі і, наадварот, мы можам спаткаць сваіх прыяцеляў і ў шэрагах сваіх праціўнікаў.

Нам лепш займаць тыя раёны, дзе сярод насельніцтва мы маглі-б сустрэць найбольш нам спачуваючых. Вось чаму політычны элемэнт у сучаснай тактыцы займае вельмі і вельмі важнае месца. У сучасных войнах часта перавагу будзе мець не аружжа, а політыка старон, якія будуць змагацца. А адсюль выцякае неабходнасьць вельмі добра ведаць клясавыя, нацыянальныя, рэлігійныя і бытавыя адносіны насельніцтва паміж сабой, яго настроі і жаданьні. Практыка мінулага паказала нам, што недаацэнка аднаго ці некалькіх з паказаных элемэнтаў прыводзіла да вельмі непажаданых вынікаў. У той час як пролетарска-бядняцкая частка (у часы грамадзянскай вайны) досыць актыўна дапамагала Чырвонай арміі, больш заможная частка сустракала яе няпрыхільна і часамі выступала супроць з аружжам у руках. Вельмі важна для нас знаць мову насельніцтва, дзе адбываецца барацьба, яго звычаі, абрады і адносіцца да іх з належнай уважлівасьцю.

Закранутыя пытаньні ў значнай часьці зьяўляюцца зьместам і краязнаўчай працы. Вынікі краязнаўчай працы па вывучэньні пэўных раёнаў павінны быць прыняты пад увагу ў выпадку, калі нам прыдзецца весьці актыўную абарону ў тэй ці іншай мясцовасьці. Нам неабходна мець вернага і надзейнага хаўрусьніка ў бядняцкай і серадняцкай масе, а дзеля гэтага трэба вельмі чула прыслухоўвацца да біцьця пульсу грамадзкага жыцьця гэтых груп насельніцтва. Краязнаўчая праца павінна дапамагаць наладжваць ім лепшае жыцьцё, якое неабходна будзе бараніць ад ворагаў.

Мясцовым краязнаўчым організацыям прыходзіцца ўсебакова вывучаць паасобныя вёскі, сельсаветы, раёны, складаць карты, наносіць на іх новыя пасёлкі, дарогі і г. д. Такія работы, бязумоўна, будуць вельмі і вельмі каштоўны і для кіраўнікоў вайсковае справы. Наогул можна сказаць, што краязнаўчая праца, якая мае на мэцэ ўсебаковае вывучэньне розных раёнаў, можа быць у значнай меры выкарыстана і ў мэтах абароны краіны. Нам хацелася-б толькі адзначыць яшчэ вялікую вартасьць паасобных краязнаўчых досьледаў аб дзейнасьці мясцовых партызанскіх груп і атрадаў. Такія апісаньні могуць мець ня толькі гістарычнае значэньне, але яны выявілі-б формы і характар самаабароны працоўных мас, на прыкладах партызанскіх паўстаньняў будзе выхоўвацца наша падрастаючая моладзь змагацца за правы працоўных мас.

На тэрыторыі нашай Беларусі ў розных мясцох адбываліся ваенныя падзеі як у часы імпэрыялістычнай, так і ў часы грамадзянскай вайны. Паасобныя раёны і паасобныя вёскі былі сьведкамі розных

боек і самі прыймалі той альбо іншы ўдзел у тэй барацьбе, якая ў данай мясцовасьці адбывалася. Краязнаўчым організацыям сумесна з ячэйкамі ТДА і КСМ неабходна вывучыць свой раён з боку гістарычна-політычных і ваенных падзей асабліва грамадзянскай вайны, трэба сабраць і запісаць зьвесткі і факты аб удзеле насельніцтва данае мясцовасьці ў барацьбе.

Яскравыя, гэроічныя моманты барацьбы часьцей Чырвонай арміі павінны быць асабліва адзначаны і зафіксаваны.

На гэтых мясцовых матар'ялах грамадзянскай барацьбы ў *данай* мясцовасьці павінна выхоўвацца наша падрастаючая моладзь у піонэратрадах, у школах, на дапрызыўных пунктах, у ячэйках ТДА. Краязнаўчыя організацыі сумесна з ячэйкамі ТДА і КСМ павінны зьвярнуць увагу на ўтрыманьне ў належным парадку могілак, дзе пахаваны барацьбіты Чырвонай арміі, загінуўшыя партызаны і наладзіць на месцы боек экскурсіі вучняў, і піонэраў і моладзі наогул з правядзеньнем належных гутарак, успамінаў удзельнікаў барацьбы ў данай мясцовасьці і г. д., што будзе мець вялікае выхаваўчае значэньне.

Мясцовыя краязнаўчыя музэі і бібліотэкі павінны сабраць увесь матар'ял, які-б у найлепшым відзе адбіў барацьбу працоўных мас данае мясцовасьці за сваё вызваленьне. Дзейнасьць ворагаў Савецкай улады і працоўных мас, як розныя віды барацьбы паноў і кулакоў таксама павінна быць належным чынам выяўлена і зафіксавана.

У шэрагі нашай арміі будуць уліваццa рабочыя і сяляне, частка якіх ужо можа быць знаёма з задачамі і мэтодамі краязнаўчай працы. Краязнаўчая падрыхтоўка ў краязнаўчых організацыях нашых бойцоў Чырвонай арміі, а асабліва каманднa-політычнага складу, была-б вельмі каштоўна ў мэтах правільнага падыходу да насельніцтва таго раёну, дзе прыдзецца праводзіць тое ці іншае заданьне. Увесь склад нашай Чырвонай арміі павінен сабе добра ўявіць неабходнасьць ведаць гаспадарку, культуру і быт таго насельніцтва, з якім неабходна будзе мець справу, бо задачы рабоча-сялянскай Чырвонай арміі *ня толькі рушыць старое* (калі гэта патрэбна), але і будаваць новае, выходзячы з мясцовых умоў і запатрабаваньняў.

Часьцям Чырвонай арміі прыходзіцца ў сваю чаргу праводзіць некаторую дасьледчую працу: вывучэньне рэльефу і грунту ў пэўнай мясцовасьці, абсьледваньне грунтовых шляхоў, паселішч і насельніцтва і г. д. Бязумоўна, адначасна могуць быць здабыты і даныя, цікавыя з пункту погляду краязнаўчага: запісы прыродазнаўчага, эканомічнага, культурна-гістарычнага, бытавога характару і інш. Яшчэ ў большай меры можна такія запісы зрабіць у мясцох доўгатэрміновых стаянак.

Вельмі пажадана было-б у часьцях арміі зорганізаваць краязнаўчыя ячэйкі, якія апрача вышэйадзначаных пытаньняў маглі-б заняцца вывучэньнем і зьбіраньнем матар'ялаў аб грамадзянскай барацьбе ў данай мясцовасьці, аб удзельніках гэтай барацьбы, аб прычынах і формах бандытызму і г. д.

У выпадку будучых ваенных падзей нельга будзе ня лічыцца з мясцовым жыхарствам і мясцовымі ўмовамі, а гэта вымагае гібкіх і лёкальных форм змаганьня ў залежнасьці ад характару тэй ці іншай мясцовасьці. Адсюль з неабходнасьцю выцякае больш блізкая сувязь задач краязнаўства з задачамі абароны нашай Савецкай краіны.

В. Самцэвіч.

# Проблема падвышэньня ўраджайнасьці і краязнаўства.

Социялістычнае будаўніцтва ў нашым Саюзе непасрэдна зьвязана з вырашэньнем задачы індустрыялізацыі і колектывізацыі нашай гаспадаркі. Мы ўжо маем надзвычайна вялікія дасягненьні ў нашай буйнай прамысловасьці, якая і павінна даваць асноўны кірунак у разьвіцьці нашае соцыялістычнае грамады і гаспадаркі. Але „будаваць соцыялізм толькі ў горадзе без прыцягненьня да будаўніцтва соцыялізму вёскі немагчыма. Нельга дапусьціць, каб соцыялістычны горад і соцыялістычная прамысловасьць былі абкружаны вёскай, якая разьвіваецца па капіталістычнаму лагву. Плянава-соцыялістычная організацыя гаспадаркі ўключае ў сябе ня толькі прамысловасьць, але і сельскую гаспадарку, якая зьяўляецца сыравіннай і харчовай базай прамысловасьці і рынкам збыту апошняй“ [1]).

На ліпнёўскім і потым на лістападаўскім пленумах ЦК УсеКП(б) вельмі выразна адзначана, што на шляху будаўніцтва соцыялістычнае грамады і разьвіцьця патрэбнага нам тэмпу індустрыялізацыі паўстае небясьпека ў адставаньні тэмпу разьвіцьця сельскай гаспадаркі ад нашай прамысловасьці. Гэтую дыспропорцыю ў тэмпе разьвіцьця дзьвюх асноўных галін нашай гаспадаркі (прамысьловасьці і сел.-гаспадаркі) трэба як-мага хутчэй зьліквідаваць, не затрымліваючы ўсяго соцыялістычнага будаўніцтва. Якім чынам гэтага дасягнуць? „Трэба паступова, але сыстэматычна і ўпарта пераводзіць сельскую гаспадарку на новую тэхнічную базу, на базу буйнай вытворчасьці, падцягваючы яе да соцыялістычнай прамысловасьці“ [2]). Разьвіцьцё буйнае сельска-гаспадарчае вытворчасьці на базе ўдасканаленай сучаснай тэхнікі ёсьць асноўны кірунак партыі і Савецкай улады ў вырашэньні сельска-гаспадарчае проблемы наогул і збожжавае ў прыватнасьці. А трэба адзначыць, што збожжавая проблема ў сучасны момант зьяўляецца асабліва актуальнай, без вырашэньня якой мы ня зможам захаваць і належнага тэмпу разьвіцьця прамысловасьці. І паколькі „мы маем перад сабою надзвычайнае адставаньне тэмпу разьвіцьця збожжавае гаспадаркі ад тэмпу разьвіцьця індустрыі пры вялізарным росьце попыту на таварны хлеб з боку ўзрастаючых гарадоў і прамысловых пунктаў“ (Сталін), пастолькі перад партыяй, Савецкай уладай і ўсімі працоўнымі масамі паўстае задача неадкладнага вырашэньня пытаньня падняцьця сельска-гаспадарчай продукцыі, падвышэньня ўраджайнасьці нашых збожжавых культур.

Павялічыць ураджай зернавых культур нам патрэбна для таго, каб забясьпечыць хлебам нашы гарады і прамысловыя пункты, якія з кожным годам растуць і будуць расьці яшчэ з большым тэмпам, а таксама, каб мы маглі вывозіць наш хлеб за межы; разам з гэтым нам неабходна неадкладна павялічыць і ўраджайнасьць нашых тэхнічных культур, на сіравіннай базе якіх будзе пэўная галіна нашай прамысловасьці.

---

[1]) З прамовы А. І. Рыкава на 2-ім Усерасійскім аграномічным зьезьдзе.
[2]) З прамовы т. Сталіна на пленуме ЦК УсеКП(б) 19/XI 1928 г.

Агульную задачу падвышэньня ўраджайнасьці ў практычным яе вырашэньні мы павінны разглядаць як задачу „сёньнешняга дня“ або задачу правядзеньня найпрасьцейшых мерапрыемстваў і як задачу “заўтрашняга дня савецкай краіны“ „рэконструкцыйных“ мерапрыемстваў (Я. Л. Якаўлеў).

Задача прасьцейшых мерапрыемстваў мае на мэце павялічэньне ўраджайнасьці ва ўсіх савецкіх, колектыўных, індывідуальных сялянскіх гаспадарках (бядняцкіх і серадняцкіх). Комуністычная партыя і Савецкая ўлада побач з разьвіцьцём колгаснага будаўніцтва зьвяртае на індывідуальныя гаспадаркі вялікую ўвагу таму, што „адсталасьць сялянскай гаспадаркі нагэтулькі вялікая, што кожная дробная індывідуальная гаспадарка мае вялікія магчымасьці свайго разьвіцьця. Пагэтаму трэба дапамагчы і індывідуальнай гаспадарцы. Ёй трэба дапамагчы і таму, што ў бліжэйшыя гады ў валавой продукцыі хлеба і ў забясьпечаньні краіны хлебам індывідуальная гаспадарка будзе яшчэ граць рашаючую ролю“ (Рыкаў).

Якія-ж конкрэтныя мерапрыемствы вызначыла партыя і Савецкая ўлада для подвышэньня ўраджайнасьці ў індывідуальных сялянскіх гаспадарках? Мерапрыемствы гэтыя наступныя: „ужываньне гатунковага насеньня, замена сяўбы негатунковым насеньнем сяўбой сэлекцыйным, гатунковым насеньнем“, што павялічыць ураджайнасьць мінімум на 20%; правядзеньне на працягу трох год абавязковай ачысткі насеньня, што ў БССР павялічыць ураджай на 7,5%; шырокае скарыстаньне трактараў і складаных машын, а таксама і ўсяго інвэнтару пракатных пунктаў для задавальненьня запатрабаваньняў бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак; сыстэматычная барацьба са шкоднікамі нашых зернавых культур, што павялічыць ураджай для СССР ў сярэднім на 9%; наладжаньне вапнаваньня палёў, організацыя контрактацыі ў сувязі з магчымай у данай мясцовасьці сыстэмай агрыкультурных мерапрыемстваў правядзеньне зямляўпарадкаваньня, палепшаньне мэтодаў апрацоўкі і ўгнаеньня глебы, палепшаньне жывёлагадоўлі і пашырэньне сел.-гаспадарчай асьветы ў школах і сярод бядняцка-серадняцкіх мас сялян. „Сьвядомасьць саміх бядняцкіх ды серадняцкіх сялянскіх мас“ зьяўляецца, бязумоўна, зусім неабходнай для правядзеньня ў жыцьцё ўсіх намечаных Савецкай уладай практычных мерапрыемстваў, бо „адміністрацыйным захапленьнем тут нічога людзкага ня зробіш“ (Я. Якаўлеў).

Галоўнейшымі задачамі Савецкай краіны ў вырашэньні пытаньня падвышэньня ўраджайнасьці зьяўляюцца: „вытворчае коопэраваньне, колектывізацыя, пашырэньне новых машын, якія ламаюць у Эўропе, Амэрыцы і Канадзе тэхніку старой даваеннай сельскай гаспадаркі, і пытаньне ўгнаеньняў, прычым з асаблівай настойлівасьцю мы павінны ставіць пытаньне аб колектывізацыі індывідуальных гаспадарак, без чаго значных дасягненьняў у падвышэньні ўраджайнасьці чакаць нельга.

Конкрэтныя задачы „катэгорычнага правядзеньня ў жыцьцё пастаноў партыі і Савецкага ўраду аб паглыбленьні соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, яе колектывізацыі і машынізацыі, уздыму вытворчасьці яе і павялічэньня ўраджайнасьці збожжавых культур“ ставіцца па лініі ўсіх партыйных організацый, савецкіх устаноў і ўсёй савецкай грамадзкасьці [1]), бо толькі агульнымі сіламі ўсіх

---

[1]) Гл. пастанову ЦК КПБ(б), зьмешчаную ў „Сав. Беларусі“ № 18. 1929 г. і пастановы IV сэсіі Ц. В. К. СССР і СНК БССР ад 20/XII 1929 г.

працоўных мас, пры дапамозе навукі і пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі магчыма будзе вырашыць вялікія задачы дагнаць і перагнаць буржуазныя дзяржавы Заходняй Эўропы, Амэрыку і Канаду ў іх дасягненьнях у сельскай гаспадарцы.

Краязнаўчыя організацыі, якія ставяць сваёй задачай прыняцьце ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве, павінны таксама аднэй з асноўных задач сваёй працы паставіць задачу практычнага ўдзелу ў падвышэньні ўраджайнасьці збожжавых і тэхнічных культур і наогул у рэконструкцыі нашай сельскай гаспадаркі. Бязумоўна, што ўся краязнаўчая праца ў справе падвышэньня ўраджайнасьці павінна быць цесна ўвязана з працай мясцовых савецкіх устаноў, партыйных організацый і з непасрэднай практычнай працай аграномічных працаўнікоў, бо толькі пры адзіным фронце наступу на нашу адсталасьць у сельскай гаспадарцы мы зможам у кароткі час дасягнуць патрэбных нам посьпехаў.

Паколькі пытаньне падняцьця ўраджайнасьці зьяўляецца ў сучасны момант асноўным, „вузлавым“ пытаньнем у партыйнай і савецкай працы на вёсцы, пастолькі і краязнаўчыя організацыі гэтаму пытаньню павінны ўдзяліць максымум увагі ў сваёй практычнай працы, не закідаючы, зразумела, і іншых пытаньняў дасьледваньня прыроды, гаспадаркі, культуры і быту.

Перш, чым гаварыць аб самай сутнасьці практычнай краязнаўчай працы па падвышэньні ўраджайнасьці, мы павінны паставіць пытаньне аб тым, хто будзе праводзіць гэтую працу, хто будзе весьці систэматычныя досьледы ў вывучэньні ўсіх умоў, што спрыяюць альбо перашкаджаюць падвышэньню ўраджайнасьці і павялічэньню вытворчасьці сельскае гаспадаркі ў данай мясцовасьці. Бязумоўна, у гэтую працу павінны быць уцягнуты ўсе сяляне-вопытнікі, сяляне-дасьледчыкі, мясцовыя аграномы, комсамольцы, зьвязаныя з сельскай гаспадаркай, практычныя працаўнікі колектыўных гаспадарак, студэнты сел.-гаспадарчых тэхнікумаў і Акадэміі, настаўнікі. Без організацыі гэткага ядра, без уцягненьня практычных працаўнікоў-дасьледчыкаў колектыўных і індывідуальных сельскіх гаспадарак, праца краязнаўчых організацый у падвышэньні ўраджайнасьці не прынясе належнай карысьці. Адсюль паўстае пытаньне аб організацыі краязнаўчых гурткоў ня толькі ў сельсаветах, але і ў кожным паселішчы (вёсцы, пасёлку, колектыўнай і савецкай гаспадарцы) з конкрэтнай і практычнай задачай, блізкай разуменьню і інтарэсам сялян.

Там дзе ёсьць аграномічныя станцыя, культурная колектыўная гаспадарка, дасьледчая станцыя,—краязнаўчую працу гурткоў у галіне падвышэньня ўраджайнасьці лепш за ўсё будзе сконцэнтраваць тут.

Які-ж у асноўным павінен быць зьмест краязнаўчай працы па падвышэньні ўраджайнасьці? Зьмест гэтае працы вызначаецца асноўнымі пунктамі пастаноў IV сэсіі ЦВК СССР і СНК БССР., дзе вызначаны цэлы шэраг конкрэтных мерапрыемстваў у кірунку падняцьця сельскай гаспадаркі. Пры гэтым трэба прыняць пад увагу, што нам „патрэбна навуковае абгрунтаваньне і дапасаваньне кожнага мерапрыемства да мясцовых умоў кожнага раёну. Адгэтуль проблему ўраджайнасьці трэба вырашаць параённа“ [1]), адкуль выцякае і неабходнасьць у працы іні-

[1]) Г. Чуйко. „Проблемы ўраджайнасьці і ініцыятыва мас“. „Сав. Беларусь“ № 280. 1928 г.

цыятывы мас і навуковых спэцыялістаў, якія працуюць у данай мясцовасьці.

Вырашаць пытаньне падвышэньня ўраджайнасьці мы павінны ў залежнасьці ад глебавых асаблівасьцяй ня толькі паасобных раёнаў, але нават і ў залежнасьці ад асаблівасьцяй глебы ў паасобных паселішчах. Мы ведаем, што паасобныя ўрочышчы аднаго і таго-ж паселішча маюць свае глебавыя асаблівасьці, якія патрабуюць і рознага падыходу да іх апрацоўкі ўгнаеньня і засеву тымі або іншымі культурамі. Гэта добра ведаюць практыкі сяляне. У гэтых сялян практыкаў і сялян-дасьледчыкаў ёсьць часта добрае веданьне складу глеб паасобных вучасткаў сваіх палёў і ўплыву глебавых асаблівасьцяй на ўраджайнасьць розных культур. Гэтыя здабытыя сялянамі-дасьледчыкамі практычныя веды аб мясцовых глебах трэба праверыць спэцыяльнымі досьледамі, па магчымасьці, пры дапамозе і ўдзеле аграномаў і злажыць глебавыя карты для кожнага паселішча, кожнага сельсавету і раёнаў: у аднавёрсным маштабе для карт паселішч і двухвёрсным для карт сельсаветаў і раёнаў. Да гэтых карт павінны быць дададзены адпаведныя глебавыя колекцыі і апісаньні выпрабаваных спосабаў апрацоўкі і ўгнаеньня кожнага віду глебы, а таксама даны кароткія паказаньні, для якіх культур найбольш прыгодны тыя або іншыя адмены глеб. З гэтымі глебавымі асаблівасьцямі кожнае мясцовасьці данага паселішча, сельсавету і раёну, з спосабамі іх найлепшай апрацоўкі і ўгнаеньня, з найлепшым выкарыстоўваньнем кожнага гатунку глебы павінны быць знаёмы ўсе мясцовыя агрыкультурныя працаўнікі, а таксама з гэтымі асаблівасьцямі трэба потым азнаёміць і насельніцтва адпаведных паселішч, і вучняў школ (у час правядзеньня экскурсій у прыроду, вывучэньня карт і інш.). А што складаньне глебавых карт могуць выконваць краязнаўчыя організацыі, аб гэтым сьведчыць, напр., вопыт Слуцкага раённага т-ва краязнаўства, якое злажыла гэткую глебавую карту свайго раёну[1]). Карта гэтая хаця і ня зусім адпавядае ўсім навуковым запатрабаваньням і навуковай тэрмінолёгіі, але ў значнай меры можа адказваць практычным запатрабаваньням мясцовых працаўнікоў аграноміі. Вывучэньне глебы патрэбна і таму, што на яе пры належным дасьледваньні можна рабіць уплыў у сэнсе ўзбагачэньня яе спажыўнымі матэрыямі і палепшаньня фізычных уласьцівасьцяй, прычым апошняе набывае асабліва значэньне, бо без палепшаньня фізычных уласцівасьцяй глеба не дае належных вынікаў і ўзбагачэньня яе спажыўнымі матэрыямі.

Патрэбнасьць палепшаньня фізычных уласьцівасьцяй глебы выклікае пытаньне аб вапнаваньні глебы і ўзбагачэньні яе органічнымі матэрыямі. Пытаньне аб угнаеньні зьяўляецца вельмі сур'ёзным пытаньнем у комплексе прасьцейшых мерапрыемстваў па падвышэньні ўраджайнасьці і зьвязваецца ў значнай меры з вывучэньнем прыродных рэсурсаў нашай краіны, а між тым „мы па сутнасьці ня ведаем, што ў нас ёсьць... мы яшчэ настолькі мала ведаем нашу Беларусь, усе нашы прыродныя рэсурсы, якія можна было-б паставіць на службу соцыялістычнаму будаўніцтву, што нам трэба мобілізаваць, як кажуць, пашыраным фронтам навуку на выяўленьне ўсіх уласных магчымасьцяй, пры дапамозе якіх мы маглі-б сур'ёзна ставіць задачу

[1]) Дэмонстравалася на 2-м пленуме КПВСБ 1—4 сьнежня 1928 г. пры дакладзе аб глебав. досьледах б. Слуцкай акр. глебавод. Рагавым.

ўзьняцьця ўраджайнасьці"[1]). Гэтая нявывучанасьць прыродных рэсурсаў нашай краіны перашкаджае нашаму ўраду пры вырашэньні, напр., месца і магчымасьцяй пабудовы фосфарытнага заводу, з прычыны яшчэ ня зусім дакладнага вывучэньня багацьцяў фосфарытных залеганьняў[2]). Ну, а ці ведаем мы ўсе нашы мясцовыя (у кожным раёне, сельсавеце) запасы вапны, торфу і розных адкідаў, якія можна скарыстаць, як угнаеньне? Калі і ведаем, дык вельмі і вельмі мала, недастаткова для таго, каб можна было ставіць конкрэтна пытаньне аб іх выкарыстоўваньні для ўгнаеньня. І вось перад нашымі краязнаўчымі організацыямі паўстае пытаньне заняцца вывучэньнем месц заляганьня вапны і торфу і, па магчымасьці, вызначыць багацьці гэтых заляганьняў, што становіцца асабліва патрэбным у сувязі з пастановай СНК БССР аб утварэньні па лініі коопэрацыі 25 саматужных торфападсьцілачных заводаў на працягу бліжэйшых 2-х гадоў, апрача пабудовы аднаго вялікага мэханізаванага заводу з гадавым вырабам 200 тыс. пуд. у год. Краязнаўчая праца па вывучэньні багацьцяў і якасьці торфу ў значнай меры можа быць карыснай для пабудовы саматужных тарфяна-падсьцілачных заводаў. Разам з гэтым неабходна пры дапамозе сялян-дасьледчыкаў і цераз іх дакладна вывучыць уплыў розных угнаеньняў і ў рознай іх комбінацыі на падвышэньне ўраджайнасьці на розных адменах глебы данай мясцовасьці. Неабходна таксама вывучыць, якія ўгнаеньні (торф, попел, лубін і інш.) маюць магчымасьць найбольшага пашырэньня сярод сялян данай мясцовасьці, каб непасрэдным кіраўніком гэтае справы можна было ўлічыць усе магчымасьці пашырэньня розных відаў угнаеньня ў агульным пляне падняцьця ўраджайнасьці. „Пытаньне аб магчымасьці скарыстаньня, як угнаеньня, розных фабрычных адкідаў", якое ставіцца СНК БССР перад нашымі вышэйшымі дасьледчымі ўстановамі, у некаторай ступені можа вывучацца і краязнаўчымі організацыямі пры належнай консультацыі і дапамозе з боку адпаведных навуковых устаноў (Навук-Дасьлед. Інст. і інш.).

У галіне насеннаводзтва краязнаўчыя організацыі могуць правесьці значную працу па вывучэньні мясцовага гатунковага насеньня розных культур і залежнасьці падвышэньня ўраджайнасьці ад ужываньня гатунковага насеньня ў розных гаспадарках. На конкрэтных прыкладах, з лічбовымі данымі, сялянам трэба будзе паказаць і даказаць, якое значэньне мае ўжываньне гатунковага і ачышчанага насеньня на павялічэньне ўраджайнасьці.

У справе падвышэньня ўраджайнасьці, як зазначыў т. Галадзед на 1-м усебеларускім агранамічным зьезьдзе, вялікае значэньне мае „пытаньне інвэнтарызацыі сельскае гаспадаркі паводле апошняга слова тэхнікі—пытаньне сур'ёзнае, якому трэба аддаць належную ўвагу".

Каб сур'ёзна паставіць пытаньне аб машынізацыі нашай сельскай гаспадаркі, нам трэба дакладна ведаць ступень забясьпечанасьці машынамі сялянскіх гаспадарак розных тыпаў, спосаб іх выкарыстоўваньня сялянамі, мясцовыя запатрабаваньні на розныя машыны для пэўных раёнаў і г. д. Мясцовыя краязнаўчыя організацыі павінны вывучыць пытаньне аб найхутчэйшай замене сахі хаця-б плугам, калі ня трактарам, і на вопыце колектыўных гаспадарак і гаспадарак сялян-

---

[1]) З прамовы тав. М. Галадзеда на першым усебеларусім аграномічным зьезьдзе. Сав. Бел. № 25. 1928 г.

[2]) Там-жа.

дасьледчыкаў паказаць магчымасьць і выгаднасьць ужываньня плуга і трактара замест сахі.

Калі краязнаўчая праца будзе праводзіцца на фактах і зьявах запраўднага жыцьця, ілюстравацца конкрэтнымі жыцьцёвымі прыкладамі (досьледы, экскурсіі, выстаўкі), дык ня так ужо цяжка будзе зрабіць пэўны пералом у мэтодах працы ў сельскай гаспадарцы, організаваць колектыўны заказ на плугі, машыны і іншы сельска-гаспадарчы інвэнтар.

У сваім дакладзе на IV сэсіі ЦВК ССР т. Якаўлеў прывёў сумныя лічбы разьмеркаваньня нашага збожжа паміж чалавекам і рознымі шкоднікамі збожжа. Прыведзеныя лічбы паказваюць, што шкоднікі зьядаюць збожжа больш, чым застаецца для чалавека (31147500 і 29 міл. тон). А ці можам зараз шырокім фронтам павесьці барацьбу з шкоднікамі? Спачатку гэта нам будзе цяжка зрабіць, бо працоўныя сялянскія масы дакладна ня ведаюць гэтых шкоднікаў, ня ведаюць і мер барацьбы з імі. Вывучэньне гэтых мясцовых шкоднікаў, грыбкоў і сьметнякоў, умоў іх пашырэньня і спосабаў барацьбы з імі будзе складаць адну з задач нашых краязнаўчых організацый разам з агрономамі і сялянамі-дасьледчыкамі. Вынікам дасьледваньня ў гэтай галіне і павінна быць організацыя цэлай сыстэмы аховы расьлін (належная апрацоўка глебы, ачыстка і пратраўліваньне насеньня, апырскваньне і інш.).

Гэткія пытаньні, як вывучэньне найлепшых гатункаў свойскае жывёлы, найлепшых умоў яе ўтрыманьня і атрыманьня найбольшай прыбыткоўнасьці, вывучэньне кармовай проблемы ў мясцовых умовах павінны знайсьці сабе месца ў працы нашых краязнаўчых організацый, увязанай з агульным плянам падвышэньня ўраджайнасьці і падняцьця сельскай гаспадаркі ў сваім раёне.

У вёсцы адбываецца цяпер клясавая барацьба ў сувязі з экономічнай політыкай партыі і Савецкай улады, накіраванай на дапамогу бядняцкім і серадняцкім гаспадаркам і на барацьбу з кулакамі. Кулацка-заможная частка вёскі імкнецца затрымацца на сваіх позыцыях і тармазіць разьвіцьцё бядняцкіх гаспадарак. Заможная частка вёскі і да гэтага часу яшчэ месцамі крэдытуе беднату насеньнем, легальна і нелегальна пашырае сваю пасеўную плошчу за кошт некаторых бядняцкіх гаспадарак; заможнікі ў большай часьці зрываюць пляны рассяленьня вёскі на пасёлкі, перашкаджаюць пераходу на шматпольле, коопэраваньню насельніцтва вёскі, мэліорацыі і г. д., а ў выніку ўсяго гэтага мы сустракаем і будзем сустракаць цэлы шэраг цяжкасьцяй у разьвіцьці нашае сельскае гаспадькркі наогул і ў падвышэньні ўраджайнасьці ў прыватнасьці. Але бедната змагаецца з заможнікамі і ідзе ўперад па шляху разьвіцьця новых форм гаспадаркі. Можна было-б прывесьці шмат прыкладаў гэткага клясавага змаганьня ў вёсцы, але памеры артыкулу не дазваляюць гэтага нам зрабіць. Краязнаўчым організацыям трэба дасьледваць, якія сілы, якія погляды і традыцыі стрымліваюць і перашкаджаюць нараджэньню новых колектыўных форм гаспадаркі і якія сродкі будуць найбольш рацыянальны ў даных мясцовых умовах для паскораньня тэмпу перабудовы нашае сельскае гаспадаркі.

Можа паўстаць пытаньне: якія-ж гаспадаркі мы павінны ўзяць для нашых досьледаў? Трэба вывучаць як індывідуальныя (бядняцкія і серадняцкія), так і колектыўныя гаспадаркі, прычым найбольшая

ўвага павінна быць зьвернута на найбольш культурныя колектыўныя гаспадаркі і гаспадаркі сялян-дасьледчыкаў.

Краязнаўчыя дасьледваньні заўсёды павінны мець на ўвазе адшукаць найлепшыя формы організацыі гаспадаркі і працы ў ёй з найбольшай экономіяй сіл і найбольшай продукцыйнасьцю працы. Гэткімі гаспадаркамі, бязумоўна, зьявяцца буйныя колектыўныя і савецкія гаспадаркі, калі яны добра організаваны. Вынікі краязнаўчых дасьледваньняў ураджайнасьці колектыўных гаспадарак павінны паказаць мясцоваму насельніцтву і шляхі да інтэнсыфікацыі сваіх індывідуальных гаспадарак, а галоўным чынам павінны выявіць і паказаць бядняцкай і серадняцкай масе, як магчыма організаваць культурную і высокаінтэнсыўную колектыўную гаспадарку. Вывучэньне колектыўных гаспадарак і параўнаньне іх з індывідуальнымі сялянскімі гаспадаркамі пакажа мясцоваму насельніцтву ўсю выгаду зямляўпарадкаваньня, шматпольля і машынізацыі сельскай гаспадаркі.

Зусім зразумела, што правядзеньне ў жыцьцё ўсіх агрыкультурных мерапрыемстваў патрабуе пашырэньня сярод вясковага насельніцтва аграномічных ведаў. Краязнаўчыя організацыі тутака могуць прарабіць значную працу: організаваць і правесьці шэраг экскурсій у культурныя колектыўныя гаспадаркі і гаспадаркі сялян-дасьледчыкаў, наладзіць шэраг лекцый і дакладаў, прыняць удзел у організацыі с.-гаспадарчых выставак і інш. Трэба лічыць неадкладна патрэбным організаваць у кожным раёне, сельсавеце і нават кожнай вёсцы спэцыяльныя аддзелы пры краязнаўчых аддзелах, куткі пры хатах-чытальнях, нардамох, школах, дзе былі-б сабраны ўсе экспонаты па вывучэньні мясцовых глеб, культурных расьлін, выпрабаванага для данага раёну гатунковага насеньня, шкоднікі расьлін, карты, дыяграмы росту мясцовай гаспадаркі і розных досьледаў; тут-жа павінна быць і популярная сельска-гаспадарчая літаратура. Гэтыя аддзелы краязнаўчых музэяў і дасьледчыя палі і гаспадаркі і павінны зьявіцца тымі першапачатковымі лябораторыямі, у якіх павінны распрацоўвацца пытаньні палепшаньня сельскай гаспадаркі ў данай мясцовасьці.

Мы лічым, што дасьледваньне комплексу ўмоў падвышэньня ўраджайнасьці ў тэй або іншай мясцовасьці павінна быць цесна зьвязана з працай сярод мясцовага несельніцтва ў сэнсе перадачы яму ўсіх здабытых досьледамі ведаў і мець сваёй задачай выклікаць імкненьне да новых форм гаспадаркі і ўжываньня ўсіх дасягненьняў тэхнікі і навукі. Але мала выклікаць толькі імкненьне да перабудовы форм гаспадаркі, трэба яшчэ і організаваць справу, дапамагчы яе ажыцьцяўленьню.

Краязнаўчыя організацыі сумесна з мясцовымі партыйнымі і грамадзкімі організацыямі павінны, напр., вывучыць, організаваць і правесьці належным чынам зямляўпарадкаваньне з шматпольлем, з належнай апрацоўкай і ўгнаеньнем глебы, засевам гатунковым насеньнем і г. д. Трэба аддаць максымум увагі вывучэньню колектыўных гаспадарак і організацыі іх, улічыўшы вопыт лепшых гаспадарак, якія яшчэ да гэтага часу мала вывучаны з боку найлепшай організацыі ў іх працы ў полі і дома (віды хатняй працы) і зусім ня вывучаны з боку організацыі ў іх новага быту.

## Кароткі плян працы для краязнаўчых організацый па падвышэньні ўраджайнасьці і вытворчасьці сельскае гаспадаркі.

*Організацыя працы.* Наладзіць цесную сувязь і супрацоўніцтва з сялянамі-дасьледчыкамі, аграномамі, культурнымі колектыўнымі і савецкімі

гаспадаркамі і дасьледчымі станцыямі. Прыняць удзел у распрацоўцы раённых, сельсавецкіх і пасёлкавых (вясковых) плянаў па падвышэньні ўраджайнасьці. Вызначыць пэўныя об'екты для сталых і сыстэматычных досьледаў: індывідуальныя сялянскія (бядняцкія і серадняцкія), колектыўныя і савецкія гаспадаркі. Скласьці конкрэтны плян працы краязнаўчых організацый з разьмеркаваньнем працы паміж паасобнымі членамі організацыі.

Популярызаваць сярод бядняцкіх і серадняцкіх мас свайго паселішча пастановы партыі і Савецкага ўраду аб мерапрыемствах па падвышэньні ўраджайнасьці. Выявіць і організаваць мясцовы бядняцкасерадняцкі актыў. Сумесна з КСМ і школай падняць сьвядомасьць мас і організаваць пашырэньне аграномічных ведаў у насельніцтва вёсак свайго сельсавету або раёну.

У кожным раённым краязнаўчым т-ве організаваць сельска-гаспадарчую сэкцыю, у якую ўвесьці аграпрацаўнікоў, сялян-дасьледчыкаў, комсамольцаў і найбольш актыўных сялян (беднякоў і сераднякоў). У кожным сельсавеце і (пажадана) у кожнай вёсцы (або пасёлку, колектыве, сав.-гаспадарцы) організаваць краязнаўчыя гурткі з практычным заданьнем—вывучэньня ўмоў разьвіцьця мясцовай гаспадаркі і ўдзелу ў падняцьці вытворчасьці сельскай гаспадаркі свайго паселішча, у павялічэньні ўраджаю ў бліжэйшыя гады.

*Вывучэньне ўраджайнасьці нашых гаспадарак.* Ураджайнасьць розных культур бядняцкіх, серадняцкіх і кулацкіх гаспадарак у дарэволюцыйныя і пасьлярэволюцыйныя гады ў залежнасьці ад зьмены тэхнікі і спосабаў апрацоўкі глебы, угнаеньне, ад якасьці насеннага матар'ялу і спосабаў пасеву.

Ураджайнасьць колектыўных і савецкіх гаспадарак у параўнаньні індывідуальных сялянскіх гаспадарак і ўраджаямі былых панскіх маёнткаў. Вывучэньне прычын неаднолькавых ураджаяў розных тыпаў гаспадарак; прычыны больш высокіх ураджаяў у буйных гаспадарках у параўнаньні з ураджаямі ў дробных гаспадарках. (Злажыць адпаведныя дыяграмы).

На падставе здабытых лічбовых і фактычных даных вытлумачыць сялянам выгады пераходу да буйных колектыўных гаспадарак.

*Вывучэньне глеб.* Вывучыць глебы свайго раёну, сельсавету, паселішча (для гуртка) з боку іх мэханічнага складу і фізычных уласьцівасьцяй. Урадлівасьць розных культур на розных глебах данай мясцовасьці. Найлепшыя спосабы апрацоўкі і ўгнаеньня кожнага віду глебы па досьледах сялян-дасьледчыкаў і вопытных станцый.

Правесьці спэцыяльныя досьледы над глебамі ў абраных для дасьледваньня гаспадарках з боку вывучэньня: найбольш адпаведнага часу для апрацоўкі,—уплыву розных спосабаў апрацоўкі і розных угнаеньняў на ўраджаі і інш.

Скласьці колекцыю мясцовых глеб для музэю; азнаёміць насельніцтва з вынікамі досьледаў і з найлепшымі спосабамі апрацоўкі і ўгнаеньня глеб у залежнасьці ад іх асаблівасьцяй.

*Вывучэньне проблемы ўгнаеньняў.* Віды і спосабы ўгнаеньня глебы раней (да рэволюцыі) і цяпер у сялянскіх індывідуальных і колектыўных гаспадарках. Пашыранасьць ужываньня, як угнаеньня, лубіну, сэрадэлі, пялюшкі, торфу, попелу і розных адкідаў. Вывучыць вынікі ўжываньня натуральнага, зялёнага і штучных угнаеньняў і комбінацыі розных угнаеньняў на мясцовых глебах.

Выявіць: патрэбнасьць featured рознага роду ўгнаеньняў у індывідуальных і колектыўных гаспадарках, мясцовыя магчымасьці забясьпечаньня ўгнаеньнем бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак і патрэбную дапамогу з боку дзяржаўных установ і коопэрацыйных організацый.

Дасьледваць месцы знаходжаньня і запасы заляганьня фосфарытаў, вапны і торфу і магчымасьць іх здабываньня.

Організаваць актыў вёскі для зьбіраньня попелу, апрацоўкі для ўгнаеньня розных адкідаў (кампосныя кучы) і правільнага скарыстаньня іх.

## Барацьба з засьмечанасьцю палёў і ўдзел у палепшаньні якасьці насеннага матар'ялу.

Засьмечанасьць розных зернавых культур гаспадарак паасобных вёсак і пасёлкаў; найбольш пашыраныя сьметнякі розных культур; прычыны вялікай засьмечанасьці палёў (межы, апрацоўка поля, характар угнаеньня, засеў неачышчаным насеньнем і інш.); рыначная і спажыўная каштоўнасьць зерня ў залежнасьці ад засьмечанасьці. Дасьледваць: якія гаспадаркі ўжываюць гатунковае, ачышчанае і неачышчанае насеньне і якія вынікі ўжываньня рознай якасьці насеньня; якія гаспадаркі (бядняцкія, серадняцкія, кулацкія) найбольш імкнуцца да сяўбы палепшаным насеньнем; спосабы і організацыя ачысткі насеньня; уплыў і дапамога палепшаньню насеннаводзтва з боку мясцовых органаў Савецкай улады, сельска-гаспадарчай коопэрацыі, савецкіх гаспадарак і інш.; колькі машын для ачысткі насеньня ёсьць у вёсцы і як яны разьмяркоўваюцца па гаспадарках, кім і наколькі выкарыстоўваюцца (нагрузка).

Правесьці шырокую кампанію за абкашваньне і зьнішчэньне меж, за правільную і глыбокую ўспашку палёў, за засеў толькі ачышчаным і выпрабаваным для данага раёну гатунковым насеньнем. Пры дапамозе сел.-гаспадарчай коопэрацыі організаваць ачыстку насеньня ва ўсіх гаспадарках вёскі, набыцьцё трыераў, сартовак; у сельсаветах організаваць закладку палёў гатунковага палепшанага насеньня.

## Вывучэньне шкоднікаў нашых палёў і барацьбы з імі.

Найбольш пашыраныя грыбкі і шкоднікі культурных расьлін; характар і разьмеры шкоды, якую яны прыносяць у данай мясцовасьці; прычыны зьяўленьня і пашырэньня розных шкоднікаў і ўмовы іх жыцьця; мясцовыя меры барацьбы з імі па досьледах сялян-дасьледчыкаў і вопытнікаў.

Організаваць нагляданьне за шкоднікамі і выдзеліць корэспондэнтаў сялян для гэтае справы; організаваць пратраўліваньне насеньня, апырскваньне расьлін і інш. меры барацьбы са шкоднікамі.

## Праца ў галіне машынізацыі вёскі.

Вывучыць, якія прылады ўжываюцца ў данай мясцовасьці для апрацоўкі глебы (ужываньне сох, плугоў, трактараў) і якія для пасеву, уборкі ўраджаю, малацьбы і інш. (у індывідуальных і колектыўных гаспадарках); пашыранасьць розных відаў прылад; перашкоды для шырокага ўжываньня машын і захаваньня прымітыўных прылад (сахі, драўлянай бораны, смыка); роля сельска-гаспадарчай коопэрацыі

пашырэньні і забясьпечаньні машынамі бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак; мясцовая ініцыятыва ў гэтым кірунку; выкарыстоўваньне машын колектыўных і савецкіх гаспадарак і пракатных пунктаў.

Экономія жывой рабочай сілы і павялічэньне ўраджайнасьці пры ўжываньні машын.

Дасьледваць, які асортымэнт машын і прылад найбольш адпавядае запатрабаваньням данай мясцовасьці.

Распрацаваць конкрэтныя мерапрыемствы для пашырэньня ўжываньня машын, адпаведных мясцовым запатрабаваньням асортымэнтаў (організацыя машынных таварыстваў, колектыўных заказаў і інш.).

### Вывучэньне ўмоў палепшаньня жывёлагадоўлі.

Якасьць мясцовай жывёлы (кароў, сьвіней) і яе прыбыткоўнасьць у гаспадарках. Павялічэньне прыбыткоўнасьці жывёлы ў залежнасьці ад яе дагляду і пароды.

Мясцовыя цяжкасьці вырашэньня кармовага пытаньня і ўмовы яго найлепшага вырашэньня. Вынікі сялян-дасьледчыкаў у гэтым пытаньні.

Дасьледваць, якая парода жывёлы найбольш адпавядае мясцовым умовам і запатрабаваньням, і якія ёсьць магчымасьці і ўмовы для разьвіцьця малочнае гаспадаркі і бэконнай сьвінагадоўлі.

Распрацаваць плян конкрэтных мерапрыемстваў палепшаньня жывёлагадоўлі ў мясцовых умовах (колектыўнае набыцьцё вытворнікаў, адпаведны дагляд жывёлы і г. д.) і організаваць бядняцка-серадняцкія масы для яго ажыцьцяўленьня.

### Удзел у вырашэньні кармовага пытаньня [1]).

Кармовыя дачы і віды кармоў для розных жывёл у розныя поры году; продукцыйнасьць жывёлы мясцовых гаспадарак у залежнасьці ад якасьці і забясьпечанасьці жывёлы кармамі. Як вырашаюць кармовае пытаньне розныя групы гаспадарак. Пашырэньне кармовых траў і караньплодаў у індывідуальных і колектыўных гаспадарках.

Выкарыстаць (або організаваць) досьледы ў мэтах наладжаньня працы па падвышэньні ўраджайнасьці сенажацяй, пашырэньні засеваў кармовых траў і караньплодаў, сіласаваньня кармоў; вывучыць пытаньне наконт утварэньня штучных пашаў (у першую чаргу ў колектыўных гаспадарках і пасёлках).

### Колектывізацыя і коопэраваньне вясковых гаспадарак.

Дасьледваць па аднэй-дзьве бядняцкіх, серадняцкіх, гаспадарак, адну-дзьве гаспадаркі сялян-дасьледчыкаў і найбольш культурныя колектыўныя гаспадаркі ў мэтах выяўленьня плянавасьці вядзеньня кожнай з гэтых гаспадарак, організацыі і продукцыі працы, магчымасьці выкарыстоўваньня культурна-аграномічных мерапрыемстваў, складаных машын і наогул дасягненьняў сучаснае навукі і тэхнікі. Выявіць і на конкрэтных даных паказаць насельніцтву перавагу колектыўных форм гаспадаркі над індывідуальнымі сялянскімі гаспадаркамі.

---

[1]) Усе практычныя мерапрыемствы праводзяцца пры ўдзеле і тэхнічным кіраўніцтве мясцовых аграномаў.

Дасьледваць найлепшыя формы пераходу ад індывідуальных да колектыўных гаспадарак. Вынікі досьледаў популярызаваць сярод бядняцкіх і серадняцкіх мас вёскі.

*Організаваць* (выходзячы з мясцовых запатрабаваньняў) прасьцейшыя коопэрацыйныя аб'яднаньні: мышыновыя, насенныя, мэліорацыйныя т-вы, малочныя арцелі і інш.

Вывучыць пытаньне наконт магчымасьці організацыі сельска-гаспадарчага т-ва, арцелі або комуны і дапамагчы ўтварэньню таго або іншага колектыўнага аб'яднаньня.

**Праца краязнаўчых організацый у галіне аграномізацыі насельніцтва.**

Організаваць і праводзіць экскурсіі ў культурныя колектыўныя і савецкія гаспадаркі, у гаспадаркі сялян-дасьледчыкаў, на дасьледчыя станцыі і інш.

Популярызаваць вынікі сваіх дасьледваньняў у форме дакладаў і гутарак, дыяграм, табліц і інш., выкарыстоўваючы для гэтай-жа мэты мясцовыя газэты.

Мясцовыя краязнаўчыя музэі папоўніць экспонатамі, якія-б характарызавалі стан і разьвіцьцё мясцовай сельскай гаспадаркі і паказвалі-б шляхі яе інтэнсыфікацыі, а бібліотэкі папоўніць літаратурай аб гаспадарцы мясцовага краю.

Наладзіць консультацыйную справу па пытаньнях організацыі працы ў галіне падвышэньня ўраджайнасьці і падняцьця вытворчасьці сельскае гаспадаркі.

Організаваць і прымаць актыўны ўдзел у практычных мерапрыемствах па падвышэньні ўраджайнасьці (напр.: у організацыі ачысткі насеньня, набыцьця машын, пасеву кораньплодаў і г. д.) і такім чынам уцягваць насельніцтва ў запраўдную працу па палепшаньні сваіх гаспадарак.

---

**М. Карповіч.**

# Пра беларускі тэатр у Горадні.

Гісторыкі беларускага тэатру чамусьці замоўчваюць аб беларускіх спэктаклях у Горадні [1]), хаця аб гарадзенскіх тэатральных паказах пісалі ня толькі газэты, але і часопісы [2]). Ды і заўсёды Горадня мала адставала ў тэатральных справах ад такіх нашых вялікіх культурных цэнтраў, як — Менск і Вільня, ня кажучы аб Слуцку, Чэрвені і інш. Першы гарадзенскі беларускі спэктакль адстаў ад першага віленскага беларускага спэктаклю, які некаторыя і лічаць пачаткам беларускай тэатральнай справы, толькі на сем дзён. Першы віленскі беларускі спэктакль у клюбе чыгуначнікаў адбыўся 12 лютага 1910 г., а першы гарадзенскі беларускі спэктакль быў наладжаны 19 лютага 1910 г. Тэрмін, здаецца, не вялікі. Вось што піша Л. С-ш у „Успаміне аб Гарадзенскім Гуртку Беларускай Моладзі", зьмешчаным у месячніку беларускага студэнцтва ў Вільні „Студэнская Думка" за 1925 г. № 3 (4) і № 4 (5), аб гэтых першых беларускіх спэктаклях у Горадні. Увосень

[1]) *М. Грамыка*. „Ад аматарскага гуртка да дзяржаўнага тэатру" (Час. „Полымя" 1927 г., № 7, стар. 158).

[2]) Часопіс „Беларускае Жыцьцё" за 1919 г. №№ 11, 15 і 19.

1909 г. Д. Грынкевічам і вучнем 7-ай клясы гімназіі Адамам Бычкоўскім з гімназістаў і гімназістак быў закладзены ў Горадні нелегальны беларускі гурток, які чытаў беларускія кніжкі, вывучаў гісторыю і географію Беларусі, пашыраў беларускія газэты і кніжкі, чытаў рэфэраты, ладзіў вечарыны, спэктаклі нават у вёсцы, рабіў „спацыры“ за горад, пад Нёман, у Ласосну, сьпяваў беларускія песьні і г. д. 19 лютага 1910 г. гэтым гуртком і была наладжана „ў прыватным памяшканьні (у доме Салянкаў па Паліцыйнай вуліцы)“ першая беларуская вечарына-спэктакль у Горадні. Была, як гэта часта водзіцца ў беларусоў, 1) абавязковая прамова, 2) рэфэрат П. Аляксюка на тэму „Беларусы і іх нацыянальнае адраджэньне“, 3) сьпевы, 4) музыка, 5) дэклямацыя і 6) спэктакль — ставілі вядомую комэдыю Крапіўніцкага „Па рэвізіі“. Як піша аўтар успамінаў, артысты гулялі так добра, што „па жаданьні публікі на другі дзень спэктакль цалком быў паўтораны“.

Гурток „маніўся пашырыць сваю працу на вёску і дзеля гэтага пад час тых-жа запускаў цэлы склад артыстаў паехаў на вёску, дзе ізноў ставілі „Па рэвізіі“, дэклямацыі і быў прачытаны рэфэрат. Гэтая першая вечарына для вёскі была наладжана ў Сакольшчыне, у маёнтку „Крыштапарова“, каля мястэчка Новы-Двор. „Вялізарная саля, паміма дрэннай пагоды“, — кажа далей аўтар успамінаў — „была поўная людзей з вёсак Мілянкоўцы, Пачаране і Бернікі“.

Праз год, у палавіне лютага 1911 г. гурток зноў ладзіў вечарыну, на якой, між іншым, быў і Іван Луцкевіч, „сумысьля прыехаўшы з Вільні“. На ёй быў перш за ўсё прычытаны рэфэрат на тэму: „Адгалосак душы беларускага народу ў яго песьнях, казках і легендах“. Далей пяяў хор і была пастаўлена комэдыйка Каганца „Модны Шляхцюк“.

„У пару тыдняў пасьля ўвесь склад артыстаў, хор і оркестр струнных інструмэнтаў паехалі ў Сакольшчыну, дзе ў маёнтку Дубніца быў паўтораны вышэйапісаны спэктакль“. Там, у маёнтку, вечарыну адгулялі без дазволу ад паліцыі і „да гэтага адбылася яна ў маёнтку горадзенскага архіярэя, аб чым арандатар і жыўшы ў маёнтку манах не абмінулі ў хуткім часе архіярэя паведаміць. Справа адразу апынілася ў губарнатара і толькі дзякуючы знаёмству з адным чыноўнікам губарнатарскай канцыляріі ўдалося яе схаваць „пад сукно“. На самой вечарыне былі сяляне вёсак — Беляне, Хварасьцяне і Стрэльчыкі.

Гэтым самым гуртком вечарына ладзілася ў канцы 1911 г. (у кастрычніку) у прыватным памяшканьні (Э. Савіцкай), дзе ставіўся сцэнічны абразок вершам „Пастушкі“ і жывыя абразы, а таксама ў 1912 г. (6 студзеня) елка ў вёсцы Сэруцеўцы Сакольскага пав. Навадворскай парахвіі, дзе, апроч цукерак і інш. дзецям было раздадзена шмат календароў, кніжак, „Нашай Нівы“ і „Беларуса“, і вечарына перад Вялікаднем, дзе ставілі комэдыйку „Страхі“ (пераклад з польскай мовы). На запускі ў 1913 г. гурток ладзіў невялікі спэктакль. Ставілі „Міхалку“ і „Варажба цыганкі“, апроч таго жывыя абразкі і дэклямацыі.

Вайна 1914 г. раскідала гурток моладзі і разагнала яго сяброў па ўсім сьвеце. Тыя маленечкія праблескі беларускай тэатральнай справы ў Гарадні, якія заклаў „Горадзенскі Гурток Беларускай Моладзі“ ў 1910 г., давялося аднавіць толькі ў 1919 г. зусім іншай беларускай організацыі, ізноў такі маладзі — „Драматычнаму Гуртку Грамады Беларускай Моладзі ў Горадні“.

У канцы 1918 г., а асабліва ў пачатку 1919 г., пачалі адзін за адным варочацца на бацькаўшчыну бежанцы. Горадня перажывала тады пераходны час. Немцы тады пакідалі Горадзеншчыну. Іх цягнікі, наваленыя розным беларускім дабром, дзень і ноч ішлі ў Нямеччыну. Вывозілі ўсё, што толькі маглі. А палякі спачатку палахліва, а потым усё сьмялей і сьмялей заступалі іх месца, ня гледзячы на організацыю славутага „беларускага“ войску і на побыт у Горадні крыклівых беларускіх „міністраў“. Разбуджаная рэволюцыяй горадзенская моладзь, якая амаль што ўся была сьведкаю Кастрычнікавай рэволюцыі і, вярнуўшыся на бацькаўшыну, знаходзілася пад яе ўплывам, не магла ў такі час аставацца бязьдзейнаю. Вось і паўстала тады думка аб нейкай організацыі беларускай моладзі. Здаецца ў траўні месяцы 1919 г. склалася ініцыятыўная група, якая павінна была згуртаваць навокал сябе горадзенскую беларускую моладзь і склікаць яе на агульны сход. Сабралася каля 50 чалавек. Сход назваў сябе першым сходам новай організацыі „Грамады Беларускай Моладзі ў Горадні“ і прыняў тут-жа статут Грамады. Грамада паставіла сабе на мэце: азнаёміць беларускую моладзь з роднаю моваю, літаратураю, гісторыяю, географіяю, песьняю і г. д., дзеля гэтага яна падзялілася на гурткі (сэкцыі): драматычны, харавы, музычны і інш. Пастаноўлена было організаваць у некаторых вёсках філіі. Такія і былі організаваны ў м. Крынках і ў с. Верцелішках і досыць добра працавалі. Лік сяброў пасьля сходу павялічваўся з кожным днём, і на 2-гі сход Грамады 14 кастрычніка 1919 г. ужо сабралася каля 100 сяброў. З першых дзён Грамада зрабілася самаю популярнаю ў Горадні організацыяй.

Лепш за ўсіх працавалі драматычны і харавы гурткі Грамады. Яны працавалі разам. Харавы гурток, калі ішла п'еса з 2-х актаў ці дзьве комэдыі, заўсёды даваў на трэцяе аддзяленьне вечарыны концэрт. Концэртныя аддзяленьні пад кіраўніцтвам таленавітага кіраўніка хору Ул. Шака выходзілі заўжды вельмі ўдалымі. Такія сьпевы, як — „бульбачка“, „калыханка“ і інш. публіка прымушала гучнымі воплескамі сьпяваць па некалькі разоў. Хор дапамагаў таксама драматычнаму гуртку і ў пастаноўцы некаторых п'ес са сьпевамі. Пераапранутыя сябры хору былі гасьцямі ў „Паўлінцы“ Янкі Купалы.

Яшчэ задоўга да організацыі драматычнага гуртка Грамады Беларускай Моладзі ў Горадні, у пачатку 1919 г. артыст-профэсыянал, Бастуноў (Корчынскі), маніўся організаваць „беларускую“ трупу. Аб гэтым нават хваліліся ў міністэрскіх газэтках. Але на марах Бастунова справа і скончылася. Варта яшчэ тут адзначыць і беларускую дзіцячую пастаноўку п'ескі „Снатворчы Мак“ Лейка ў траўні месяцы 1919 г. П'еску паставіў горадзенскі беларускі дзіцячы прытулак удзень, выключна для дзяцей.

Драматычны Гурток Грамады Беларускай Моладзі ў Горадні організаваўся ў чэрвені 1919 г., а ў нядзелю ўвечары 20 ліпня таго году, як на ўрачыстасьць сабралася ў гарадзкі тэатр уся Горадзенская беларуская публіка на першы спэктакль драматычнага гуртка. Для горадзенцаў гэта было цэлае сьвята. Ставілі комэдыю Крапіўніцкага „Па рэвізіі“ і жарт А. Валодзькага „Як яны жаніліся“, сьпяваў таксама хор і былі дэклямацыі вершаў беларускіх поэтаў. Вечарына прайшла надзвычайна жвава. Артыстаў выклікалі па некалькі разоў. Артысты былі ў захапленьні ад такіх бурных посьпехаў, гэты першы спэктакль даў новыя сілы і новыя надзеі. Але ў той-жа вечар разам з тым і смутак апанаваў артыстаў. Зараз-жа пасьля спэктаклю палякі арыштавалі са-

мага актыўнага сябра драматычнага гуртка К. Салошыка і павялі ў астрог, дзе ён і прасядзеў каля 2-х тыдняў.

Удзельнічалі ў першым спэктаклі ўсе аматары, якія ўпяршыню выступалі на сцэне. У комэдыі „Па рэвізіі“: Старшыня — М. Карповіч, Пісар—К. Салошык, Пантурчыха—В. Краўцэвічанка, Сьведка—В. Юрэчка, Суседка — А. Лазоўская, Сторaж — Лапа. У жарце „Як яны жаніліся“: Заблоцкі — М. Амелянчык, Ганна — Л. Мікалаева, Зайцэвіч — К. Драздоўскі, Жлоба — К. Салошык, Уласенка — Міцкевіч, Алувец — М. Карповіч. Хор сьпяваў пад кіраўніцтвам Ул. Шаха. Пададзеныя мною прозьвішчы не супадаюць з прозьвішчамі, паказанымі ў афішы і праграме, бо ўсе гулялі пад выдуманымі прозьвішчамі, якіх я цяпер ня памятую. Я падаю запраўдныя прозьвішчы артыстаў.

Спачатку ў нас дрэнна было з рэжысураю, але, на наша шчасьце, за дзень ці два да першага спэктаклю прыехала ў Горадню вядомая беларуская дзеячка П. Мядзёлка, якая і ўзялася шчыра за гэтую справу. Дзякуючы ёй, хутка запанавала ў нас строгая дысцыпліна. Яна сваім аўторытэтам і ўменьнем уцягнула ў гурток тых, якія зразу ня верылі ў сур'ёзнасьць нашай працы. Некаторыя з іх былі артысты-аматары з вялікім стажам і нават з пэўным мясцовым імем (прыкл. Уладзімераў). Склад гуртка хутка папаўняўся. Увайшлі ў яго (у розны час) такія асобы: Уладзімераў, Шурпа, М. Салошын, Фёдараў, Л. Палуйчык, Рубаніка, В. Балдоўская, В. Лазоўская, М. Кухарчык, Кухарчык, Дзекуць-Малей, С. Баран, Марыля Галавач, Мік. Галавач, Г. Імочык, Плıскачэўская і інш. Сама П. Мядзёлка надзвычайна добра іграла Паўлінку, Маньку і Юльку ў „Страхах Жыцьця“ Ф. Аляхновіча.

З П. Мядзёлкаю праца ў нас закіпела. Мы адзін за адным ставілі спэктаклі. У месяц па два, па тры, а ў кастрычніку 1919 г. нават чатыры, прыбытак ад якіх у большасьці ішоў на карысьць Горадзенскага дзіцячага прытулку. Вось што кажа Віленскі часопіс „Бел. жыцьцё“ (1919 г. № 19) аб нашых спэктаклях: „Грамада Моладзі шчыра працуе на славу роднага тэатральнага мастацтва, ладзячы час ад часу беларускія спэктаклі, якія маюць вялізарны посьпех. Тым болей трэба падкрэсьліць культурную работу нашай моладзі, што яна дае грашовую падмогу розным грамадзянскім і дабрадзейным установам. 20 ліпня гралі: „Па рэвізіі“ і „Як яны жаніліся“, 7 верасьня „Страхі жыцьця“ Ф. Аляхновіча і „Мядзьведзь“ Чэхава, 19 верасьня „Паўлінку“ Купалы і „Міхалку“ (на карысьць бедных дзяцей беларускіх школ); 1 кастрычніка „Страхі жыцьця“ (другі раз), 8 кастрычніка „Маньку“ Аляхновіча, 16 кастрычніка (дармовы спэктакль для дзяцей беларусаў) „Паўлінка“ і „Міхалка“, 22 кастрычніка „Пашыліся ў дурні“ Крапіўніцкага“.

Да гэтага пераліку трэба дадаць і такія п'есы: „Бутрым Няміра“ Ф. Аляхновіча, „Зьбянтэжаны Саўка“ Л. Родзевіча, „Чорт і баба“ Ф. Аляхновіча, „Разьбітае люстэрка“ жарт у 1 дзеі Чарнова (пераклад з расійская мовы М. Карповіча) і інш. Была падрыхтована п'еса Ф. Аляхновіча „Калісь“, але палякі не дазволілі яе паставіць. Рыхтавалі таксама п'есу „Дні нашага жыцьця“ Л. Андрэева ў перакладзе К. Салошыка.

Ня лепш, як з рэжысураю, справа ў гуртку абстаяла і з рэпэртуарам. Рэволюцыйных п'ес палякі не дазвалялі ставіць, а нерэволюцыйныя былі ўжо выкарыстаны ў поўнай меры, бо пры нашых умовах п'есу можна было ставіць толькі адзін-два разы. Тады некаторыя з сяброў узяліся за пераклад п'ес з расійскай мовы (К. Салошык, М. Карповіч і інш.). Было перакладзена некалькі аднаактовых комэ-

дый і жартаў і дзьве вялікія п'есы: „Дні нашага жыцьця" Л. Андрэева і „На дне" М. Горкага. Былі нават спробы пісаць арыгінальныя п'есы але гэта былі няўдалыя спробы.

Больш за ўсё спэктаклі ладзіліся ў гарадзкім тэатры, але спэктаклі ставіліся і ў іншых памяшканьнях, калі палякі іх не давалі ладзіць у тэатры. Дэкорацыямі карысталіся старымі з тэатру, сваіх ня пісалі. Вопратку кожны артыст даставаў сабе сам. Рэквізыт таксама даставалі дзе хто мог. Шкада толькі, што ні адна пастаноўка ня была сфотографавана. Нават гурток ніколі асобна ад Грамады ня зьнімаўся — ня было грошай.

Летам 1920 г. Верцеліская філія Грамады Моладзі ладзіла пры дапамозе Горадзенскага Драматычнага Гуртка спэктакль у Верцелішках. Ставілі „Паўлінку" і „Міхалку". На спэктакль сабраліся вучні верцеліскай школы ваколічныя сяляне. Гэта была першая спроба драматычнага гуртка пашырыць сваю дзейнасьць у вёсцы. Вышла надта ўдала. Але, ня гледзячы на ўсё гэта, дзейнасьць драматычнага гуртка ў вёсцы на гэтым і памерла. Хутка і сам драматычны гурток стаў паступова зьмяншаць сваю дзейнасьць.

Рэжысэр гуртка, П. Мядзёлка, села ў польскую турму. Некаторыя актыўныя сябры драматычнага гуртка пайшлі туды-ж за ёю, а іншыя паўцякалі за граніцу. Так што ў 1921 г. гурток разваліўся зусім.

Трэба ўспамянуць яшчэ і філію Грамады Моладзі ў м. Крынках. Крынскі драматычны Гурток Грамады Моладзі на працягу ўсіх гадоў, пачынаючы з 1919 г., ладзіў беларускія спэктаклі. Ён пераставіў амаль што ўсе беларускія п'есы — „Апошняе Спатканьне" — Галубка, „Зьбянтэжаны Саўка" — Л. Родзевіча, „Чорт і баба" — Ф. Аляхновіча, „Пашыліся ў дурні" — Крапіўніцкага, „Раскіданае гняздо" — Я. Купалы і інш.

Але панская ўлада, якая душыла з кожным годам усе праявы беларускай культуры ў Заходняй Беларусі (школы друк і г. д.), задушыла і беларускі тэатральны гурток у Горадні. Пры іншакшых умовах Горадзенскі гурток вырас-бы да гэтага часу ў значную адзінку беларускай культуры.

---

**М. Касьпяровіч.**

# Віленскі беларускі музэй.

У галоўным горадзе прыдушанай польскімі панамі Заходняй Беларусі ёсьць вельмі каштоўная культурная ўстанова — гэта Беларускі музэй імя Івана Луцкевіча ў Вільні на Вострабрамскай вул. пад № 9. Музэй гэты мае наступныя багатыя аддзелы: рукапісаў, бібліотэку, графікі і маляўніцтва, нумізматыкі, зброі, старадаўных тканін, народных вырабаў [1]). Гісторыя яго — такая-ж шматпакутная, як і гістарыя беларускага працоўнага народу наогул.

Для нас непаваротна мінуў той час, калі паны, купцы і фабрыканты з царскім урадам на чале душылі працоўныя беларускія масы соцыяльна і нацыянальна. Не прайшоў гэты час для рабочых і сялян Заходняй Беларусі, і таму чорны кругабег гісторыі для Беларускага музэю ў Вільні ня скончыўся, таму ён знаходзіцца пад вечнай небясьпекай зьнішчэньня.

[1]) Пар. М. Касьпяровіч. Краязнаўства, М. 1929, ст. 90.

Ідэя заснаваньня гэтага музэю належыць да пачатку XX стагодзьдзя, калі быў асабліва ўзмацнеў беларускі нацыянальна-рэволюцыйны рух з аднаго боку і русіфікацыйная і полёнізацыйная праца паноў і царскіх чыноўнікаў—з другога. Тагочасная навука, як заўсёды, дапамагала социяльнай і нацыянальнай барацьбе сваімі матар'яламі і вывадамі, угрунтоўваючы тыя або іншыя перамогі і пэрспэктыўныя меркаваньні. Чорнасотніцкія і русіфікацыйныя рускія, беларусазнаўчыя і краязнаўчыя організацыі, як напр., паўночна-заходні аддзел імпэратарскага рускага географічнага таварыства ў Вільні, царкоўна-археолёгічны камітэт у Менску, вучоная архіўная камісія ў Віцебску і інш. сваёй чыннасьцю, нават археолёгічнаю, імкнуліся давесьці, што Беларусь — край расійскі або, прынамсі, не беларускі, хацелі прымусіць працоўных чарпаць з мясцовай гісторыі вернападданьніцкія пачуцьці цару і вінавацілі губарнатараў у тым, што яны вельмі паволі зьнішчаюць беларускі нацыянальна-рэволюцыйны рух [1]). Польскае панскае таварыства прыяцеляў навук у Вільні, зьбіральнік музэю, Фэдаровіч, у Віцебску і інш. імкнуліся навукова давесьці правы польскіх паноў на беларускі працоўны народ, таксама, унікаючы ў сваёй працы нават тэрміну „беларус“ [2]). Не асабліва верачы ў моц сваіх довадаў, расійскія вучоныя гатовы былі аддаць Беларусь польскім *паном,* але ні ў якім разе не працоўным беларусам; падпарадкаваныя пад сваю ўладу царызмам, польскія вучоныя хутчэй гатовы былі аддаць край свайму нацыянальнаму ворагу — расійскім дваранам, чым клясаваму ворагу — таму-ж беларускаму працоўнаму народу. Вось чаму яны ніколі не пярэчылі довадам расійскіх вучоных, што Беларусь — край па меншай меры не беларускі [3]).

Беларускія, у той час рэволюцыйныя партыі, як Беларуская соцыялістычная грамада і інш. у сваёй нацыянальна-рэволюцыйнай працы ні ў якай меры ня мірыліся з такою „навуковаю“ працаю ворагаў беларускага працоўнага народу. І таму з тагочасных рэволюцыйна настроеных беларускіх культурнікаў і партыйных дзеячоў павінен быў вылучыцца кадр работнікаў-пачынальнікаў новачаснай беларускай навукі. Першым з такіх і быў Іван Луцкевіч, адзін з заснавальнікаў Беларускай соцыялістычнай грамады. Ён меў для гэтага выстарчальную навуковую падрыхтоўку, бо скончыў гімназію, унівэрсытэт і археолёгічны інстытут [4]). Самым першым, чым трэба было заняцца, было зьбіраньне, назапашваньне матар'ялаў. І Іван Луцкевіч з маладых год пачаў зьбіраць колекцыі, якія зараз складаюць Беларускі музэй у Вільні. Асабліва інтэнсыўнай была гэтая праца ў часы „Нашай Нівы“. Урэшце колекцыі так разрасьліся, што далі магчымасьць Івану Луцкевічу організаваць у Менску ў часы нямецкай окупацыі багатую выстаўку беларускага мастацтва і старасьветчыны, у чым яму дапамагалі нямецкія вучоныя (а не наадварот, як да сяго часу думалі некаторыя на аснове дробных, супярэчных фактычнаму стану рэчаў, юрыдычных даных) [5]).

З. Бядуля так апісвае тагочасны зьмест Луцкевічавых збораў: „У музэі І. Луцкевіча кожны мог бачыць багатыя колекцыі беларускіх

[1]) Пар. М. Касьпяровіч. Беларуская навука да Кастрычніка і пасьля яго. Менск 1927.
[2]) Пар. М. Касьпяровіч. Краязнаўства. Менск 1929, ст. 13-16.
[3]) Пар. Записки Северо-Западного Отдела, Вільня 1910, кн. 1, ст. 7.
[4]) Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча. „Беларускі каляндар на 1929 год“, Вільня 1928, ст. 61-63.
[5]) Пар. М. Касьпяровіч. Беларускае мастацтва і яго дасьледчыкі. „Савецкая Беларусь“ М. 1924, №№ 197, 198; Дасьледчыкі беларускага мастацтва. „Сын Беларуса“ Вільня 1924, № 39; М. Касьпяровіч. Прадмова да „Крашаніны“ І. Р. Фурмана, Віцебск 1925.

тканін, паяскоў, слуцкіх паясоў, князёўскія пячаці, зброю, залатыя і сярэбраныя пасудзіны, касьцельныя і царкоўныя маетнасьці — усё ў беларускім стылі; розныя старасьвецкія кнігі, граматы і шмат іншых рэчаў, датычачых нашага краю. Паміж іншым... Коран, пісаны пабеларуску арабскімі літарамі"[1]). Свой музэй зьбіральнік сьцярог лепш чым самога сабе і амаль ніколі нікому не даваяраў яго. „Аднаго разу зірнуў я ў яго архіў-музэй, што быў заўсёды на замку, як нейкі найдаражэйшы скарб, як праца, якая патрабавала значнага часу і, сабраная ў скарбонку, замыкалася моцна, каб ніхто ня сьмеў паварушыць яе без патрэбы, — пісаў аб пазьнейшым часе Краўцоў. Увечары, пры электрычным асьвятленьні, дзядзька Іван увёў мяне, як старадаўні мудрэц, у сваю кумірню. Вочы мае прабеглі па паўнюткім пакоі, па сьценах і вокнах. Чаго толькі ня ўбачыў я! І старыя генэральскія портрэты, і татарская рукапісная кніга на беларускай мове, і маленькія збаночкі і проста квяцістыя чарапкі, сьведкі нашага старадаўнага ганчарнага промыслу і мастацтва. Дзядзька Іван на мае раптоўныя запытаньні кінуў некалькі тлумачэньняў і пасьпешна, раптам пачаў выводзіць мяне назад з музэю, прыгаварываючы: „Ой, дзе тут табе разабрацца ўвечары. Тут ня толькі за дзень, але і за месяц усяго не растлумачыш". Ён, як відаць, па свайму ўжо прызвычаеньню, выпіхаў мяне з музэю, бо ня верыць мне ён ня мог, і зараз-жа, як толькі мы вышлі ў суседні пакой, ён сказаў мне, выходзячы можа яшчэ на якую сходку беларусаў (ня гледзячы на даволі позны час): „Але глядзі, каб замкнуў, вось табе ключ, нікога чужога ня пушчай!" Ён паверыў мне цэлы беларускі скарб, але зрабіў гэта за мінуту пасьля таго, як вывеў чамусьці мяне з гэтае скарбонкі"[2]).

20 жніўня 1919 году Іван Луцкевіч, на чужыне ў курорце Закапаны, памёр ад сухот[3]), ад тае хваробы, якою ў цяжкіх жыцьцёвых умовах увесь час хварэў і якая зьнішчыла так шмат беларускіх культурнікаў. Перад сьмерцю Іван Луцкевіч сабраны ім музэй падарыў беларускаму працоўнаму народу. Выконваючы яго волю, заснаванае ім у 1918 годзе, Беларускае навуковае таварыстаа ў Вільні, адчыніла музэй у 1921 годзе[4]) і назвала яго імем яго зьбіральніка Івана Луцкевіча.

Кароценькае апісаньне сучаснага стану яго ў хронолёгічным парадку экспонатаў дадзена ў наступных зьмястоўных радкох: „Найстарэйшыя прадметы ў музэі — гэта памяткі па нашых прашчурах з каменнага веку, калі каменная сякерка была адзінай прыладай у руках чалавека, будаваўшага з ёю першабытныя будыніны для жыльля і г. п. У музэі ёсьць цэлы рад курганных выкапняў — гаршчэчкаў, каменных сякерак і малаткоў, усялякіх аздоб з каменя, а пасьля медзі і жалеза, ды бронзавых і жалезных інструмэнтаў.

За імі ідуць памяткі пачаткаў дзяржаўнага жыцьця Беларусі — у межах полацкага княства. Гэта — персьцень (сыгнэт) з пячаткай полацкага князя Ўсяслава, апетага пяўцом „Слова аб палку Ігаравым" (з XI стагодзьдзя), ды пячатка ад такога-ж персьценя князя Барыса (з XII стагодзьдзя). Яны займаюць пачэснае месца ў колекцыі сярэднявечных персьцянёў і пячатак.

1) З. Бядуля. Іван Луцкевіч. „Звон", М. 1919, № 7.
2) Краўцоў Макар. Мае ўспаміны аб Івану Луцкевічу. „Звон" М. 1919, № 6.
3) Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча. „Беларускі каляндар на 1929 г." В. 1928, ст. 63.
4) М. Касьпяровіч. Краязнаўства, М. 1929, ст. 90.

Ня менш пачэснае месца займае пячаць літоўскага князя Мендаўга, які сядзеў на пасадзе ў Наваградку (у XIII ст.) і абвясьціў сябе каралём Літвы. Пячаць гэтая апісана нядаўна памёршым літоўскім вучоным, д-рам Янам Бассановічам („Lietuviu Tauta“ кн. I і ў асобнай брошуры п. з. „Печати короля Миндовга и вел. князя Кейстута“, Вільня, 1913 году). Надпіс на пячаці зроблены знакамі, якіх дагэтуль вучоныя не здалелі расчытаць. Яны вельмі напамінаюць сваім характарам тыя знакі (літары), якія сустракаем на кафлях і цэглах з Каложскае царквы ў Горадні—прыблізна з таго-ж часу (XII веку).

Вельмі багата колекцыя монэт Беларуска-Літоўскага гаспадарства (Вял. Княз. Літоўскага), ды на-жаль яе дагэтуль нельга аглядаць бо ў музэі ня было магчымасьці зрабіць вітрыны і разлажыць монэты і мядалі для агляду пад шклом.

Але найбольш цікаўныя нашы культурныя помнікі ў пастаці рукапісных кніг і грамат (на паперы і пергаманьце) ды кніг старадрукаў.

Найстарэйшы рукапіс, які ёсьць у музэі, гэта — эвангельле з XIV стагодзьдзя, пісанае рукой і аздобленае дужа харошымі застаўкамі і абразамі чатырох эвангелістаў. Пісана ў Наваградчыне. Формат — у 1/1 ліст (folio).

Пятнаццаты век прадстаўлены „Аглашэньнямі“ Тодара Студыта; рукапіс напісаны ў 1476 годзе нейкім Іванчыкам, служкай Івана Сямёнавіча, пісара вялікага князя Аляксандра Ягеллона, у Вільні (folio). Але найбагацей рукапісаў з XVI ст. Тут маем: дужа пекнае эвангельле з застаўкамі і абразамі эвангелістаў (1/4 ліста), паходзячае з царквы ў Мелішэве, каля Бярэсьця; Слуцкі помнік з 1517 г. (folio); дзеяньні апосталаў з запіскамі (сямейная хроніка) сям'і Бунакоў (кальвіністаў) з пачатку XVII ст., пісаныя перш пабеларуску, пасьля папольску, хаця тыя Бунакі жылі на Жмудзі, каля м. Росені; трэбнік з 1545 г., пісаны дзяком Ярмолай у двары Шышкінях „подле места Виленскага за рекою Вельею“ для Жыравіцкае царквы па загаду маршалка Аляксандра Солтана (аб чым ёсьць прыпіска перапісчыка), з дзьвюма прыгожымі застаўкамі (folio); урэшце, паміж іншымі рукапісамі таго часу, арабскімі літарамі і беларускай мовай пісаны „Аль Кітаб“ (folio), сьвятая кніга нашых мусульман, якія былі ўзяты ў палон вял. княз. Вітаўтам у часе войн з татарамі і асаджаны вольна на Беларусі, ды, пабраўшы сабе за жонкі беларусак, забыліся хутка сваёй мовы і зусім зьбеларушчыліся. Найцікавейшы з рукапісаў XVII веку — устаў младзечанскага брацтва ў Дзісьне (folio), а з XVIII ст. — „Аляксандрыя“, або гісторыя Аляксандра Македонскага, і псвесьць пра Баву (1/4 ліста).

Цэлы рад грамат польскіх каралёў і вял. князёў Літоўскіх, духоўных і сьвецкіх уладаў з XVI і XVII ст. ст. сьведчыць найлепей аб тым, якая мова панавала тады ў межах вял. княства Літоўскага: усе яны пісаны пабеларуску, і каралі: Стэфан Баторы, Жыгімонт III і інш. толькі падпісваліся палатыні.

Бібліотэка музэю мае некалькі тысяч томаў старых і новых кніг, як беларускіх, так і датыкаючых Беларусі. Найстарэйшая друкаваная кніга ў Беларускім музэі—гэта „Трыоць цветная“, надрукаваная для ўжытку беларусаў і украінцаў Швайпольтам Фіолем па загаду караля Казіміра Ягеллона ў 1491 годзе ў Кракаве; кніга напісана старабалгарскай мовай, але розныя ўвагі надрукаваны пабеларуску (folio).

Як ведама, найстарэйшая кніга, напісаная ўся пабеларуску,—гэта біблія д-ра Францішка Скарыны з Полацку, надрукаваная ім у Празе

Чэскай у 1517 годзе (1/4 ліста). Музэй ім. Ів. Луцкевіча мае толькі невялічкую частку гэтага нязвычайна рэдкага друку—усяго 70 лістоў, але і гэта вельмі цэнна, бо паказвае, якой мовай пісаў Скарына і якімі літарамі друкаваў.

Да лічбы „белых крукоў“ музэю належыць і статут літоўскі, напісаны пабеларуску і першы раз надрукаваны ў гэтай-жа мове ў Вільні ў 1588 г., у друкарні беларускіх культурных дзеячоў братоў Мамонічаў (folio). Ёсьць і вельмі рэдкі віленскі друк „Казание Кирила“ з 1596 году (1/4 ліста), дзе надрукаваны пабач беларускі і польскі тэкст.

З Беларусі друкарства перайшло ў Маскву і адтуль—ізноў-жа праз Беларусь—на Украіну. У Маскве першымі друкарамі былі: беларус Пётра Мсьціславец (вучань Скарыны) і масквіч дзяк Іван Фёдараў. Яны ў 1564 годзе надрукавалі дзьве кніжкі, але мусілі хутка стуль уцякаць, бо збунтаваныя пісцамі, якія трацілі свае заробкі з прычыны конкурэнцыі друкароў, папы маскоўскія разграмілі першую друкарню. Вось, адна з гэтых кніжак ёсьць у беларускім музэі: гэта „Часаслоў“ 1564 году, маленькага фармату.

Да рэдкіх друкаў XVII ст. належыць „Учительное евангелье“ 1618 г. з друкарні ў м. Еўі (недалёка ад Вільні), „Повесьць пра Варлаама і Іоасафа“ з 1637 году з друкарні Кутэйнскага манастыра (у Магілеўшчыне), ды шмат іншых, друкаваных у Вільні, Еўі, Супрасьлі і г. д.

У іншых мовах ёсьць вельмі рэдкія друкі, пачынаючы ад XV стагодзьзя; у тым ліку ёсьць кніжкі з даўно ўжо няіснуючых нашых краёвых друкарань, як у Лоску, Семятычах (у дварэ) і інш., а таксама з друкарань у Нясьвіжы, Слуцку, Полацку, Горадні, Магілеве і г. д.

Урэшце, у музэйнай бібліотэцы сабраны вельмі рэдкія беларускія друкі з пачатку нашага адраджэньня (з XIX ст.), як Рыпінскага „Białoruś“ (Paryż 1840), зборнікі песень Яна Чачота, беларускі катахізм з 1835 г., першыя выданьні твораў Марцінкевіча і Багушэвіча, брошуры палітычнага характару („Пра беднасьць та багацтво“) Драгоманава, Жэнева 1881 г.), экзэмпляр падпольнае часопісі „Гоман“ з 1884 году (на расійскай мове), друкі з пачатку XX ст., комплекты „Нашае долі“ і „Нашае Нівы“, ды бадай усё, што ад таго часу друкуецца пабеларуску. Вельмі многа таксама кніжак у розных мовах да беларусазнаўства (гісторыі, этнографіі, краязнаўства, філёлёгіі і г. д.).

Побач з невялікім пакуль-што аддзелам беларускага народнага мастацтва (разьба з дрэва, „лубкі“ і інш.) многа цікаўных абразоў краёвых мастакоў (Смуглевіч, Сьленьдзіньскі, Русецкі і інш.), ды царкоўных ікон. Цікаўна колекцыя старых медных крыжоў (ад XI ст.), а між імі—„зьмеявік“—круглы медны мадалік з паганскім богам з аднаго боку і хрысьціянскімі сьвятымі—з другога (XI ст.).

Сабраны беларускія музыкальныя інструмэнты (дуды, ліра, цымбалы, трубы пастырскія і т. п.). Вельмі цікаўная колекцыя антымінсаў (рысункі, адбіваныя на палатне і шоўку, гравюр на медзі і дзераве), ды медных і драўляных дошчак да адбіваньня гравюр.

У аддзеле тканін мала, на-жаль, нашых народных вырабаў. Вялікая колекцыя іх, якая ў 1918 годзе была выстаўлена ў Менску на выстаўцы, прапала (ці ўкрадзена) пры перасылцы яе з Менску ў Вільню, і ў музэі асталася дробная частка гэтых вырабаў. Трэба спадзявацца [1]),

[1]) Невялікая частка гэтых рэчаў адшукана ў Менску і знаходзіцца ў Дзяржаўным Музэі (Менск). *М. К.*

што беларускае сялянства ўспаможа музэй, пасылаючы яму свае тканіны, вопраткі і інш.

З старадаўных тканін вельмі цікаўны захаваныя ў музэі аблачэньні (сакосы) уніяцкіх мітрапалітаў, вышываныя золатам і серабром, шляхоцкі кунтуш з жупаном, гарсэцікі жаноцкія з золататканых слуцкіх матар'ялаў, урэшце — колекцыя слаўных слуцкіх паясоў, шаўковых ды з золатам. Шмат таксама іншых ручных работ.

У аддзеле начыньня—старыя і сучасныя гліняныя, медныя, цыновыя гаршчэчкі, вазы, талеркі і інш.

Урэшце ў аддзеле старадаўнае зброі ёсьць панцыр сталёвы на чалавека, часьць таго-ж на каня, кальчугі, меч крыжацкі, цэлая колекцыя шабляў, ятаганаў, стрэльбаў, пісталетаў, лукаў і да т. п. У тым ліку — аружжа нашых сялян: рагатыны і дубінкі, якімі народ некалі змагаўся з рыцарамі-наезчыкамі. Пры музэі — багаты беларускі архіў“ [1]).

На жаль, у гэтых кароценькіх радкох пра экспонаты музэю аддадзена выключная ўвага рэчам гістарычнага значэньня ды да таго бяз жаднага клясавага падыходу, як відаць, каб падкрэсьліць, што музэй „перахоўвае надзвычайна цэнныя памяткі нашае старое культуры, сьведчачы вельмі красамоўна аб яе самастойнасьці і вялізарным уплыве на суседнія народы“ [2]). Паміж тым, для беларускіх рабочых і сялян інтарэсы якіх музэй заклікаены абслугоўваць, такое вызначэньне клясавай сутнасьці экспонатаў няўхільна вымагаецца. Таксама неабходна належнае зьбіраньне, экспонаваньне і апісаньне экспонатаў, якія-б усебакова адлюстроўвалі сучаснае жыцьцё беларускіх працоўных мас. Як відаць з папярэдніх цытат такія экспонаты ў музэі ўжо ёсьць, але зрабіць музэй такім, якім ён з часам будзе, і так апісаць, як ён будзе апісаны, зараз, калі Заходняя Беларусь стогне пад ботам польскіх паноў, немагчыма.

Бо „і таварыства і музэй ня маюць ніякіх фундушаў, рэчы, кнігі і дакуманты без апекі і патрэбнае аховы трухлеюць і гніюць (пакоі ўзімку не апальваюцца, ад чаго сырасьць ня выводзіцца“ [3]), і „далейшае трываньне такога стану рэчаў можа прывясьці да поўнай катастрофы Беларускага навуковага таварыства, а асабліва музэю“ [4]). Гэта ня тое, што ў нас, дзе энтомолёгічны музэй сабраны Плюшчыкам-Плюшчэўскім, культурна-гістарычны—Брадаўскім і г. д., падараныя зьбіральнікамі беларускаму працоўнаму народу, зьмешчаны ў найлепшых будынках Віцебску і інш. месц, абслугоўваюцца спэцыяльным навуковым пэрсоналам і маюць патрэбныя кошты па дзяржаўным бюджэце, бо ў нас народныя грошы ідуць на задавальненьне патрэб працоўнага народу, а ня ў кішэні паноў. У той час, як нашы музэі наведваюцца дзесяткамі тысяч наведвальнікаў у год, Беларускі музэй імя Івана Луцкевіча ў Вільні фактычна зачынены: „Беларускі музэй мае шмат экспонатаў, вельмі цэнных і вельмі рэдкіх і багацейшую бібліотэку беларусазнаўства... і ўсе гэтыя рэчы, надзвычайнай цэннасьці, ляжаць зьвязаныя і запакаваныя ў пяці пакоях цяперашняга памяшканьня, сырога і няпрыгоднага. Такім чынам цяперашні музэй

[1]) А. Луцкевіч. Скарбы Беларускага музэю ім. Івана Луцкевіча ў Вільні. „Беларускі каляндар на 1929“. В. 1928, стар. 64—68.

[2]) Там сама, ст. 64.

[3]) М. Касьяровіч. „Наша Ніва“ і краязнаўства. „Наш Край“ М. 1928, № 6-7, ст. 23.

[4]) Да беларускага грамадзянства і беларускіх установ у краі і за граніцай. „Беларускі каляндар на 1929 г.“. В. 1928, стар. 69.

прадстаўляе сабой ня музэй, а склад музэйных рэчаў, зваленых і запакаваных, і то хутка ўжо ня будзе дзе класьці новапаступаючых экспонатаў, якія прыбываюць з кожным днём з усіх бакоў. У такім самым стане знаходзіцца і беларускі архіў. Такім чынам музэйныя і архіўныя цэннасьці ня толькі ня могуць быць даступны грамадзянству, але яны ў такім стане нішчацца, бо звалены ў цесным, сырым і неадпаведным памяшканьні“ [1]). І ня дзіва—Віленскі панскі магістрат ня Менскі гарсавет: ён хоча, каб нішчыліся ня толькі беларускія культурныя цэннасьці, але і самі беларусы. Самі палякі прызнаюць, што грамадзкі Беларускі музэй імя Ів. Луцкевіча ў Вільні побач з якім дзесяткам дзяржаўных польскіх Віленскіх музэяў, якія існуюць на грошы беларускага народу, ня можа ў сучасным сваім стане адыгрываць значнай навуковай і асьветнай ролі [2]).

Лепшыя часы прыдуць для Беларускага музэю ў Вільні тады, калі прыдуць лепшыя часы для сялян і работнікаў Заходняй Беларусі.

---

[1]) Там сама, стар. 69.
[2]) Пар. Wł. Antoniewicz. Muzea Wileńskie. „Źródła mocy“, Wilno 1928, zeszyt Nr. 4, st. 42-43.

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

Усевалад Мікіцінскі.

## Дванаццаць дзён краязнаўчага вандраваньня [1])

*(Матар'ялы з падарожы па Слуцкім, Грэскім, Пухавіцкім і Стара-Дароскім раёнах).*

### Вёскі Парэчча, Кнорын (Амельна) Суцін, Пухавіцкага раёну.

А восьмай гадзіне раніцы 31-VII накіраваліся на в. Парэчча, ад Шчыткавіч да якой лічыцца 15 вёрст. Прайшлі новы пасёлак Някрасаўку, а потым Лавы. Відаць, людзі жывуць досыць заможна, займаюцца пчалярствам, бо пры кожнай гаспадарцы ёсьць вульлі. Тут-жа за пасёлкам працякае безназоўны ручай, берагі якога парасьлі алешнікам. За Лавамі пачынаецца вельмі прыгожая мясцовасьць, дарога праходзіць праз мяшаны лес з дубу, елкі, хвоі, асіны, бярозы, альхі, арэшніку і розных хмызьнякоў; перарываецца ён палянкамі з добрымі пасевамі.

Вёска Парэчча Пухавіцкага раёну Менскай акругі распалажана на правым, больш узвышаным беразе р. Птычы. Налічвае яна каля 200 хат, распаложаных па дзьвюх вуліцах. Уражаньне яна робіць дрэннае, хаты нейкія пачарнелыя, пахілыя, з маленькімі падсьлепаватымі ваконцамі, бяз усякага аздабленьня, крытыя драніцамі. Расьліннасьць у вёсцы амаль адсутнічае. Вуліцы вузкія, гразкія, нават у сухую пору году, і толькі тая частка вуліцы, якая распалажана на больш узвышанай мясцовасьці, відаць, перасыхае. Тут стаіць царква з досыць цікавай званіцай. Насельніцтва займаецца земляробствам і патроху рыбацтвам, але апошняе ня лічыцца пабочным заробкам, бо рыба йдзе выключна на сваю спажыву. Птыч у Парэччы досыць шырокая, пазарастала вадзянымі расьлінамі. З гатункаў рыбы трэба адзначыць самоў, якія тут пападаюцца больш пуду вагой. Сяляне вельмі нездаволены рэчкай, скардзяцца на тое, што яна нейкая гнілая, моцна забалочвае мясцовасьць і ствárае шмат вільгаці. Левы бераг ракі зусім нізкі, забалочаны, па ім распаложаны сялянскія сенажаці. Трэба адзначыць, што насельніцтва нейкае панурае, няветлівае, падазрона глядзіць на староннягa чалавека. У Парэччы ёсьць двухкомплектная

[1]) Гл. „Наш Край“ №№ 1, 2 за 1929 г.

школа, хата-чытальня, коопэратыў з голымі паліцамі і пажарная дружына, для якой пабудавана нейкае рыштаваньне, замест каланчы. Каля школы стаіць старая капліčка, якая знаходзіцца ў страшэнным занянадзе: вокны павыбіты, панакідана сьмецьце і розны бруд. У гэтай капліцы знаходзіцца старажытны каменны крыж, які лічыўся „цудоўным“. У адлегласьці 2 кілёмэтраў ад Парэчча, яшчэ зусім нядаўна працавала вялікая шкляная гута, але з прычыны перапляноўкі яе зачынілі. Троху адпачыўшы, пайшлі ў напрамку на вёску Кнорын (Амельна), да якой будзе кілёмэтраў з дзесяць. Па выхадзе з вёскі праходзілі праз новы, добра збудаваны і дагледжаны мост праз Птыч. Усюды стаяць кадкі з пяском і вадой, пажарныя драбіны і багры. Тутжа, каля мосту, стаіць пажарны сарай і ў невялічкім будынку жыве спэцыяльная варта пажарнай аховы НКШЗ. Птыч у гэтым месцы шырокая, дасягае да 150 мэтраў, вольная ад расьлін. Адсюль да самага Кнорына дарога добрая, толькі што пракладзеная, ідзе ўвесь час лесам. Прыблізна а 6 гадзіне ўвечары прышлі ў Кнорын.

Вёска мае адну вуліцу працягам да трох кілёмэтраў. У процілегласьць чорнаму і нуднаму Парэччу, яна зьдзіўляе гледача сваім выглядам. Гэта ня вёска, а запраўдны горад, прынамсі будова нічым не адрозьніваецца. Дамы вялікія, крытыя гонтамі, чарапіцамі і жалезам; вокны вялікія, сьветлыя, усюды на вокнах фіранкі і вазоны з кветкамі. Аздабленьне хат вельмі багатае, асабліва вызначаюцца ганкі, шчыты, орнамэнт якіх часта па сваёй складанасьці напамінае гафту. Усюды назіраецца заможнасьць і нават некаторы комфорт: у многіх гаспадароў ёсьць швэйныя машыны, кафельныя печкі, падлогі дашчатыя, усюды — чыстасьць, палавіцы — зьявішча для нашых вёсак нязвычайнае. Ня гледзячы на ўсё гэта, сяляне чамусь лічаць сябе беднякамі. У вёсцы ёсьць тры громаадхілы, школа, сельсавет, хата-чытальня з радыё, коопэратыў, прыпынак пошты. Часта сюды наяжджае кіноперасоўка.

1-га жніўня, а 5 гадзіне вільготнай туманнай раніцы, накіраваліся на вёску Суцін, якая знаходзіцца ў адлегласьці ня больш 15 вёрст. Дарога праходзіць пабольшасьці лесам, мясцовасьць прыгожая — усё песьціць вока. Большая частка лесу, як сьведчаць слупы, належыць да Сенчскай лясной дачы. У самай гушчыні лесу, на невялікай палянцы, стаіць засьценак Заржэва ў некалькі добрых хат. На працягу дарогі да Суціна, распаложаны хут. Шэляхі, пас. Купрэвічы і маленькая, у 13 хат, вёска Рудня; апошняя мае вельмі прыемны выгляд, пры кожнай хаце невялічкі вішнёвы садок. Недалёка вёскі Рудні працякае р. Талька, якую ў сучасны момант ачышчаюць, мабыць паглыбляюць, для мэт мэліорацыі. Ад Рудні да Суціна тры вярсты, якія праходзім палямі з пасевамі ніжэй сярэдніх.

У Суцінскім сельсавеце сустрэлі нас вельмі ветліва. Старшыня сельсавету, тав. Казлоўскі, накіраваў нас для начлегу ў памяшканьне польскай школы. Вёска Суцін значная, знаходзіцца ў прыгожай, роўнай мясцовасьці, мае нейкі раскіданы выгляд. Вуліца часта перарываецца алешнікам, потым зноў працягваецца. Хаты ўсюды добрыя, наўкол шмат расьліннасьці, асабліва вішняку. Уваходзячы ў вёску, кідаюцца ў вочы 4 антэны Суцінскіх радыё-аматараў. У вёсцы ёсьць: сельсавет, комсамольская ячэйка, польская нацыянальная школа, хатачытальня з радыё, пажарны сарай. Большасьць сялян, ласьне 75%, складаюць палякі, а потым — беларусы і яўрэі. Займаецца насельніцтва земляробствам, але глеба ня спрыяе ўраджайнасьці. З будынкаў вы-

значаецца памяшканьне польскай школы, яно двухпаверхавае, цікавае архітэктуры, адпавядае ўсім патрэбам школьнае гігіены.

У некаторай адлегласьці ад вёскі распаложаны паасобку каталіцкія і праваслаўныя могілкі. Каля праваслаўных могілак стаіць старэнькі, драўляны касьцёл, тут-жа знаходзіцца прыгожая каплічка, дзе на падстаўцы знаходзіцца памастацку выкананая з дрэва фігура Хрыста, ён сядзіць у нейкай задуменасьці; фігура афарбавана ў натуральныя колеры. Праваслаўныя могілкі парасьлі дубамі і хвоямі, на якіх знаходзяцца 12 сялянскіх вульляў. Капліцу тут замяняе звычайная сялянская хата з невялічкім крыжыкам на ганку. Вакольнае насельніцтва мае цягу не да свайго раённага асяродку, а да ст. Талькі, куды вывозяць розныя продукты спажываньня.

### Ад вёскі Крымка да м. Старых Дарог.

Вёска Жыцін, куды мы накіроўваемся, ужо Стара-Дароскага раёну. Мясцовасьць, па якой праходзім — балотлівыя нізіны, парослыя хмызьняком, але ісьці добра, бо дарога дагледжана, высока насыпана і аплецена бярозавымі прутамі. Так да в. Крымок. У апошняй ня спыняемся. Крымок мае 160 хат, усе старыя, сярод іх вызначаецца новая хата каваля, які, відаць, паклаў шмат часу на яе аздабленьне. Краявід да самага Жыціна чыста палескі.

Вёска Жыцін, калісь валаснoe сяло, у далёкім мінулым ўваходзіла ў маемасьць кн. Радзівілаў, у сучаснасьці — адміністрацыйны пункт Жыцінскага сельсавету Стара-Дароскага раёну. Ня так даўно яна была значным паселішчам, але ў 1900-5 г. перайшла на хутары, так што самая вёска засталася нязначнай. Жыцінскія хутары раскіданы па Птычы, якая ў гэтых мясцох працякае сярод нізкіх, балотлівых берагоў. Каля самае вёскі рэчка разьбілася на некалькі рукавоў, якія ў часе веснавой паводкі шырака разьліваюцца, затапляючы вялікія абшары. Асноўным заняткам сялян—земляробства, таксама тут пашырана паляўніцтва. Некаторы час сялянства добра зарабляла на пракладцы новай дарогі паміж Крымком і Жыціным, а таксама на пабудове мосту праз Птыч. У Жыціне ёсьць: сельсавет, школа, коопэратыў, партыйная і комсамольская ячэйкі. Трэба адзначыць працу сельсавету, які складаецца выключна з маладых хлапцоў комсамольцаў. Яны вельмі жвава праводзяць культпрацу сярод сялянства. Часта праводзяць суботнікі, апошні з якіх быў праведзены на карысьць кітайскага комсамолу, дзеля чаго ўся ячэйка працавала на рэмонце дарогі, прычым так старанна, што ў адзін працоўны дзень выпрацавалі палутарную норму, зарабіўшы такім чынам 26 руб. 49 кап.

Працаўнікі сельсавету аднесьліся да нас вельмі сардэчна, зацікаваліся справай краязнаўства. На разьвітаньні яны далі паперу да члена сельсавету ў Масеевічы аб аказаньні нам дапамогі.

Ад Жыціна да Масеевіч 8 вёрст. Мясцовасьць роўная, лясы адсутнічаюць і толькі дзе-ні-дзе белымі плямамі вызначаюцца бярозавыя гаёчкі. Дарога праходзіць праз палі, недалёка Птыча. Не даходзячы некалькіх кілёмэтраў да Масеевіч, на ўзгорку стаіць паравы млын прыватніка Ашаровіча. Млын добра працуе, бо зьяўляецца адзіным на ўсю акругу. А першай гадзіне 2 жніўня дайшлі да вёскі Масеевіч.

Дзень быў сьвяточны (Ільля ст. стылю). Народ адпачываў на прызбах. Распаложаны Масеевічы на правым беразе Птыча, налічваецца каля 160 хат. Насельніцтва займаецца земляробсвам,т рыбацтвам, па-

ляўніцтвам, разьвіта таксама пчалярства, на што паказваюць вульлі, якіх у кожнага гаспадара па некалькі. У хуткім часе мяркуюць выбрукаваць вуліцы ў вёсцы, для чаго навезена шмат каменьня. Масеевічы зьяўляюцца апошняй вёскай у нашай падарожы, распаложанай на Птычы. Пакінулі Масеевічы 3 жніўня, кіруючыся на возера Скачальскае, Фалічы і Старыя Дарогі.

## Возера Скачальскае.

Возера Скачальскае знаходзіцца прыблізна ў 5 вярстах ад вёскі Масеевічы, у паўднёвым кірунку, у дрыгвяной балотлівай мясцовасьці. Наўкол берагі парасьлі невялічкім хвойнікам з падмешкай бярозы і дзе-ні-дзе лазы. Падыйсьці да яго лепш за ўсё з боку былое вузкакалейкі, якая калісь была пракладзена да ст. Асіпавіч, з мэтай вывазу лесу. Былы абшарнік, якому належала возера, праклаў праз балота добрую грэблю, ад якой у сучасны момант засталіся рэшткі. Па іх зусім вольна можна падыйсьці да самае вады. Нельга сказаць, каб берагі былі непраходнымі, відаць, торп добра спрэсаваўся і толькі пры моцных штуршкох троху калыхаецца. Узровень вады высокі, берагі ўзвышаюцца ня больш як на чвэрць аршына. Як у вадзе, так і па берагох адсутнічаюць вадзяныя расьліны. Пра возера Скачальскае існуе трафарэтнае паданьне, з якога відаць, што яно зьявілася на тым месцы, дзе правалілася царква. Другое апавяданьне, больш цьвярозае, кажа аб тым, што шмат гадоў таму назад, у часе вялікай засухі, кавалак балота, на месцы якога знаходзіцца возера, ад вялікай сьпякоты запаліўся, пагарэўшае месца асунулася і запоўнілася вадой. Бясспрэчным зьяўляецца тое, што яно з кожным годам павялічваецца з прычыны абвалу берагоў. Старыя казалі, што іх дзяды памяталі, калі замест возера быў невялічкі ставок ці прыродная сажалка. У часе непагоды па возеры ходзяць вялікія хвалі, ад штуршкоў якіх абвальваюцца падмытыя берагі, ствараючы ў некаторых мясцох невялічкія бухтачкі. Возера, як кажуць, знаходзіцца ніжэй роўню вады ў Птычы, на два сажні. Купец, які арандаваў возера, зрібіў абмер апошняга, прычым аказалася, што яно займае плошчу ў 49 кв. дзесяцін. Ні з якімі рэчкамі і канавамі яно ня злучана, яно цесна замкнёнае. Найбольшая глыбіня яго каля берагоў дасягае да $1^1/_2$ саж. а найменшая — пасярэдзіне, да 1 арш., тут нібы падводная выспа з ілаватым грунтам. З рыб у возеры водзяцца толькі шчупакі, вельмі цёмнага колеру, з плямамі, яны дасягаюць вагой да 1 пуду. Потым акуні і ў самым нязначным ліку яршы. Акрамя гэтых гатункаў другой рыбы няма, хаця былы абшарнік на працягу некалькіх гадоў імкнуўся завесьці іншую рыбу, пускаючы цэлымі кашамі малькоў, але ўсё дарэмна, драпежнікі зьнішчалі іншыя віды. У сучасны момант насельніцва мала карыстаецца возерам з прычыны значнай адлегласьці ад нясельных пунктаў, а таксама траскасьці берагоў і глыбіні, якія перашкаджаюць лову. Дзякуючы таму, што на возеры амаль ніколі ня бывае людзей, на ім шмат разьвялося качак і дзікіх гусей, якія адчуваюць сябе зусім вольна, непалахлівыя, плаваюць цэлымі стаямі і на чалавека не зварочваюць увагі. Досыць наглядзеўшыся на гэты прыгожы куток, дзе як у люстры адбіваецца хараство вакольнай прыроды, мы пайшлі далей па дарозе былое вузкакалейкі ў напрамку на ст. Фалічы. Дарога праходзіць мяшаным лесам, які пабольшасьці расьце па мокрых нізінах, але ісьці добра, бо насып высокі. Абапал дарогі цудоўныя прысады,

якія зьверху замыкаюцца галінамі дрэў, ствараючы расьлінны тунэль. Прайшоўшы па ёй 6 вёрст, з жалем пакідаем яе, зварочваем у бок каля Смалярні і падыходзім да ст. Фалічы. Тут троху адпачыўшы, па лініі чыгункі, пайшлі на ст. Старыя Дарогі.






























## Мястэчка Старыя Дарогі.

Мястэчка Старыя Дарогі, а раней проста Дарогі, адносяцца да старых паселішчаў Случчыны, успамінаюцца ў гістарычнай літаратуры пад 1582 г. У гэты час мястэчка зьяўлялася маемасьцю Князёў Алелькавічаў Слуцкіх і ў памянёным годзе пасьля падзелу паміж трыма братамі Алелькавічамі і самае мястэчка было падзелена. Адну частку атрымаў Ян-Сымон, другую мабыць Аляксандар. У Дарогах знаходзіўся княжацкі маёнтак. У 1646 годзе двор Дарогі трымалі Цішэвіч

(мабыць войт Слуцкі) і Лаўрышэвіч. Мястэчка Дарогі было значным паселішчам: па рэестры аб ліку цяглых людзей у межах княства Слуцкага, відаць, што ў 1690 г. у ім налічвалася 346 дымаў [1]), а ў 1717 г.—279 дымаў. Такім чынам, апошняе за час выйны расійскага цара Пятра І-га з Швэдамі страціла 67 дымаў. Аб гісторыі бліжэйшых часоў (яўрэйскага пасёлку) мы даведаліся з кароткага нарысу, які злажыў жыхар мястэчка Папко, які, служыў спачатку ў пана, а потым у валадароў заводу. З гэтага нарысу відаць, што ў 1891 г. лясныя масывы, якія абкружалі мястэчка, належалі ўдаве палкоўніка Сахарава і былі апошняй праданы Лесапрамыслоўцам Поляку і Вэйсбэру. Пасьля пакупкі лесу, яны пачалі будаваць лесапілку, хаты для рабочых і канюшні. З таго-ж часу распачалася пракладка вузкакалейкі для вывазу лесу праз вёску Кармазы, да ст. Фаліч і далей. Пабудаваўшы завод, уладары яго зьвярнуліся да ўраду аб дазволе заснаваць каля заводу яўрэйскі пасёлак. Дазвол быў атрыманы, пасьля чаго акрамя пільні збудавалі фанерны завод, у якім у той час працавала каля 500 рабочых. Такім чынам пасёлак пачаў пашырацца. Па думцы аўтара нарысу, сваю назву мястэчка атрымала з таго, што знаходзілася пры старым шляху. У 1905 годзе на пільні выбухнула забастоўка. Асноўнымі патрабаваньнямі рабочых былі: павялічэньне зарплаты, дармовае лячэньне і ў неабходных выпадках пасылка за межы. Для спыненьня забастовачнага руху прыяжджаў спраўнік. Ня гледзячы на пагрозы, забастоўка ня спынілася; тады былі прыняты рэпрэсыўныя меры, прыслалі роту салдат і сотню казакоў, якія пасьля жорсткіх зьдзекаў ліквідавалі яе, захапіўшы з сабой галоўных правадыроў. У выніку забастоўкі зарплата была нязначна павышана. У 1908 г. згарэў фанерны завод, які потым не адбудоўвалі, рабочыя пачалі разьяжджацца. Затым у 1913 г. згарэла пільня з электрастанцыяй; адбудоўваць іх пачалі, але наступіўшы час рэволюцыі і грамадзянскай барацьбы спынілі гэтую працу і толькі ў 1924 г. пусьцілі пільню, а ў 1926 г. клопатамі РВК была адрэмантавана і пушчана ў ход электрастанцыя, якая ў сучасны момант асьвятляе мястэчка і прыводзіць у рух млын.

Мястэчка Старыя-Дарогі, Менскай акругі, зьяўляецца адміністрацыйным цэнтрам раёну. Налічваецца ў ім 475 сямействаў з агульным лікам 1737 чалавек. Па нацыянальным складзе насельніцтва падзяляецца: яўрэяў 80%, а рэштка—беларусы палякі і расійцы. Па соцыяльным складзе: рабочых і служачых сяброў профсаюзаў 288 ч., саматужнікаў—79, жывучых на сродкі ад гандлёвых опэрацый—32, земляробаў няма.

У мястэчку ёсьць наступныя ўстановы: Райвыканком, Райміліцыя, партыйная і комсамольская ячэйкі, пошта, Райпрофбюро, піонэр-атрад, спажывецкая і сельска-гаспадарчая коопэрацыя і інш.

Складаецца мястэчка з трох галоўных вуліц і некалькіх завулкаў. Будова досыць добрая—гарадзкога тыпу.

Наогул трэба лічыць яго выключна гандлёвым мястэчкам з значна пашыраным контынгентам саматужнікаў; тут ёсьць шаўцы, краўцы, рымары, кавалі бляхары і інш., якія абслугоўваюць ня толькі мястэчка, але нават насельніцтва раёну. Былі спробы організацыі саматужніцкіх колектываў, але апошнія хутка раскідаліся. Акрамя дробных сама-

[1]) Дым—адзінка абкладаньня, якая складаецца з працоўнае сям'і, уладаючай зямельнымі ўгодзьдзямі.

тужнікаў, ёсьць і буйнейшыя; гэтак за мястэчкам знаходзіцца гарбарня, дзе вырабляюцца розных гатункаў скуры, потым некалькі алейняў. З дзяржаўных прамысловых прадпрыемстваў трэба адзначыць пільню, электрастанцыю, паравы млын і яшчэ дзьве смалярні, адна прыватная, а другая будуецца—колектыўная. Пільня мае дзьве цыркуляркі, на ёй вырабляюць дошкі розных гатункаў, якія пабольшасьці ідуць на Украіну. Коопэрацыя ёсьць трох відаў: спажывецкая, сельска-гаспадарчая і крэдытная. Варта адзначыць дзейнасьць спажывецкае коопэрацыі; апошняя мае 1555 пайшчыкаў, з сярэднім паем у 8 руб. Зварот яе за апошнія 9 месяцаў дасягае 263.000 руб. У мястэчку налічваецца 4 коопэрацыйныя крамы і гэтулькі па раёну, прычым мяркуюць адчыніць кнігарню.

Народная асьвета і культпраца досыць шырака пастаўлена як у мястэчку, так і па раёне: у мястэчку ёсьць беларуская сямігодка з 400 вучнямі, 2 чатырохкамплектных школы, з якіх адна яўрэйская і адна двухкамплектная. Шмат школ раскідана па раёне, дзе ў хуткім часе чакаецца адчыненьне сямігодкі. З культурна-асьветных установ мястэчка варта ўспомніць нядаўна адрамантаванае профсаюзнае кіно, нардом з радыё і хату-чытальню, якіх па раёне тры: у Дараганаве, Горках і Новых Дарогах і адна нештатная ў в. Язылі.

Старыя Дарогі досыць багаты культавымі будовамі; тут знаходзяцца праваслаўныя царква, касьцёл, сынагога і некалькі маліцьвеных дамоў. З прадстаўнікоў культу асаблівай популярнасьцю карыстаецца яўрэйскі рабін, але толькі не ў сваім мястэчку, а па-за межамі яго. Апошні часта выяжджае на гастролі ў Маскву, Харкаў, Адэсу, а таксама выступае ў спрэчках на рэлігійныя тэмы з рэдактарам Бабруйскай газэты „Камуніст“.

Калісь у Старых Дарогах было зорганізавана Краязнаўчае Т-ва, у якое ўваходзіла звыш 60 асоб. Было абрана часовае праўленьне на чале з тав. Шаблюком, але дзейнасьць Т-ва так і не разгарнулася. Уся чыннасьць яго абмежавалася 2-ма сходамі па чыста організацыйных пытаньнях і некалькімі гутаркамі з мэтай популярызацыі краязнаўства. У сучасны момант праца зусім заняпала. Ад часовага праўленьня засталіся толькі дзьве асобы. Больш жывучым і працаздольным аказаўся гурток пры сямігодцы. Праца апошняга праводзілася больш у натуралістычным напрамку: сабраны зельнік, досыць значная колекцыя шасьціножак, потым значна сабрана фольклёру, прычым адзін зборнік песень і казак адасланы ў ЦБК., набылі і зложылі колекцыю папяровых грашовых знакаў і інш. Трэба адзначыць, што краязнаўчай справай у мястэчку ніхто ня цікавіцца апроч некалькіх адзінак.

Стара-Дароскі раён складаецца з 11 сельсаветаў (12-ты нацыянальны) з агульным лікам насельніцтва 44.000 чалавек, большасьць якога займаецца ральніцтвам. Гаспадарка вядзецца пастарасьвецку: трохпалёўка, хаця ёсьць спробы і больш культурнага зямлякарыстаньня са здавальняючымі вынікамі. З тае прычыны, што па раёне пераважае дрэнная, неўрадлівая глеба, шмат якое сялянства займаецца і саматужніцтвам, гэтаму ў значнай меры спрыяе пашыранасьць лясоў. Асабліва пашыраны вырабы з дрэва. Напрыклад, у засьценку Дражна займаюцца стальмахствам, такарніцтвам і бандаркай; шмат у якіх вёсках вырабляюць гонты ня толькі для ўласных патрэб, але і на продаж. У вёсцы Мяжлесьсе жывуць два браты Дашкаўцы, якія робяць цымбалы і скрыпкі, асабліва цымбалы высокай якасьці. Пашыраны таксама выраб аўчын, прычым вёска Будзёнічы амаль цалкам гэтым займаецца. Нека-

торыя жыхары вёскі Падарэсься знайшлі новы спосаб падсобнага заробку, гэта падпільваньне зубоў коням, каб лічыліся маладымі. Сярод хатніх рамёстваў вельмі пашырана ткацтва: вырабляюць прыгожыя посьцілкі, суконныя і кужэльныя, рушнікі, наміткі, андаракі, займаюцца гафтаваньнем, плятуць карункі, хусткі і ткуць паясы. Вырабамі паясоў вызначаюцца в. в. Ляўкі, Шапчыцы, Крымок, Краі, Макарычы і Крываносы. Па раёне ёсьць шмат арцеляй. Напр., у Кармазаўскім сельсавеце існуе цагельная арцель, яўрэйскія земляробчыя колектывы; у Палажэвічах, пры саўгасе ёсьць пільня і бровар, у Дараганаве. Пасеках, Залужжы, Новых Дарогах—паравыя млыны з цыркуляркамі, Усяго па раёне налічваецца 8 паравых млыноў, 7 прыватных смалакурань. Трэба адзначыць, што значную ролю ў экономіцы раёну адыгрываюць добрыя шляхі зносін. Амаль праз увесь раён праходзіць чыгунка і шаша, што дае магчымасьць сялянству мець часовыя заробкі падвозкай лесу да станцыі і пілень. Значныя мэліорацыйныя работы, якія праводзяцца ў в. Языль, расчыстка і паглыбленьне рэчкі Арэсы, таксама даюць часовыя заробкі.

Пэрыод польскай окупацыі, а потым бандытызму, цяжка адбіўся на жыцьці мястэчка і раёну. Палякі пры адступленьні нішчылі ўсё, што было магчыма: забіралі, ці ламалі па пільнях і млынох абсталяваньне і машыны, палілі і псавалі масты і будынкі. Бандытызм, які разьвіўся пасьля выхаду польскіх войск, таксама нанёс шмат страт і людзкіх ахвяр. У гэты неспакойны пэрыод было шмат забойстваў з грабеставамі ў вёсках Дражна і Падарэсьсі. Асаблівую „славу“ ў гэтым напрамку набыў былы афіцэр Жук, які спачатку быў у рэўкоме, а потым здрадзіў Савецкай уладзе, зорганізаваў атрад, з якім наводзіў страх на ўвесь раён. Карыстаючыся добрым знаёмствам з мясцовасьцю і падтрыманьнем некаторай часткі насельніцтва, ён бязьлітасна вырэзваў сямействы яўрэяў і савецкіх працаўнікоў. З больш буйных учынкаў трэба адзначыць выпадкі, калі ў в. Радунічах расстралялі чырвонага курсанта, а ў вёсцы Крываносах забілі 12 чырвонаармійцаў і старшыню Рэўкому. Штаб Жука знаходзіўся ў лесе каля в. Жыціна, адкуль кіравалі налётамі. Для ліквідацыі банды накіравалі значны атрад, але апошні нічога ня змог зрабіць, тады ўжылі іншы спосаб: для перамоў з Жукам было абрана ўмоўленае месца, дзе ён сустрэўся з камандзірам палка. Жуку было прапанавана зараз-жа ліквідаваць сваю чыннасьць і распусьціць атрад, самаму-ж забясьпечвалася амністыя ад ЦВК. Так было і зроблена. Жук спачатку працаваў у сельсавеце, потым у крэсткоме, але ў 1927 г. ён пачаў агітаваць проці ўлады, за што быў высланы за межы Беларусі.

### Ад Старых Дарог да Слуцку.

Чацьвертага жніўня пакідаем Старыя Дарогі, ідзем у напрамку на вёску Горкі, да якой лічыцца 15 кілёмэтраў. Праходзім па прыгожай мясцовасьці: абапал шашы хваёвыя прысады і невялічкія ляскі, дзесь па бакох раскіданы хутары, але дарога не дакучае, краявіды зьменьваюцца—то балотцы парослыя хмызьняком, то палі і сенажаці.

Адышоўшы 10 кілёмэтраў ад Старых Дарог, абапал шашы раскінулася в. Солан. Назву сваю яна атрымала ад таго, што нібы па сенажацях сустракаюцца невялічкія вазёрцы з салёнай вадою. Вёска мае 150 двароў і 800 душ насельніцтва. Сяляне з асінавых стружак вырабляюць прыгожыя кошыкі, кветкі, птушкі, усё гэта афарбоўваецца і ідзе на продаж у Слуцак і Старыя Дарогі. Недалёка ад вёскі адзін

селянін у кургане знайшоў грашовы скарб, які адаслаў нібы ў музэй. Праз некалькі кілёмэтраў падыходзім да былога панскага маёнтку Горкі, які знаходзіцца ў прыгожай мясцовасьці на беразе рэчкі Арэсы. Тут узвышаецца двухпавярхавы будынак былы палац пана. Горкі належалі раней адстаўному генэралу Солтану, які на пабудову палацаў улажыў большую частку свайго капіталу, а астачу праелі вельмі хутка, дзякуючы шырокай гасьціннасьці абшарніка.

У сучасны момант у палацах зьмяшчаецца няпоўная сямігодка з шасьці груп з сельска-гаспадарчым ухілам. Для практычнай працы ёсьць вялікі гарод, пладовы сад у 1 дзесяціну з дрэвамі ігруш і яблык, больш зімовых гатункаў. Апрача гароду школа карыстаецца зямлёй, ёсьць тры каровы, два кані. Шмат розных будынкаў, дзе жыве настаўніцтва і тэхпрацаўнікі. Клясы зьмяшчаюцца ў палацах—драўляным двухпаверхавым будынку, крытым чарапіцай. Пакоі ў школе вялізарныя, падлогі паркетныя. У часе нашага побыту адбываўся рамонт: старыя чарапіцы на галоўным корпусе зьменьвалі і крылі жалезам, унутры тынкавалі, чысьцілі, фарбавалі, рыхтуючыся да пачатку навучальнага году. Сярод гаспадарчых будынкаў ёсьць лазьня; быў у маёнтку і вадзяны млын, якога цяпер няма, а плаціну ў часе адступленьня палякоў спалілі. Быў у маёнтку яшчэ другі жылы дом, але ён, як вельмі папсаваны, разьбіраецца, замест яго будуецца новы для школьных патрэб.

У адлегласьці 1½ кілёмэтры ад школы знаходзіцца вёска Горкі, дзе ёсьць сельсавет. Горкаўскі сельсавет складаецца з двух буйных паселішчаў, з самых Горак і вёскі Солана, а потым з нязначных засьценкаў, хутароў і пасёлкаў. Глеба пераважна пяшчаная. Некаторыя пасёлкі перайшлі на шматпольле, пачалі таксама ўгнаіваць сенажаці. У вёсцы Дабрынцы ўсе 25 гаспадароў вясной прапусьцілі насеньне збожжа праз трыер, на чым асабліва настайвала моладзь. Грамадзкая праца ў Горках стаіць досыць высака, ёсьць моцная ячэйка асоавіяхіму, якая налічвае 125 чал.

Пераначаваўшы ў сямігодцы ў настаўніка Кандбовіча, які аказаў нам самую шырокую гасьціннасьць, 5 жніўня пакінулі гэты прыгожы куток. Дайшоўшы да в. Волашава, зварочваем з шашы і па добра знаёмай дарозе накіроўваемся на в. Амговічы; тут ужо мы ідзем па Слуцкім раёне. Засьценак Рыжыцу, Мелітонава і Вілы пакідаем ззаду і пад вечар уваходзім у в. Амговічы. Пераначаваўшы ў добрых знаёмых, 6 жніўня пайшлі дамоў. Ад Амговіч да Слуцку 20 кілёмэтраў.

Некаторы час дарога праходзіць прасёлкамі сярод збожжавых пасеваў. Каля Амухавіч зноў попадаем на шашу, адкуль да Слуцку зусім недалёка. Праз некаторы час праходзім мост праз рэчку Вясейку. А вось сярод дрэў паказаліся царкоўныя крыжы і дахі больш значных будынкаў: то відаць Слуцак.

Набліжаючыся падводзім падагульненьні. Пераконваемся, што толькі праз падарожніцтва можна азнаёміцца з сваім краем. І чаго толькі не давялося за гэты час бачыць і чуць! Тут і шпаркі рост будаўніцтва, і хараство прыроды, а разам з тым беднасьць і жуда. Успамінаюцца гасьціннасьць і спачуваньне да спраў краязнаўства, якое ўсюды аказвалі прадстаўнікі ўлады і насельніцтва.

Уваходзім у горад. Тут канчаем сваю падарож. 6-га жніўня, пасьля 12-дзённага вандраваньня, прайшоўшы пехатой 267 вёрст, прышлі дамоў, каб адпачнуўшы троху зноў ісьці мерацць вёрсты сваёй бацькаўшчыны.

Дык няхай-жа жыве краязнаўства!

Ів. Т. Шпілеўскі і Л. А. Бабровіч.

# Мястэчка Койданава[1]).

*(Гістарычныя весткі з 1917 г.).*

Лютаўская рэволюцыя 1917 году ў мястэчку прайшла ціха. Толькі 3 сакавіка ст. ст. адабралі зброю ад паліцыі. Была наладжана маніфэстацыя, на якой амаль ніхто ня прысутнічаў. На мітынгу выступала мясцовая інтэлігенцыя, дырэктар вышэйшай пачатковай школы Тоўсьцік, настаўнік—Ів. Лапцэвіч, Маршак і некаторыя з афіцэраў. З салдат, якія тут стаялі (12 і 24 туркестанскі палкі, II чыгуначны батальён і абозныя часткі), ніхто не выступаў. Салдаты знаходзіліся яшчэ пад поўным уціскам старога афіцэрства. Замест царскіх чыноўнікаў утварылася ўлада з самых заможных сялян, мяшчан мястэчка і мясцовай інтэлігенцыі. Так, замест прыстава Ільлюкевіча і вурадніка, засталіся абшарнік з Вертнік—Арцюшэўскі і местачковы—Павал Калечыц. Старшынёю валаснога выканкому быў абраны Зэнка Сайкоўскі, сакратаром—Каленік, былы валасны пісар. Праз некаторы час вайскоўцамі быў організаваны свой „Койдановский Исполнительный Комитет", старшынёю якога быў з аэропляннай батарэі капітан Кашкароў і сакратаром—салдат Ткачоў.

Штаб IV арміі ў гэты час стаяў у маёнтку Станькаве графа Чапскага.

Сьвята Першага Мая ў 1917 г. прайшло ў Койданаве з маніфэстацыяй, у якой прымала ўдзел шмат насельніцтва мястэчка, а таксама і вайскоўцы. Хадзілі па вуліцах з чырвонымі сьцягамі і эсэраўскімі лёзунгамі. Цікава адзначыць, што да гэтай маніфэстацыі таксама хацелі далучыцца мясцовыя поп і ксёндз з „крэснымі ходамі" і іх нават троху чакала агульная колёна маніфэстантаў. Але чамусьці яны ня прышлі.

На ўтвораным на плошчы мітынгу выступала галоўным чынам мясцовая так званая „соль земли", інтэлігенцыя: Ів. Лапцэвіч, Тоўсьцік, Т. Жылінскі і іншыя, якія прызывалі прысутнічаўшых дапамагаць весьці вайну да пераможнага канца. Насупроць такіх прызыўных прапаноў выступаў салдат вайсковай абознай часткі, тав. Пахараў, адэскі рабочы, які заклікаў кідаць вайну, забіраць зямлю ў абшарнікаў, лаяў мясцовую інтэлігенцыю і асабліва папа і ксяндза за іх імкненьне прыняць удзел з сваімі багамі ў сьвяце працоўных.

2-га мая украінцы, якіх была пераважная частка ў мясцовым II чыгуначным батальёне, утварылі сваю маніфэстацыю. Хадзілі па мястэчку з украінскімі сьцягамі і сьпевамі, патрабуючы аддзяленьня Украіны і накіраваньня іх да хаты.

Выбары ў „учредительное собрание", вядома, праходзілі пад уплывам эсэраў, з іх-жа была організавана і камісія, на чале якой стаяў Ів. Лапцэвіч, з членамі: Тоўсьцікам, Т. Жылінскім, П. Шотам. У вышэйшай пачатковай школе організаваўся ўзброены атрад з вучняў, якія абралі свой „учком". Атрад меў зброю і нават грузавы аўтомобіль. На чале атраду стаяў член камісіі Тоўсьцік. Пры дапамозе ўсёй інтэлігенцыі і гэтага ўзброенага атраду вялася ўзмоцненая агітацыя за сьпіс № 12 (эсэраўскі). К гэтаму часу пачала ў больш значнай меры прасочвацца і бальшавіцкая літаратура. Галоўнымі ў пропагандзе за сьпіс № 9 (бальшавікоў), былі салдаты мясцовых вайсковых ча-

[1]) Гл. „Наш Край" № 2 за 1929 г.

стак, а з мясцовых—Дворкін, М. Бубіга, Лея Эвенчык і шмат інш., за што іх па загаду камісіі па выбарах часта заарыштоўвалі. Мясцовыя лідэры эсэраў бегалі каля пажарнага будынку, дзе праходзіла галасаваньне, ад ранку да вечара і совалі ўсім у рукі свае адозвы і конвэрты, прапануючы абавязкова галасаваць за іх сьпіс № 12. Але-ж, ня гледзячы на ўсе іх захады, койданаўская воласьць, дзякуючы правільнай і больш блізкай для сялянства агітацыі салдат і мясцовай моладзі, галасавала ў большасьці за сьпіс № 9. Старшыня камісіі, падагульваючы вынікі выбараў у „учредительное собрание", на паседжаньні камісіі ў воласьці казаў: „у выніку выбараў, невядома на якой падставе, наша воласьць аканфузіла сябе: большасьць галасавала за сьпіс № 9, а ня № 12. Гэта для нас надта сорамна".

Наогул, каб не салдаты, дык мясцовыя рабочыя і бедната маўчалі-б. Беднаце трохі памазалі па губах невялічкай дапамогай у харчовых справах і яна была здаволена. Яшчэ моцна сядзела ў большасьці галоў такая думка, што калі гавораць людзі адукаваныя, багатыя, дык яны мусіць гэта кажуць праўду і трэба іх слухаць: іх слухалі.

Пад восень, пры адступленьні з фронту, праходзячыя вайсковыя часткі рабавалі насельніцтва і мясцовыя вайсковыя харчавыя склады. Бралі ўсе хто і што хацеў. Праходзячыя палкі Туркестанскай дывізіі ўчынілі пагром крамак на плошчы. Пагром спыніўся толькі дзякуючы таму, што ў гэты час у мястэчку знаходзіліся ў адпачынку два матросы Балтыцкага флёту, якія разьяжджалі на грузавым аўтомобілі з кулямётам. Салдаты, абрабаваўшыя ў адным мястэчку крамы ці насельніцтва, ідучы па дарозе далей, прадавалі ўсё тое, што ім удавалася захапіць. Ні афіцэры, ні прадстаўнікі з камітэтаў на салдат ніякага ўплыву ня мелі.

У лютым 1918 году гэтую мясцовасьць занялі немцы, іх штаб зьмясціўся на цяперашней Ленінскай 1-й вуліцы каля сямігодкі ў Каца. Адразу немцы выпусьцілі адозву да насельніцтва, каб яно давала масла, яйкі і інш. продукты. Было організавана валаснoе праўленьне на чале з старшынёю—Косько і членамі—Калечыць Тодар, Валахановіч Аляксандар, рэквізыцыйны камітэт—Дрэка, былы старшыня воласьці пры царскай уладзе, і абшарніка Станкевіча з Міхалоўкі. У міліцыі быў галоўным абшарнік Арцюшэўскі. Немцы, па згодзе з валасною ўладаю, аблажылі ўсё насельніцтва оптавым натуральным падаткам, які воласьці раскладалі на вёскі ў агульным ліку не паказваючы ў каго ўзяць і колькі. Выяжджалі немцы і забіралі ў першых хто пападаўся, што толькі маглі знайсьці. Набіралі сваю норму колькі было вызначана з гэтай вёскі і ад'яжджалі. Пры такіх раскладках падаткаў, больш за ўсіх цярпела бедната, бо яна ня мела дзе схаваць сваю кароўку ці сьвіньню, а багатыя гэтую магчымасьць мелі. Апрача гэтага багатыя ведалі раней, калі прыедуць немцы зьбіраць падатак. Наогул, немцы адносіліся да насельніцтва пераўнаўча добрасумленна. Ува ўсіх тых недарэчнасьцях, якія стваралiся ў тэй ці іншай вёсцы, вінавата была воласьць. Яна мела магчымасьць пасылаць немцаў па падатак нават па два-тры разы ў адну і тую-ж вёску. Немцаў гэта ня цікавіла, ім патрэбна было сабраць пэўную лічбу, загадвалі воласьці і зьбіралі, дзе ім паказвалі. Усе свае загады і распараджэньні яны праводзілі толькі праз воласьць.

Немцы былі тут да сьнежня 1918 году. Пасьля іх сюды прышлі чырвонаармейскія часткі ў складзе 7 інтэрнацыянальнага Смаленскага

палка і двух кавалерыйскіх польскіх варшаўскіх палкоў—бальшавікоў. Чырвонаармейскія часткі занялі ўсю мясцовасьць да старых акопаў, каля Баранавіч.

Быў організаваны Койданаўскі Рэўком, у склад якога ўвайшлі: Бубіга М., Лея Эвенчык, Дворкін і іншыя. Начальнікам міліцыі — Калечыц Павал.

Гэты Рэўком праіснаваў да адыходу чырвонаармейскіх частак у час жніва жыта ў 1919 годзе, калі палякі занялі Койданаў ужо пасьля таго, як быў заняты Менск. Апошнімі чырвонымі часткамі адступаў адгэтуль латыскі полк, які быў пагрузіўся ў эшалёны, каб ісьці на Менск, і, даведаўшыся, што апошні ўжо заняты палякамі, выгрузіўся і пашоў у напрамку на Станькава, Дабрынёва, Возера і далей. Койданава заняў сёмы лідзкі полк палякаў разам з кавалерыйскімі уланскімі палкамі.

Палякі прызначылі галавою воласьці Мікалая Шпакоўскага з Янава, які, прабыўшы некалькі дзён, быў заменены палякамі на Валасэвіча з Вясёлага Вугла. Апошні ўжо меў назву „войта“, і пісарам пры ім быў Коська.

Старшынёю выканкому пры заняцьці мясцовасьці палякамі быў Сантаровіч Ніканор і загадчыкам зямельнага і харчовага аддзелу—Векша. Яны ўсе былі разам з Калечыцам, начальнікам міліцыі, заарыштаваны. Але-ж адразу былі вызвалены: за Калечыца Паўла паручыўся мясцовы ксёндз, за Сантаровіча—першы галава воласьці Шпакоўскі. А. Векша па даносу Шпакоўскага атрымаў добра бізуноў за тое, што ён, як загадчык земаддзелу, разьмяркоўваў „дзесяціны зямлі“ безьзямельным.

Пачаліся зьдзекі палякаў над насельніцтвам. Як пры немцах насельніцтву жылося параўнаўча добра, так пры паляках яны пачалі плакаць не сьлязьмі, а крывёю. У палякаў пры дыфэнзыве былі свае даносчыкі з мясцовых людзей. Па даносу Ів. Гармазы з вёскі Макаўчыц былі забраны хлопцы з гэтай-жа вёскі: Зуеўскі, Філіповіч, Калечыц Мік., Бубіга Міх. і шмат іншых. Яны абвінавачваліся ў прыналежнасьці да КСМ. Палякі пачалі зьдзекавацца над імі, білі бізунамі і шампаламі. Забілі да сьмерці пры допытах Зуеўскага і Філіповіча, а таксама сына Яміна з Койданава. У Койданаве прыслужнікам палякоў быў служачы чыгункі Анісовіч, стары, але-ж занадта дасьціпны чалавек (цяпер ад Савецкай улады мае хутар каля Дзягільна). Ён выдаў палякам усю сям'ю Шпілеўскіх, гаварыў, што ў іх адзін сын комуністы, а другі тут на месцы хавае зброю і калі палякі секлі шампаламі А. Шпілеўскага і зьдзекаваліся над старымі, дапытваючы дзе зброя, дык ён прымаў самы дзейны ўдзел у вобыску і допытах. Такімі здрадамі займаліся шмат хто з жыхароў мястэчка, як Мазуркевіч Міхал і іншыя.

Больш чым над іншымі палякі зьдзекаваліся над яўрэямі. Їм прыходзілася па некалькі дзён хавацца па ваколічных лясох і ў знаёмых па вёсках. Сустрэўшы на вуліцы старога яўрэя, палякі пускалі яму ў бараду „ваўка“, сьмяяліся, білі, цягалі па зямлі і г. д., пакуль не абрыдне, або ахвяра перастане дыхаць. Усе гэтыя зьдзекі рабіліся над беднатою, на каго рабілі даносы прыслужнікі дыфэнзывы. Усе-ж заможныя, як з палякаў, расійцаў таксама і яўрэяў, карысталіся іхняй пашанай.

Вайсковыя польскія часткі не знаходзіліся ўвесь час у Койданаве. Яны бывалі тут толькі праходам на фронт у бок Менску. Увесь-жа

час польскай окупацыі тут быў толькі аддзел дыфэнзывы на чале з маршалкам і чалавек 8-10 жандараў.

У дзень польскага сьвята 3 мая 1920 году мясцовыя хлопцы, пад кіраўніцтвам М. Бубігі, уночы павывешвалі чырвоныя сьцягі каля касьцёлу, царквы і нават на хаце П. Жукоўскага па былой Слуцкай вуліцы, дзе жыў маршалак дыфэнзывы.

На „Ганы", калі мясцовы касьцёл спраўляе сьвята назвы касьцёлу і бывае надзвычайная ўрачыстасьць—фэст, была ўтворана рэлігійна-вайсковая маніфэстацыя. Хадзілі па вуліцах мястэчка з абразамі, харугвамі. Усе мясцовыя, а таксама і вясковыя шляхцянкі былі апрануты ў белыя адзеньні, аздобленыя кветкамі, была дыфэнзыва разам з ксяндзом і ваколічнай шляхтай. Хор з мясцовых дзяўчат пяяў польскія патрыётычныя песьні, выхваляючы незалежную Польшчу і прызываючы на расправу з бальшавікамі.

Прыпеў аднэй песьні падхватваўся амаль усімі прысутнымі. Яўрэі пазачыняўшы крамкі стаялі на вуліцы бяз шапак: прымушаны былі глядзець на гэтую „пышную процэсію".

Вечарам у „Ludowym Domu", цяпер дом саюзаў, было ўрачыстае пасяджэньне і нешта падобнае да мітынгу. Выступаў мясцовы ксёндз і некаторыя з афіцэраў з заклікамі аб дапамозе ў змаганьні з бальшавікамі. У канцы той-жа хор, які прымаў удзел у маніфэстацыі і тут выканаў некалькі нумароў патрыётычных сьпеваў.

Пасьля таго, калі чырвонаармейскія часткі перайшлі ў агульнае наступленьне каля Барысаву, польскае войска пры адступленьні пачало рабаваць сялянства, патрабуючы грошай, лепшых коняй, забіраючы каштоўныя рэчы, а калі хто-небудзь пачынаў хоць трошкі супярэчыць, дык пасылалі яму кулю ў грудзі або штых у жывот. Палілі ўсю маемасьць, гвалцілі жанчын. У Койданаве адыход адзначыўся тым, што маршалак загадаў, апрача іншых рабункаў, сабраць з насельніцтва грошай як-мага больш, бо ў праціўным выпадку будуць паліць мястэчка. Насельніцтва, асабліва яўрэйская частка яго, сабралі што маглі, аддалі. Усё-ж мястэчка загарэлася 28 чэрвеня (ст. ст.). Пажар пачаўся раніцою з крамак, якія знаходзіліся на плошчы. Праз некалькі хвілін загарэлася цяперашняя Сялянская вуліца, потым Ленінская 2-я і г. д. На пажар выехала мясцовая пажарная каманда, але палякі разагналі яе стрэлам з кулямёту, акрамя гэтага парэзалі пажарныя кішкі. Падняўся гвалт і лямант. Кожны стараўся бараніць ад агню сваё дабро і калі што ўдавалася яму выратаваць, дык каштоўныя рэчы забіралі палякі, а рэшту кідалі назад у вагонь. А калі гаспадар занадта прыставаў, дык яму давалі гасьцінца-бізуна, ці прыкладу. Запалілі і двухпаверхавы прыгожы будынак вакзалу. Пажары і рабункі цягнуліся на працягу трох дзён і спыніліся толькі тады, калі надышлі чырвонаармейскія часткі, якіх сустракала насельніцтва як збавіцеляў ад зьдзекаў палякаў. У гэтым пажары ў мястэчку згарэла больш 200 будынкаў. Засталіся цэлымі толькі 4 вуліцы. Палілі мястэчка і рабавалі адыходзячыя апошнімі польскія пазнанскія вайсковыя часткі.

Быў організаваны Рэўком, у скад якога ўвайшлі Векша, М. Бубіга і Лабач Сымон з Дзягільна. Пачалі падлічваць страты. Усім пагарэльцам зараз-жа быў прызначаны з бліжэйшых дач лес на пабудову, але-ж вывезьці яго ня прышлося.

Нашы вайсковыя часткі, дайшоўшыя амаль што да Варшавы, пачалі зноў адступаць назад і ў канцы верасьня праз Койданава праходзілі апошнімі Петраградзкі і Сялянскі палкі, якія з бойкамі адышл

на станцыю і далей, пакінуўшы мястэчка зноў у руках полякаў. Мястэчка заняла польская кавалерыя. У гэты час, у лесе ў Гаі засталася рота чырвонаармейцаў амаль абкружаная палякамі. Яна павяла наступ і пры дапамозе Сялянскага палка выбіла польскую кавалерыю з Койданава і далей не пашла. Вечарам чырвонаармейцы наладзілі мітынг, на якім гаварылася, што мы ваяваць больш ня будзем, бо ўжо ўтвораны мір з палякамі, ня трэба ставіць каравулаў і ахоўваць мястэчка, трэба адпачываць. І, не паставіўшы варты, паддаўшыся провакацыі, разышліся па хатах і стомленыя паснулі. Уночы палякі перарэзалі заставу, наляцелі і захапілі Койданава. Чырвонаармейцы, пачуўшы стрэлы, павыскаквалі ў чым былі на вуліцы. Іх тут-жа секлі шаблямі польскія кавалерыстыя і дапамагала ім артылерыя, якая страляла ад могілак праз Койданава ў напрамку Менску, не даючы магчымасьці падыйсьці дапамозе.

Самыя ўпартыя бойкі былі на цяперашніх Савецкай, Першамайскай і ў канцы Першай Ленінскай—вуліцах. Каля царквы на тым месцы, дзе цяпер пабудаваны местачковы Савет і Народны дом, была цалкам зьнішчана палякамі чырвонаармейская кулямётная каманда. Нашыя часткі, якім удалося вырвацца з гэтай бойкі адступілі на станцыю. Тут зорганізаваліся а шостай гадзіне раніцы і пры упартай бойцы зноў занялі Койданава, выбілі палякаў і прагналі іх аж да Галынкі. Прастаяўшы да двух гадзін дня, яны бяз бойкі, адступілі і сталі на левым беразе рэчкі Вусы. Праз поўгадзіны пасьля іх адыходу Койданава зноў занялі палякі.

Па палёх валяліся трупы забітых чырвонаармейцаў і палякаў. Палякі сагналі мясцовых сялян, падабралі трупы сваіх забітых і пахавалі на могілках, а трупы чырвонаармейцаў забаранілі сялянам хаваць: „Няхай сабакі ядуць бальшавікоў“ казалі яны. Трупы праляжалі некалькі дзён, пакуль местачкоўцы Ленінскай першай вуліцы не пачалі прасіць польскае камандаваньне дазволу зьвесьці забітых чырвонаармейцаў і пахаваць. Зьявіліся дзьве магілкі-курганы, дзе цяпер стаяць пабудаваныя Волвыканкомам у 1923 годзе дзьве драўляныя калёны-помнікі ў пачатку мястэчка абапал Ленінскай вуліцы. Пад тым помнікам, што стаіць, ідучы ў мястэчка, на левым баку, пахаваны 4 чырвонаармейцы, а на правым баку, дзе пасьля пастановы помніку пры дапамозе рабочых лесапільнага заводу насаджаны невялічкі садок з ліпавых дрэў і кустоў бэзу — пяць чалавек. Ёсьць яшчэ чырвонаармейскія могілкі ў вурочышчы „Шыя“ і на Пасеках каля Гаю.

Заняўшы ў апошні раз мястэчка, палякі не організоўвалі валасной улады афіцыйна; яны прастаялі ў мястэчку тыдзень і адышлі на лінію вёсак Дзягільна, Янава, Косьцевічы, Старая Рудзіца, Баравое, Грыцкаўшчына і далей па рэчцы Вусе. Такім чынам Койданава і Макаўчыцы сталі нэйтральнай зонай. У гэтай мясцовасьці пачала організоўвацца банда з мясцовых дызэртыраў.

У першыя часы існаваньня нэйтральнай зоны старшынёю Рэўкому быў Кажушка і сакратаром—Трызна з вёскі Лучыцы.

Галоўнымі ініцыятарамі і кіраўнікамі банд у ваколіцы былі Павал Калечыць з Койданава, Баравік з Бегліч, а таксама Куль Тодар з Макаўчыц, Пятухоўскі Юзік і іншыя. У склад банды ўваходзілі амаль што ўсе Койданаўскія хлопцы дызэртыры, якія не хацелі служыць у войску, а таксама былі і з бліжэйшых вёсак сынкі заможных сялян. Іх імкненьнямі было — быць дома, ня служыць у войску, піць гарэлку, буяніць і адчуваць сябе гаспадарамі становішча. І вось, калі Рэўком

трохі ачухаўся ад часоў вайны, быў выдадзены загад, у якім гаварылася, каб усе дызэртыры дабраахвотна зьявіліся ў Рэўком для накіраваньня іх у вайсковыя часткі. Вядома, ніхто не зьявіўся. Тады было загадана некалькім чалавекам з тых-жа дызэртыраў ісьці пілаваць у лес дровы. Яны таксама адмовіліся. Рэўком іх заарыштаваў. Тады тыя, што засталіся на волі, сабраліся (адзін з іх, Скуратовіч, залез на званіцу царквы і пачаў біць трывогу), усе раптам кінуліся да Рэўкому, разагналі яго і вызвалілі сваіх арыштаваных таварышоў. Так адбыўся першы разгон Койданаўскага Рэўкому.

На другі дзень была прыслана з Менску дапамога і банда была разагнана. Зноў быў організаваны Рэўком, у склад якога ўвайшлі старшынёю Гарун і сакратаром Сінгалоўскі. Быў організаваны ўзброены атрад міліцыі, на чале якога быў Тывянік.

Праз некаторы час частка гэтага атраду, прыблізна чалавек 17, была накірована ў Рудзіцу рэзаць дровы, як для ўстаноў мястэчка, так і для местачковай беднаты. Прыляцелі палякі і пры дапамозе сялян з гэтай вёскі і бандытаў заарыштавалі ўсіх атраднікаў і накіравалі ў Рубяжэвічы. Тут-жа разам з імі папаўся сядзець у Рубяжоўскай турме і старшыня Менскага Павятовага Выканкому Грузель і вайсковы камісар Ульдукес. Рэўком даведаўся аб гэтым і заарыштаваў некалькі палякоў у раёне Мікуліч. Быў зроблены абмен і атраднікі вярнуліся разам з старшынёю ў Койданава.

Зараз-жа па загаду Койданаўскага Рэўкому былі заарыштаваны за гэтую здраду ўсе мужчыны ад 16 да 60 гадоў вёскі Рудзіца і прыведзены ў Койданава.

Да таго часу кіраўнікамі бандытаў пры дапамозе палякаў была падгатоўлена добра ўзброеная сіла, якая чакала добрага моманту, каб за што-небудзь прычапіцца і скінуць Савецкую ўладу. Бандыты мелі свой прыпынак у Дзягільнянскай і Касілаўскай школах, штаб у Дзягільні, а таксама на фальварку Янава ў Шпакоўскага. Зброю і ідэёвае кіраўніцтва атрымоўвалі ад палякаў.

Пасьля арышту Рэўкомам сялян вёскі Рудзіца гэты спрыяючы для іх час наступіў. Бандыты падкінулі ліст у Рэўком з прапановаю аслабаніць заарыштаваных сялян, Рэўкому выйсьці з Койданава і г. д. Для выкананьня гэтага загаду быў дадзены трохдзённы тэрмін. Пасьля сканчэньня гэтага тэрміну банда прышла з Дзягільна, разагнала ўжо другі раз Рэўком, заарыштавала працаўнікоў яго і пачала над імі зьдзекавацца. Былі пабіты Сігналоўскі, Ульдукес, начальнік міліцыі Сурба, якога некалькі разоў зьбіраліся застрэліць, і іншыя. Калечыц з сваімі памоцнікамі аб'явілі Койданава „Койдановской Самостоятельной Республикой“. Выставілі па ўсіх вуліцах свае каравулы. Былі раскіданы адозвы да насельніцтва. Пачалося існаваньне яшчэ аднэй „рэспублікі“.

Аб гэтым даведаліся чырвонаармейскія часткі, якія стаялі ў гэты час на левым беразе рэчкі Вусы, і выслалі з свойго штабу, м. Самахвалавіч, у напрамку на Койданава аўтомобіль. Каля мястэчка ён быў абстрэлены бандытамі і прымушаны вярнуцца назад.

Бандыты пачалі рабіць па ўсім мястэчку арышты. Арыштоўвалі тых, каго лічылі прыхільнікамі Савецкай улады. У зьвязку з тым, што сваіх людзей усё-такі было мала, а трэба было весьці допыты, арышты, біць бізунамі і прыкладамі сваіх ворагаў, а таксама несьці каравулы па ваколіцах мястэчка, яны выдалі загад за подпісам Калечыца, каб ахову мястэчка несьлі ўсе маладыя мужчыны. Жыхары прымушаны

былі пакарыцца і стаяць з зброяю на вуліцах. Але-ж пры кожным такім каравуле абавязкова быў і адзін з бандытаў. Гэроі „Койдановской Самостоятельной Республики“, праводзілі арышты, зьдзекаваліся над працаўнікамі Рэўкому і рабілі многа іншых „маладзецкіх“ учынкаў. Самы чынны ўдзел у гэтай справе прымалі мясцовыя хлопцы: Калечыц Павал, Баравік, Куль Тодар, Пятухоўкі Юзік, Сікорскі, Даўнары Міхась, Іван і Казімір, Вашкевіч Уладзімір, Лабачы Кастусь і Зэнка, Тарнагурскі Іван, Бабраўніцкі Павал, Варатніцкі, Грушэўскі Іван, Сікорскі Юзік, Кавалеўскі Алесь, Мялешка Андрэй, Драздоўскі, Мазуркевіч Міхась, Тоўсьцік, Быкоўскі Іван, Сачко, Шот Павал, Дудкоўскі і іншыя.

„Койдановская Самостоятельная Республика“ налічвала ўжо чацьверты дзень свойго існаваньня. Кіраўнікі п'янствавалі разам з польскімі афіцэрамі, якія прыяжджалі да іх і ўсё вырашалі пытаньне—каго з зарыштаваных застрэліць.

На чацьверты дзень падышлі пад поўдзень чырвонаармейскія кавалерыйскія часткі 12 стралковага палка 2-й брыгады і пачалі наступ на „рэспубліку“ бандытаў. Апошнія, пачуўшы стрэлы, разьбегліся па сваіх хатах, пахавалі зброю, а частка з кіраўнікамі адступіла на Дзягільна. Адтуль прабавалі весьці наступ і меркаваліся пад камандай Калечыца зноў заняць Койданава. Але-ж не ўдалося.

Так і скончыла свое „слаўнае“ існаваньне „Койдановская Самостоятельная Республика“.

Бандыты ўсё-ж арудвалі ў занятай імі мясцовасьці—Дзягільна, Янава, Косьцевічы, хоць і ня мелі ніякай дапамогі ад агульнай масы насельніцтва. У гэты час у Койданаўскай воласьці было толькі 20 заселеных пунктаў, якія складалі 5 сельсаветаў. Палякі і бандыты тэрорызавалі масу насельніцтва. Нельга было зрабіць выбары сельсавету нават у 2 вярстах ад мястэчка, бо ўсе баяліся ісьці ў члены, баяліся помсты з боку палякаў і бандытаў.

Былі організаваны харчавыя пункты на 1500 чалавек жыхароў мястэчка, якія з прычыны пажару страцілі ўсю сваю маемасьць. Яны зьмяшчаліся ў будынках, якія засталіся ад пажару. У кожным пакоі было па некалькі чалавек а то і дзьве-тры сям'і, нават разам з тыфознымі хворымі, бо ня было другога месца.

Таксама зьявілася пошасная хвароба і на скаціну — чума. Тыфус і чума ўзяліся даканчваць тое, што яшчэ засталося пасьля ўсіх гэтых падзей. Лякарства і дактароў як для людзей, таксама і для скаціны не хапала, а бандыты ў ваколіцы яшчэ вялі агітацыю за „вольную Беларусь пад аховай палякоў“; лавілі працаўнікоў Рэўкому, як толькі яны ад'яжджалі куды-небудзь на вёску; не давалі выбіраць саветаў. Так было амаль на працягу ўсяго часу існаваньня нэйтральнай зоны.

На Кастрычнікаўскае сьвята мястэчка разьвесіла чырвоныя сьцягі. На плошчы быў організаваны мітынг, прысутнічала да 1500 чалавек з местачковых і ваколіцы. На мітынгу выступілі т. Булат, які даў яскравы малюнак барацьбы за апошнія тры гады і т. Сурба, які заклікаў моладзь да організацыі і ўзмацненьня барацьбы з бандытызмам. Вечарам у былым „Lüdowym Domu“ былі пастаўлены Менскімі артыстамі дзьве п'есы „Каліс“ і „Міхалка“. Сяляне зацікавіліся сьвятам, прасілі ладзіць такія сьвяты і на вёсках.

Першы сход партыйнай ячэйкі ў Койданаве адбыўся 16 лістапада, а другі сход праз 12 дзён ужо абраў прэзыдыум ячэйкі: старшынёю т. Сенко і сакратаром Лея Эвенчык. Усіх членаў ячэйкі налічвалася

шэсьць. Галоўнымі пытаньнямі на сходзе: былі ўзмацненьне барацьбы з бандытызмам і культурная праца сярод насельніцтва. Каля таго-ж часу была організавана партячэйка і ў Станькаве, яна занялася культурнай працай сярод насельніцтва.

13 сакавіка 1921 году ў Станькаве была адчынена „школа граматы“ 2 ступені на 200 чалавек дзяцей. Школа зьмясьцілася ў палацах графа Чапскага.

У канцы сакавіка пачалі праводзіцца сходы сялян, на якіх растлумачвалася міжнароднае становічша і мір з палякамі. Так, на схо-



Сьвяткаваньне Першага Мая на мяжы з Польшчай у 1923 г.

дзе сялян Станькаўскай воласьці была вынесена рэзолюцыя, у якой гаварылася: „Приветствуем Рабоче-Крестьянскую Власть, которая стоит на защите прав трудящихся. Приветствуем мир с Польшей и торговый договор с Англией. Мы клеймим позором Кронштадскую авантюру“.

З палякамі быў заключаны мір. Палякі адышлі на цяперашнюю мяжу. Існаваньне нэйтральнай зоны скончылася першага красавіка 1921 году, калі прымежная камісія ўстанавіла мяжу паміж Польшчай і Савецкай Беларусьсю. Койданаўскі Рэўком быў пераіменаваны ў Волвыканком і складаўся з 57 сельсаветаў. У кожнай больш-менш буйнай вёсцы быў свой сельсавет. Сялянства пачало патроху прыводзіць у парадак свае гаспадаркі. Пагарэўшае местачковае насельніцтва толькі цяпер мела магчымасьць пачынаць вывозіць атрыманы лес і будаваць сабе хаты. У мястэчку яшчэ існаваў харчпунк, які карміў каля 1000 чалавек больш бяднейшых жыхароў. Бандытызм, дзякуючы прынятым больш рашучым мерам, пачынаў памалу зьмяншацца. Частка бандытаў-дызэртыраў была заарыштавана, а частка ўцякла ў Польшчу. Пачала ўзмацняцца праца па дапамозе беднаце,

таксама і сельсаветы пачалі больш рашуча разгортваць сваю працу па растлумачэньні значэньня Савецкай улады і абавязкаў рабочых і сялян.

Сьвята Першага Мая 1921 году, якое сьвяткавалася мястэчкам толькі другі раз з часу зьліквідаваньня царызму, было больш урачыстым, чым да гэтага часу. Пасьля мітынгу на плошчы, першы раз колёны маніфэстантаў пайшлі на Ленінскую вуліцу—на могілкі таварышоў, якія аддалі свае жыцьцё ў змаганьні за вызваленьне Койданава ад белапалякаў і бандытаў. Такая-ж урачыстасьць была ў Негарэлым і Станькаве.

Жыцьцё пачынала ўваходзіць у норму. Волвыканком разгарнуў працу па ўцягненьні прыхільнага да Савецкай улады сялянства ў працу як сельсаветаў, так і Выканкому. Год ад году насельніцтва пачынала забываць зьдзекі і згубы, якія мела ад немцаў, белапалякаў і бандытаў.

Дзякуючы прымежнасьці мястэчка, пачала разьвівацца контрабанда з Польшчы. Везьлі з Польшчы галоўным чынам гарбату, кокаін, мануфактуру, а туды—тытун, шчаціну, скуры. Контрабандаю займалася амаль усё местачковае яўрэйскае насельніцтва, а на вёсках—заможныя жыхары хутароў. Койданава было першым прыпынкам для контрабанды. З мястэчка яна дастаўлялася далей на Менск і Маскву. Контрабанду везьлі і служачыя чыгункі. Прымежныя вёскі былі поўны контрабандыстаў, ды і самі сяляне гэтых вёсак таксама займаліся перахоўваньнем і перакупкаю контрабанды ад сваіх-жа родзічаў, якія засталіся на тым баку мяжы ў Польшчы. З працягам часу пачала вясьціся больш рашуча барацьба і з гэтым ворагам Савецкай улады. Было выслана некалькі чалавек галоўных контрабандыстаў як з мястэчка, так і раёну.

Культурна-асьветная праца таксама пачала ўзмацняцца з прыездам больш сьвежых і моцных таварышоў. Сталі праводзіцца пленумы Волвыканкому па вёсках. На пленумах сельсаветаў, а таксама на большых сялянскіх сходах прысутнічалі члены Волвыканкому і адказныя працаўнікі воласьці і мястэчка. Дзень адпачынку ў установах мястэчка, для больш сьціслай сувязі з сялянствам, быў перанесены з нядзелі на панядзелак. Быў арганізаваны пажарніцкі духавы оркестр, які разам з мясцовай трупаю аматараў выяжджаў на вёскі ў рэволюцыйныя сьвяты. Такія выезды былі зроблены ў Навасады, Негарэлае, Кухцічы, Навасёлкі і г. д. Першага мая 1923 году быў наладжаны выезд усёй мясцовай маніфэстацыі на мяжу з Польшчай, на станцыю Коласава, дзе сабралася шмат насельніцтва з ваколічных вёсак. На станцыі ў прысутнасьці сялян, чырвонаармейцаў і прыехаўшых больш 500 чалавек рабочых, служачых з сем‘ямі з Койданава быў наладжаны мітынг. Палякі пазаганялі сваіх салдат у казарму і на варце застаўся толькі афіцэр. Ня гледзячы на праліўны дождж, мітынг цягнуўся каля двух гадзін, прайшоў надзвычайна актыўна. Выступалі масцовыя сяляне, чырвонаармейцы і служачыя. На выступленьнях малявалася жыцьцё-быцьцё рабачых і сялян у нас на гэтым баку і ў Польшчы.

Для лепшага падняцьця працы сельсаветаў і ўзмацненьня іх больш сталымі працаўнікамі, было праведзена ў 1923 годзе раёнаваньне воласьці і замест існуючых 57 сельсаветаў у больш культурных і заселеных пунктах засталося толькі 37.

Разгорнутая ў 1924 годзе праца па палепшаньні гаспадарчага і культурнага быту насельніцтва запатрабавала і адпаведнага правя-

дзеньня пастаноў у жыцьцё. У сакавіку было паднята пытаньне аб пабудове электрастанцыі ў мястэчку для асьвятленьня яго і бліжэйшых вёсак, а таксама і прадпрыемстваў. Волвыканкомам было арганізавана „паевое товарищество", куды ўваходзілі ўсе дзяржаўныя і грамадзкія ўстановы мястэчка і павятовы выканком. Было выпушчана 5000 паёў.

Для культурнага абслугоўваньня было вырашана пабудаваць у мястэчку новы будынак пад народны дом і пачаць пабудову школ на




раёне. Месцам для пабудовы Нардому была выбрана плошча на пляцу пасярэдзіне мястэчка каля царквы. Народны Дом разьлічваўся на 600—750 чалавек.

Але-ж і ворагі Савецкай улады таксама ня спалі. У Польшчы зьдзекваліся над падпаўшымі пад уладу польскай буржуазіі—беларусамі, украінцамі, яўрэямі. Наладзіўшыяся перагаворы з Англіяй былі сарваны. У мястэчку ў зьвязку з гэтымі падзеямі ў кірмашны дзень быў наладжаны вялікі мітынг протэсту. На мітынгу ўдзельнічала больш 2000 чалавек сялянства вакольных вёсак. Была прынята рэзолюцыя, у якой гаварылася, што „царскіх даўгоў плаціць ня будзем і не аддадзім фабрыкі і заводы ангельскім буржуа".

Апрача гэтага і тут на раёне і мястэчку былыя дызэртыры а таксама тыя, што ўцяклі за мяжу, пры дапамозе палякаў пачалі варушыцца. Так, у жніўні месяцы ў мястэчку днём быў вялікі пажар каля польскай сямігодкі, але-ж яе ўдалося абараніць ад агню. Першага кастрычніка 1924 г. каля 8-9 гадзіны ўвечары пачаўся зноў пажар на Кастрычнікаўскай вуліцы, згарэла 4 хаты, гумно са збожжам і дваровыя будынкі. Калі тут пажар пачаў троху сьціхаць, праз гадзіны паўтары загарэлася яшчэ ў двух месцах на іншых вуліцах мястэчка. Была выклікана дапамога з Менску. Прыехалі 2 аддзяленьні Менскай пажарнай каманды, а таксама частка дабраахвотнай дружыны. Пажар удалося зьліквідаваць да 5 гадзін раніцы.

У часе пажару з боку Польшчы была выслана на мястэчка банда, якая мела намер заняцца рабункамі і забойствамі. Але-ж, дзякуючы

прынятым мерам, гэта ім не ўдалося. Былі забіты некалькі чалавек бандытаў, некалькі заарыштавана і тым справа скончылася.

З замацаваньнем Беларусі, з далучэньнем да яе Віцебшчыны, Полаччыны і г. д., было праведзена новае раёнаваньне яе тэрыторыі. У Койданаве быў організаваны раённы цэнтр. У склад Койданаўскага раёну ўвайшлі: Койданаўская, Станькаўская, Вялікасельская і частка Старасельскай валасьці. Адзін сельсавет (Ракашыцкі) быў далучаны да Узьдзенскага раёну. Было праведзена раёнаваньне і сельсаветаў. Цяпер сельсаветы атрымалі больш праў і сталі як-бы маленькімі былымі валасьцямі, з такім разьлікам, каб населеныя пункты былі не далей 5—7 вёрст ад цэнтру сельсавету. Цэнтры сельсаветаў зьмясьціліся ў асяродку раёну ў больш буйных вёсках, дзе можна было разгарнуць як гаспадарчую, так і культурна-асьветную працу, а таксама ўмацаваць іх больш здольнымі і моцнымі працаўнікамі. Так Койданаўскі раён злажыўся з 13 сельсаветаў, у якія ўвайшло 480 паселішч. Раён межаваўся на захадзе з дзяржаўнаю мяжою паміж Польшай і Савецкаю Беларусьсю, на ўсходзе з Заслаўскім і Самахвалаўскім раёнамі і на поўдні з Узьдзенскім раёнам, і займаў плошчу 1017,70 кв. кілёмэтраў з гушчынёю насельніцтва 43,0 на кв. кілёмэтр.

У восень 1924 г. адбылася першая раённая партыйная конфэрэнцыя, якая абрала новы райком КП(б)Б і дала напрамак у працы новаму раённаму цэнтру. Сёмага сьнежня абдыўся і першы раённы зьезд Саветаў Койданаўскага раёну, які абраў новы склад Райвыканкому. Гэты зьезд праводзіўся ўжо ў новым будынку Народнага Дому на площчы. На адчыненьне першага раённага зьезду, Народнага Дому і электрастанцыі з Менску прыехаў першы Дзяржаўны Беларускі Тэатр у поўным сваім складзе і паставіў п'есу „На купальле". На ўрачыстасьці ў Нардоме прысутнічала больш 1500 чалавек як рабочых і сялян мястэчка, так і асабліва многа запрошаных сялян з кожнага сельсавету раёну. Паміж іншымі пастановамі аб узмацненьні і палепшаньні працы па падняцьці як сельскай гаспадаркі раёну, так і культасьветнай справы, зьезд вынес таксама пастанову і аб палепшаньні быту мястэчка, запрапанаваўшы новаму Райвыканкому зьнесьці былы гасьцінны двор і насадзіць тут парк. Але-ж гэтая пастанова пакуль што ня выканана і да гэтага часу.

Так скончыла сваё існаваньне Койданаўская воласьць, былое графства і двор Радзівілаў і караля, і пачаў разгортваць сваю працу Койданаўскі Раённы Выканаўчы Камітэт.

---

**Гарбач А. Д.**

# Рысы старога быту ў жыцьці беларускіх сялянак

## у вёсках Шалавічы і Новыя Наборкі Бабруйскае акругі і вёсках Дразды і Малішава Мазырскае акругі.

У паданым тут матар'яле мы разглядаем жыцьцё беларускай жанчыны-сялянкі ад нараджэньня да сьмерці ў разрэзе яе хатняга, сямейнага побыту.

Ужо з таго моманту, як толькі народзіцца дзяўчынка, бацькі яе пачынаюць клапаціцца аб тым, каб з яе вырасла жанчына, якая-б

змагла стаць маткаю, якая-б магла выйсьці замуж. А дзеля гэтага, паводле погляду сялян, трэба: 1) каб яна вырасла ўдалаю, прыгожаю, 2) каб была здароваю і характарам ветліваю і паслухмянаю, 3) каб умела ўсё рабіць, што патрабуецца ад сялянкі, як гаспадыні і маткі; і 4) даць ёй добры пасаг, каб хутчэй вышла замуж і не сядзела ў дзеўках, чаго горш за ўсё баяцца ў вёсцы.

Клопаты бацькоў аб надворным харастве свае дачкі пачынаюцца ўжо з першых дзён жыцьця дзяўчынкі, што, напрыклад, відаць з такога звычаю, які існуе на Случчыне ў в. Углы і іншых: у той час калі дзяўчынку кум і кума нясуць да папа хрысьціць, матка яе праз усе вокны стараецца глядзець на сваю дачку, выходзіць усьлед за ёю на двор і на вуліцу і ўсё ўглядаецца ў яе; гэта ўсё робіцца дзеля таго, „каб тады, калі дзяўчынка вырасьце, на яе гэтак углядаліся хлопцы". Калі дзіцяці-дзяўчынцы споўніцца тры месяцы, яе садзяць у хаце на лаўку і абвязваюць жыватом прыгожаю тасемачкаю дзеля таго, каб у яе была зграбная постаць (в. Н. Наборкі, Бабруйскае акр.).

Калі дзіця пачынае ўжо забаўляцца, першае месца ў дзяцей-дзяўчатак займае лялька, з якою дзяўчынка робіць як-бы рэпэтыцыю ўсяго таго, што ёй прыдзецца рабіць з сваімі дзяцьмі, калі яна будзе маткаю: яна вучыцца трымаць ляльку на руках, спавівае яе, прыкладае ссаць грудзі, калыша яе ў калысцы ці ў начовачках, пяе ёй калыханкі, цалуе і б'е яе. Дзеці-дзяўчаткі таксама любяць гуляць у вясельле і радзіны. Для гэтых „урачыстасьцяй" яны пякуць пірагі з гразі на сонцы.

Гадоў з сямі маці пачынае вучыць дзяўчынку прасьці спачатку кудзелю, а потым і лён, каб да гадоў 17—20, калі звычайна аддаюць дзяўчат замуж, яна напрала і наткала сабе палацён, коўдраў, ручнікоў і іншых рэчаў, каб, як кажуць, „аж куфар трашчаў". Вялікая ганьба, калі дзяўчына ідзе замуж, а яе куфар, які яна прывозіць з сабою, лёгка могуць зьняць з возу два чалавекі; тады сяляне сьмяюцца і звычайна кажуць: „толькі дзясятак верацён браскацела на дне ў куфры, а палацён мабыць зусім няма". Зусім іншая справа, калі куфар прыходзіцца зьнімаць з возу 4, а то і 5-6 чалавекам, „вось", кажуць, „навезла гаспадару ўсякага дабрышча, гонар і слава такой дзяўчыне".

З самага-ж маленства прывучаюць дзяўчынку і да іншае працы: падмятаць хату, мыць лавы і вокны ў хаце, памагаць матцы каля печы, карміць сьвіней, даіць кароў, палоць грады і інш., а з 10—12 гадоў прывучаюць і да палявое працы: жаць збожжа, грэбці сена, рваць, біць, слаць, церці, трапаць лён, капаць бульбу і інш.

У школу дзяўчат да апошняга часу пасылаюць куды менш і куды з меншаю ахвотаю, чым хлопчыкаў; да рэволюцыі аддавалі дзяўчат на 1-2 гады ў школу толькі дзеля таго, каб навучылася „богу маліцца". „Траціць дарэмна час на навуку дзяўчыне не патрэбна, хай лепей прадзе і вучыцца пры матцы быць добраю гаспадыняю"—вось звычайная развага сялян.

Калі дзяўчына занядужае, захварэе, яе стараюцца лячыць хатнімі сродкамі ці ў знахароў у патайку ад людзей, каб не гаварылі пра яе, што яна хваравітая. Больш усяго ў вёсцы не паважаюць гістэрычных асоб і, таму калі ў якое дзяўчыны альбо ў яе маткі здарыцца пры чужых людзях гістэрычны прыпадак, дык гэтая дзяўчына траціць усякую вартасьць, як будучая нявеста: „яе (альбо яе матку) хапае нейкі пераход ці лапцак" кажуць тады ў вёсцы, і гэтага досыць, каб затрымаць такую дзяўчыну надоўга ў дзеўках.

Каля 14—16 гадоў у дзяўчыны звычайна зьяўляюцца першыя месячныя, што вызывае вялікі страх і непакой ў самой дзяўчыны, бо рэдкая матка папераджае сваіх дачок аб гэтым фізыолёгічным зьявішчы. Для бацькоў-жа гэта служыць адзнакаю таго, што іх дзяўчына, як кажуць у весцы, „пасьпела і пачала ачышчацца“, што яна стала ўжо дарослаю жанчынаю. Тут пачынаюцца ўжо больш рашучыя марапрыемствы па падрыхтоўцы дзяўчыны да выданьня замуж.

Яе стараюцца лепш „падабраць“ (адзець), вучаць яе, як трымаць сябе наогул у людзях і ў прыватнасьці з хлопцамі. Найчасьцей настаўленьне такое: „будзь у людзях вясёлаю і далікатнаю, не сядзі павесіўшы нос, але і ня кідайся кожнаму асою ў вочы; калі-ж каля цябе сядзе хлопец, хоць і ня любы табе, ня брыкайся вельмі і не ганарыся: ад таго што ён пасядзіць каля цябе і пажартуе з табою ён цябе ня зьесь. Але і ня ліпні вельмі да хлапцоў і ня трыся з імі пад плотам цэлымі начамі, бо гэта да дабра не давядзе“.

У гэты час бацькі і наагул уся радня ўжо пачынаюць наглядаць дзяўчыне жаніха: гаспадарлівага сумленнага хлопца, які мае добрую гаспадарку і слаўнага роду. Да рэволюцыі ў выбары сабе жаніха сама дзяўчына адыгрывала малую ролю: усё за яе рабілася яе бацькамі і яе раднёю. І толькі ў цяперашні пасьлярэволюцыйны час ўсё часьцей і часьцей прыходзіцца бацьком лічыцца з жаданьнямі і пачуцьцямі самой дзяўчыны. Бываюць выпадкі, калі дзяўчына бяз згоды і супроць волі бацькоў упатайку ўцякае да свайго каханага. Так было, напрыклад, нядаўна ў в.в. Саўкова і Певязцы, Слуцкага р.

Шчасьлівая пара для дзяўчыны і для яе бацькоў, калі пачынаюць да іх наведвацца ў сваты хлопцы. Чым больш сватоў бывае ў дзяўчыны, тым большы гонар для яе. Часта ад старэнькіх ужо бабулек можна пачуць такія словы: „О, я была ўдалаю дзяўчынаю! Усіх сватоў у мяне было больш за дванаццаць“ альбо „за пятнаццаць“.

Калі да дзяўчыны прыяжджаюць сваты, то, прыслухаўшыся да тае гутаркі, якая вядзецца за чаркаю гарэлкі, вы менш за ўсё пачуеце размоў пра маладых: уся гутарка зводзіцца да торгу аб тым, колькі бацька дае ў пасаг дачцы жывёлы, грошай, а часам і зямлі.

Трэба адзначыць, што, ня гледзячы на забарону па цяперашняму закону дарыць зямлю, у вёсках яшчэ і цяпер практыкуецца даволі часта даваць зямлю ў пасаг.

І калі сватаўство канчаецца нічым, дык гэта часта з-за таго, што не даюць у пасаг таго каня ці тае каровы, якую хацеў жаніх. Атрымліваецца ўражаньне, што сватаюць каня ці карову, а дзяўчыну бяруць як дадатак.

Калі-ж у часе сватаўства справа дойдзе да згоды, тады малады пакідае булку хлеба ў дзяўчыны, а праз які-небудзь тыдзень ідуць запісвацца ў сельсавет і спраўляюць „запòвіны“—гэта свайго роду вясельле ў мініяцюры; пасьля „запòвін“ праз тыдзень ці два спраўляюць і само вясельле і ідуць у царкву вянчацца. Трэба сказаць, што цяпер ужо далёка ня кожная пара маладых лічыць патрэбным наведвацца да папа: часта справа абходзіцца без яго.

Першаю радасьцю для сялянкі пасьля замужжа зьяўляецца той момант, калі яна пазнае, што ўжо стала маткаю, што яна цяжарная. Гэтаю радаснаю весткаю яна сьпяшыць падзяліцца з мужам і з сваёю маткаю. І наадварот сум і непакой ахапляе жанчыну, яе мужа і радню, калі на працягу доўгага часу пасьля замужжа яна не цяжарэе. У такіх выпадках зварочваюцца і да знахароў і да дактароў і робяць усё

тое, што ім парадзяць. Так у в. Шалавічы мінулым летам, па радзе знахара, адна бязьдзетная пара прарабіла такую штуку: пашлі яны ў лес і там, зьняўшы з сябе нацельную бялізну, павесілі яе на асіне: гэтым хацелі, відавочна, перадаць сваю бязьдзетнасць асіне, а самі набрацца лясное пладавітасьці.

Абмежаваньне дзетанараджэньня ў вёсках яшчэ не ў такой модзе, як у горадзе. Звычайна ў вёсцы разважаюць так: „колькі дзяцей бог дасьць, толькі хай і родзіцца; бог дасьць, бог і паможа гадаваць; сьвет вялік, усім месца хопіць". Але ўжо ў апошнія часы ўсё больш і больш сустракаюцца выпадкі, калі вясковыя замужнія жанчыны стараюцца якім-небудзь спосабам абмежаваць дзетанараджэньне, я ўжо не кажу пра тых дзяўчат і, наогул, незамужніх жанчын, якім здараецца быць цяжарнымі: яны, як да рэволюцыі, так і цяпер усялякімі спосабамі стараюцца пазбавіцца ад цяжарнасьці, каб гэтым самым пазбавіць сябе ад нязносна цяжкіх адносін да сябе з боку свае сям'і і ад ня менш няпрыемных вясковых плётак. І толькі часам, жаданьне жаніць на сабе пры дапамозе „алімэнтаў" таго ці іншага мужчыну надае сьмеласьці жанчыне выношваць да тэрміну і нараджаць дзіця.

Проці цяжарнасьці самым вядомым для сялянак спосабам зьяўляецца „coitus interruptus". А калі жанчына хоча пазбавіцца ад цяжарнасьці, то тут ужываецца многа спосабаў і сродкаў. Каб скінуць дзіця, падымаюць вялікі цяжар, саскокваюць з высокіх месц, стараюцца атруціць дзіця і п'юць адвары розных зёлак і іншае атруты. А калі ўсё гэтае не памагае, тады зварочваюцца да бабак, якія, звычайна, верацяном, альбо цьвіком ці чым-небудзь іншым стараюцца, як яны кажуць, „зрушыць дзіця з месца". А ёсьць і такія сялянкі, якія верацёнамі самі сабе робяць аборты. Да дактароў у больніцу, каб зрабіць аборт, цяжарныя незамужнія зварочваюцца ў крайніх выпадках: калі ўжо ўсё перапрабавана і калі розныя маніпуляцыі, якія з імі прараблялiся, зрабілі іх цяжка хворымі. Замужнія часьцей зварочваюцца ў больніцы, але большая частка з іх перад гэтым усё роўна прабуюць зрабіць аборт сваімі сродкамі.

Для цяжарных сялянак існуе асаблівы рэжым: 1) яны не павінны заглядацца на ўсякія „дзівы", бо, па думцы сялян, усё, што робіць уражаньне на маці, адбіваецца на яе дзіцяці; 2) калі цяжарная жанчына прыходзіць да суседкі пазычыць што-небудзь, дык ёй абавязкова трэба даць, бо калі не дасі, дык усё роўна што-небудзь каштоўнае ў цябе зьядуць мышы; калі-ж ня хочаш даць, дык трэба тады, як гэта цяжарная кабета будзе выходзіць з хаты, кінуць за ёю чым-небудзь, тады ў яе родзіцца дзіця, якое будзе есьці тое, чым ты кінуў на яго маці; альбо трэба сякерай сякануць па парозе ці па верхнім вушаку, тады дзіця родзіцца з расьсечанаю губою; 3) цяжарнай кабеце ня можна есьці таго блінца, які прыгарэў да скаварады, бо ў праціўным выпадку дзіця народзіцца з прыросшым языком; 4) ня можна так сама штурхаць цяжарнай жанчыне нагою сьвіньню, бо дзіця будзе па сьвінячы рохкаць і крахтаць.

Працаваць-жа і есьці цяжарнай кабеце да самых родаў можна ўсё.

Калі ў цяжарнае жанчыны пачынаюцца родавыя болі, муж яе бяжыць зваць бабку, якая павінна быць пры родах, а потым ужо заве другую, каб перавязаць дзяцяці пупавіну „пабабіць" дзіця. Першая бабка, прышоўшы да парадзіхі, каб дапамагчы родам, прарабляе шэраг процэдур: 1) прымушае парадзіху насіць двума вёдрамі ваду са студні; 2) сыпле ў прыпол ёй аўсу, і тая праз парог корміць гэтым

аўсом каня; 3) выразае нажом невялічкія кавалачкі дрэва з чатырох кутоў стала і выкалупвае кавалачак гліны з чалесьнікаў у печы, усё гэтае расьцірае ў гарэлцы і дае выпіць парадзісе; 4) зьбівае з дзяжы абруч і гэты абруч тры разы надзяе зьверху ўніз на парадзіху. Калі роды зацягваюцца, робяць цёплыя ванны і зазываюць больш бабак, якія часам робяць вельмі цяжкія опэрацыі над парадзіхай, прабуючы здабыць дзіця, а калі ўсё пералічанае не памагае, тады прыводзяць акушэрку ці доктара.

Пупавіну ў дзіцяці перавязваюць альбо ільном (в. Шалавічы), альбо кужэльнаю ніткаю (в. в. Паборкі, Дразды) на адлегласьці трох пальцаў ад жывата і адразаюць пупавіну на тры пальцы ад перавязкі. Дзіцячае месца абмываюць і кладуць у яго апліцу, калі нарадзілася дзевачка, альбо капейку, калі нарадзіўся хлопчык, загортваюць (месца) у белую анучку і закопваюць пупавінай уверх хлопчыкава месца на покуці ў хаце, а дзявочае — на тачку каля печы.

Пупавіна звычайна адпадае на 4-5-ы дзень; адпаўшую пупавіну ў в. Шалавічы мацяркі хаваюць у куфар, а ў в. Паборкі ў дзірцы, прасьвідраванай для гэтае мэты ў хатняй сьцяне; апошняе дзеля таго, „каб дзіця ня скідалася з лавы". У тых-жа Паборках, калі дзіцяці міне два гады, а ў в. Шалавічы, калі дзіця пачынае хадзіць у школу, яму даюць развязаць сваю пупавіну, каб у яго разьвязаліся ўсе здольнасьці, каб яно было здольна да ўсяго, за што ні возьмецца. Ранку пасьля адпадзеньня пупавіны маці залівае сваім малаком да таго часу, пакуль яна не загоіцца зусім.

Пасьля нараджэньня дзіця адразу купаюць у цёплай вадзе, потым яго спавіваюць і кладуць у начоўкі, якія ставяцца каля маткі; у начоўках дзіця ляжыць каля тыдню, а потым яго перакладаюць у калыску, якая звычайна на вяроўках падвешваецца да столі і ў якой калышуць дзіця, калі хочуць, каб яно заснула. Спавіваюць дзіця цесна, выпраставўшы яму ручкі і ножкі, каб яно ня вырасла крывым.

Дзяцяці адразу пасьля нараджэньня даюць альбо суслу з іржаным цестам (в. Шалавічы), каб яно ня было абжыраю, альбо пояць яго адварам рамонку (в. в. Паборкі, Дразды, Малішава), каб ачысьціць страўнік і кішкі; карміць грудзямі пачынаюць, звычайна, на трэці дзень пасьля нараджэньня: баяцца каб дзіця ня ссала малодзіва, ад якога, па думцы сялянак, у дзяцей псуюцца страўнік і кішкі. Грудзямі кормяць дзіця нязьлічаны лік разоў у суткі: усякія неспакойныя паводзіны з боку дзіцяці, будзь-та плач, крык, ссаньне сваіх ручак, супакойваюцца тым, што дзіцяці хутчэй суюць у рот грудзі; вельмі рана пачынаюць даваць дзіцяці ўсё, што ядуць і дарослыя. Часта можна бачыць, як маці, пажаваўшы кавалак хлеба, ці што іншае, бярэ гэта пражованае на палец і кладзе яго ў рот грудному дзіцяці.

Адлучаюць дзіця ад грудзей не раней году, а часам аж да трох год. Апошняе тлумачыцца, часткова, тым што ў сялянак існуе ўпэўненасьць, што ў часе кармленьня грудзьмі жанчына ня можа зноў стаць цяжарнаю.

Калі дзіця мала сьпіць, некаторыя мацяркі пояць яго адварам сьпелых макавак бяз маку; іншыя мацяркі ня хочуць паіць дзіця гэтым адварам, бо ад яго, кажуць, дзіця вырасьце вельмі дурное, ня будзе „брацца граматы"; яны даюць дзецям, каб тыя спалі, віно. Калі дзіця вельмі моцна і часта крычыць, гэта кажуць, на яго ўскінуў нехта „крыксы". Ад гэтых „крыксаў" шукаюць збаўленьня ў знахароў. Каб-жа гэтыя „крыксы" не нападалі на дзіця, яму вешаюць на шыю на

шнурочку анучку з сольлю ці з „вэлядрэкам“ — „чортавым калам“, (нейкая сьмярдзючая смала). Калі-ж дзіця часта крэкча, яго альбо нясуць у сьвіны хлеў, дзе, выгнаўшы сьвіней, кладуць дзіця на кароткі час у сьвіную бярлогу, альбо кладуць яго ў хаце каля парогу, накрываюць начоўкамі і пераганяюць праз апошнія сьвіней і курэй. У тым выпадку, калі ў дзіцяці зьявяцца балячкі альбо якая-небудзь высыпка на целе, яго звычайна купаюць у адвары зельля „чыстацелу“ (Potentilla anserina з сям. Rosacea) альбо „прастрэлу“ (Melandryum abb. з сям. Caryophyllaceae). Зьяўленьне балячак на галаве і твары, а таксама хваробы вачэй лічацца „залатухай“ і лечацца ў першую чаргу ў знахароў-шаптуноў, якія выгаварваюць розныя „скулы“. Апрэласьці ў дзяцей прысыпаюць крахмалам, альбо дубоваю парахнёю.

Ваніты і панос у дзяцей часьцей за ўсё ў вёсцы тлумачаць тым, што дзіця, відавочна, упала адкуль-небудзь, напрыклад з лавы ці з калыскі і, выцяўшыся галоўкаю, „перавярнулася“; лечаць такое дзіця тым, што запрашаюць бабку, якая адварочвае яго тры разы.

Эпілепсія і конвульсіі лічацца за адну хваробу пад назваю „падучая болесьць“. Калі ў дзіцяці бывае прыпадак гэтае хваробы, яго накрываюць чорнаю адзежынаю і ня рухаюць з месца да канца прыпадку. Калі-ж, кажуць, такое дзіця ў часе прыпадку зрушыць з месца ды яшчэ абліць вадою, дык падучая болесьць застанецца ў яго на ўсё жыцьцё. Лечацца ад падучае болесьці рознымі спосабамі: 1) у знахароў, да якіх вязуць ці само дзіця, ці яго шапачку, альбо кашульку; над імі знахар паліць сьвечку і моліцца; калі ў часе малітвы знахар, ня зьбіўшыся прагаворыць усю малітву да канца, лічыцца, што дзіця адразу паправіцца; калі-ж знахар, гаворачы малітву, саб'ецца, дык колькі раз ён абмыліцца, столькі прыпадкаў яшчэ будзе ў дзіцяці, а потым яно паправіцца; а калі знахар ня можа дагаварыць малітвы да канца, а ўвесь час зьбіваецца, дык гэта азначае, што дзіця памрэ; 2) даюць такім дзецям піць ваду зьмешаную з вушнымі костачкамі, якія бяруцца ў чорнага, сьвянцонага ў часе вялікадня, парасяці; гэтыя костачкі сушацца, таўкуцца ў парашок, які і зьмешваецца з вадою; 3) даюць піць зьмесь вады з парашком, здабытым з нейкае, як кажуць „почкі“, якую дастаюць з языка ў толькі што нарадзіўшагася жарабяці.

Купаюць грудное дзіця ў цёплай вадзе ў начоўках і купаюць даволі часта: некалькі разоў у тыдзень. Сьвятла-ж і сьвежага паветра дзіцяці шкадуюць асабліва зімою, калі на працягу доўгіх зімовых месяцаў дзіця ніколі ня бачыць сонца і ня дыша сьвежым паветрам, а ўвесь час марнее ў чаднай, бруднай і цёмнай хаце.

Калі дзіця пачынае разьбірацца ў акружаючых яго абставінах і пачынае выконваць парады і загады бацькоў, яго навучаюць даваць фігі, біць па твары і цягаць за валасы бацьку ці матку; самі-ж бацькі ў ліку першых слоў, якія пачынае вымаўляць дзіця, пасьля слоў „мама, тата, баба“ навучаюць яго і лаянцы. Вялікая ўцеха бывае для бацькоў, калі іх дзіця дае фігу мацеры ці бацьку ці каму іншаму, альбо па прыказу мацеры „аблай тату“, „скажы на яго так і гэтак“ яно ламаным сваім дзіцячым язычком вымаўляе розныя брыдкія словы. Але вялікі сум пануе ў сям'і, калі гэтае дзіця, ўжо будучы дарослым, заядла лае сваіх бацькоў.

Пасьля нормальных родаў жанчына ўстае з пасьцелі, звычайна, у першыя-ж суткі і, падвязаўшы жывот рушнікам, пачынае працаваць у хаце, а праз 2-3 дні ўжо выходзіць на працу і ў поле.

У саракавы дзень пасьля родаў жанчына ідзе з дзіцём у царкву „уводзіцца“, і з гэтае пары, звычайна, яна пачынае жыць з сваім мужам.

У часе карменьня грудзьмі матка есьць і п‘е ўсё, што ў яе ёсьць, п‘е таксама і гарэлку, якою ахвотна пояць і дзяцей, калі здараецца быць з імі на якой-небудзь бяседзе. Лічаць, што малако ў мацеры псуецца і робіцца шкодным для дзіцяці толькі тады, калі яна зазлуе ці спалохаецца, альбо моцна ўсхвалюецца, а таксама, калі ў яе бываюць месячныя.

Жывучы і нараджаючы дзяцей бяз усякага гігіенічнага дагляду ў вельмі брудных абставінах сялянкі самі часта хварэюць на розныя жаночыя хваробы.

Пры зьяўленьні болю ўнізе жывата кажуць, што гэта ад парушэньня „залатніка“ (маціцы) і лечацца ад гэтага ў першую чаргу тым, што замест банак „кідаюць“ гаршчок на жывот, выгаварваюць гэтую хваробу ў знахароў і п‘юць адвар ці настой на гарэлцы зельля „настаўнік“ (Chimaphila umbelata Nutt. з сям. Pirolaceae); настой на гарэлцы гэтага зельля ў в. Шалавічы і ў ваколічных вёсках ёсьць амаль што ў кожнае жанчыны.

Калі пры жаночай хваробе бываюць белі ці крыватока, як кажуць у вёсцы „белыя ці чырвоныя сплавы“, ад іх стараюцца пазбавіцца ў першую чаргу, п‘ючы адвары зельляў: так ад крыватоку п‘юць адвар таго самага „настаўніка“, што і пры болях, а проці беляй п‘юць адвар „белага дзяцеляўніка“ (Trifolium montanum L. з сям. Leguminosae).

Калі ў жанчыны доўга ня бывае месячных і яна не цяжарная, ёй, каб вызваць месячныя, даюць піць адвар шалухі з цыбулі ў зьмесі з карою вішні.

Бледныя, малакроўныя дзяўчаты і жанчыны ахвотна лечацца тым, што п‘юць адвар зельля Polygola vulgaris з сям. Polygalaceae; гэты адвар летам, ідучы ў поле на работу, яны бяруць цэлымі баклажкамі і п‘юць яго замест чыстае вады.

Звычайна, самы позны тэрмін, да якога нашы жанчыны нараджаюць дзяцей, гэта пяцьдзесят гадоў; да гэтага тэрміну звычайна бываюць і месячныя.

Калі-ж пасьля доўгага адсутнічаньня кроў пойдзе зноў, такіх жанчын пояць адварам зельля „гашты“ (C. Melandryum rubrum).

Пасьля таго, як сялянка „дасьць лад сваім дзецям“ (а „даць лад дзецям“—гэта значыць дачок аддаць замуж, а сыноў пажаніць), апошняю ўцехаю і нават патрэбаю ў яе жыцьці зьяўляецца жаданьне пабыць бабкаю пры родах у іншых жанчын. Чым больш родаў прыме бабка, тым большы ёй гонар у вёсцы.

---

# Зьбіраньне этнолёгічна-лінгвістычных матар'ялаў сярод латыскага насяленьня БССР.

Вывучэньне латыскіх колёністаў БССР мае вялікую навуковую цікавасьць. Раскіданыя па ўсёй рэспубліцы, латышы, асабліва старыя мужчыны і жанчаны, да самых апошніх дзён зьяўляюцца насільнікамі тэй мінулай культуры, якая была пашырана на іх бацькаўшчыне ў 60-70 гадох мінулага стагодзьдзя. Асеўшы на новых мясцох, адарваныя ад далейшага экономічнага і соцыяльна-бытавога жыцьця сваіх сваякоў, яны апынуліся ў зусім іншых умовах, іншая крльтура абкружыла іх. Гэтым тлумачыцца той факт, што ў гаспадарчым і грамадзкім жыцьці латышы БССР захавалі формы больш старажытныя за тых, якія мы знаходзім у Латвіі, дзе капіталістычнае разьвіцьцё ішло щпарчэй і ахапіла ўжо ў канцы мінулага стагодзьдзя і ў пачатку XX ст. усе куткі. А шмат колёністых зьяўляюцца высяленцамі з найбольш глухіх куткоў Латвіі і пераехалі на Беларусь у той час, калі капіталістычна-гаспадарчыя формы толькі яшчэ пракладвалі сабе шлях і пануючай гаспадарчай формай у вёсцы была натуральная гаспадарка. З гэтае прычыны гісторык матар'яльнай культуры, этнолёг і філёлёг знойдзе тут каштоўны скарб для сваіх досьледаў. У латыскіх колёністаў мы і знаходзім такія сродкі вытворчасьці, як ручныя жорны, старажытнае начыньне, вырабы і г. д. А ў ідэолёгічнай галіне ўсё насычана старажытнасьцю. Мова колёністаў — пекная, цудоўная мозаіка. Тут вы знойдзеце дыялектычныя асаблівасьці, назвы старых прыладзьдзяў працы, пабудоў і розных рэчаў. Вы пачуеце дзіўныя казкі, нідзе не запісаныя, нікому невядомыя, вам напяюць народныя песьні „dainas", адзіныя помнікі глыбокай старажытнасьці, якую звычайна завуць „дагісторыяй". Але латыскія народныя песьні, „dainas", якіх ужо сабралі звыш 240.000, і каторыя зусім не дасьледваны, яны адчыняць новыя старонкі ў гісторыі латыскага народу ды ня толькі латыскага народу.

Мова колёністаў яскрава адбівае таксама процэсы запазычваньняў, узаемачыннасьці моў. Перад намі зусім новая проблема: пытаньне аб узаемачыннасьці беларускай і латыскай мовы. Нас зусім не здавальняюць тыя рэдкія досьледы, якія так ці інакш зачапляюць гэтае пытаньне. Мэтоды мовазнаўства ўжо даўно выперадзілі ўсе досьледы, якія ёсьць у гэтай галіне. Новая яфэтычная тэорыя падбадзёрвае нас. Мы павінны рашуча заявіць, што трэба перагледзець існуючыя тэзы аб запазычаньні з германскіх, славянскіх і іншых моў. У іншым вы-

падку мы павінны верыць такім наіўным рэчам, што тэрмін „meita“ латышы запазычылі ад германцаў, вярней, ад сярэдня-ніжня-нямецкай мовы[1]). Але хто паверыць, што брэменскія купцы прывозілі латышам назвы мітычных істот? А што тэрмін „meita“ ўжываецца і ў такім разуменьні, аб гэтым мы чытаем у памянёным слоўніку. У гэтым напрамку пішуць усе так званыя „гісторыі“ матар‘яльнай культуры і „гісторыі“ наогул. У гэтым сэнсе трактуюцца латыскія „запазычаньні“ з германскіх і славянскіх моваў. Яфэтычная тэорыя дае добрае тлумачэньне гэтаму латыскаму тэрміну, і зьявы нашай роднай мовы, і гісторыя латыскай матар‘яльнай культуры даюць нам усё новыя і новыя доказы. Аб тым мы скажам у другім артыкуле. Цяпер скажам толькі, што час распачаць і гэтую працу. І трэба шчыра вітаць Беларускую Акадэмію Навук, якая занялася ўжо гэтай складанай, але вельмі важнай працай.

Нашым чарговым заданьнем ёсьць зьбіраньне этнолёго-лінгвістычных матар‘ялаў сярод латыскага насяленьня БССР. Перш за ўсё неабходна правесьці зьбіральніцкую працу.

### А. Этнографічныя матар‘ялы.

1. Запіс народных песень, казак, паданьняў, прыказак, пагаворак, замоў і г. д.

2. Зьбіраньне і апісаньне прадметаў матар‘яльнай культуры, якія маюць этнографічную вартасьць.

### Б. Лінгвістычныя матар‘ялы:

1. Фонэтычныя запісы асобных гаворак, дыялектычных асаблівасьцяй мовы латышоў;

2. Зьбіраньне назваў прадметаў матар‘яльнай культуры, назваў жывёл, расьлін і г. д.

3. Выяўленьне і запіс запазычваньняў з беларускай і іншых славянскіх моваў.

Даволі будзе, калі мы адзначым асноўныя вехі, контуры нашай працы. Яны так шырокі, так living розностайны, што ня можна ўкласьці ані ў якую праграму. Праца-ж не „казённая“, а жывая, творчая праца, адзін з мэтодаў навуковай працы. А затым, канешне, далейшая апрацоўка сабранага матар‘ялу і далейшыя досьледы ў галіне гісторыі латыскага народу.

*Карл Мартэнсон.*

---

[1]) Гл. Mülenbach, Latviešu valodas vārdnica, XVIII burtnica, стр. 593. а таксама Dr. F. Endzelin Lettische Grammatik S. 43.

# ХРОНІКА.

## Рэзолюцыя Прэзыдыуму Бел. Акадэміі Навук па дакладу т. Казака.

*„Аб выніках II Усебеларускай Краязнаўчай Конфэрэнцыі і стане краязнаўчай справы ў БССР“.*

I. Краязнаўчая справа ў БССР разгортваецца ў кірунку пастаноў папярэдніх краязнаўчых зьездаў і мае пэўныя дасягненьні ў галіне організацыйнай, мэтодычнай, выдавецкай і ў апошні час і ў галіне навукова-дасьледчай:

а) рост краязнаўчых організацый па партыйным, нацыянальным і социяльным складзе ідзе здавальняюча, прычым як дадатнае зьявішча адзначаецца рост організацый з шэрагаў Комсамолу;

б) у працы акруговых краязнаўчых організацый і значнага ліку раённых заўважаецца пераход ад організацыйнага пэрыоду працы да вядзеньня навукова-дасьледчай працы (укладаньне географічнага слоўніка, слоўніка мовы, апісаньні паселішч і інш.);

в) ёсьць дасягненьні ў галіне організацыі музэйнай справы і выдавецкай у некаторых Акруговых Таварыствах (Віцебскае, Аршанскае, Магілеўскае і Мазырскае), а таксама ў галіне ўвязкі працы экспэдыцый навуковых устаноў з краязнаўчымі організацыямі.

II. Конфэрэнцыя констатавала, што тыя дасягненьні, якія маюцца ў разьвіцьці беларускага краязнаўчага руху, зьяўляюцца ў значнай ступені вынікам тэй сьціслай сувязі, якая існавала паміж масавым краязнаўчым рухам і Беларускай Акадэміяй Навук.

III. Побач з гэтым конфэрэнцыя выявіла наступныя недахопы ў працы краязнаўчай сеткі БССР.

1) Ня гледзячы на праробленую краязнаўчымі організацыямі значную працу ў галіне популярызацыі пытаньняў краязнаўства да гэтага часу ня ўсюды ёсьць належная грамадзкая думка навокал краязнаўчай справы: ёсьць шмат выпадкаў, калі на мясцох удзел у працы краязнаўчых організацый ня лічаць за грамадзкую нагрузку.

2) Ня гледзячы на выразныя пастановы II Ўсебеларускага Кразнаўчага Зьезду адносна пераводу працы масавага краязнаўчага руху на вывучэньне пытаньняў вытворчага характару, краязнаўчымі організацыямі амаль нічога ня зроблена ў гэтым кірунку.

3) Паглыбленую краязнаўчую працу вядуць ня больш паловы раённых краязнаўчых організацый, другая частка краязнаўчых організацый далей організацыйнага пэрыоду не пайшла.

4) Ня гледзячы на маючыяся ў працы акруговых краязнаўчых організацый і паловы раённых пэўныя дасягненьні па вывучэньні мясцовага краю (організацыя музэяў, выданьні, экспэдыцыі) да гэтага часу краязнаўчая справа не знаходзіць належнага матар'яльнага падтрыманьня з боку мясцовых Выканаўчых Камітэтаў (Орша, Магілеў) ня толькі не павялічылі выдаткаў на краязнаўчую справу ў параўнаньні з 1926 г., а нават зьнізілі.

5) Вельмі мала зроблена ў галіне падрыхтоўкі новых кадраў краязнаўцаў праз ВУЗ'ы і тэхнікумы, без чаго немагчымы перавод усіх краязнаўчых організацый да больш паглыбленай навукова-дасьледчай работы па вывучэньні свайго краю.

6) Слабое разгортваньне краязнаўчай справы сярод нацыянальных меншасьцяй.

IV. Адзначаючы гэта, Прэзыдыум Беларускае Акадэміі Навук прызнае зробленыя вынікі правільнымі і працу Конфэрэнцыі здавальняючай.

V. У мэтах паглыбленьня і ўзмацненьня краязнаўчай справы ў БССР і наданьня ёй вытворчага ўхілу, Прэзыдыум Беларускае Акадэміі Навук у далейшым лічыць патрэбным зрабіць наступнае:

а) існаваўшую да рэорганізацыі ІБК у БАН сувязь з масавым краязнаўчым рухам узмацніць асабліва па Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі; таксама прыняць адпаведныя крокі для заснаваньня сувязі краязнаўчых організацый з Н. Д. І. імя ЛЕНІНА з тым, каб наладзіць вытворчы бок краязнаўства;

б) працягваць працу па популярызацыі краязнаўства сярод шырокіх мас працоўных з тым, каб уцягнуць у непасрэдную працу краязнаўчай справы большы лік сялян і рабочых;

в) у мэтах паглыбленьня краязнаўчай справы лічыць патрэбным стварэньне спры-

яючых умоў навокал краязнаўства, якія-б стымулявалі яго: аслабаненьне сталых працаўнікоў краязнаўцаў ад іншых відаў нагрузкі грамадзкай працай, ужываньне мэтоду вылучэнства па лініі краязнаўства, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на высоўваньне выявіўшыхся краязнаўцаў у навукова-дасьледчыя ўстановы ў якасьці асьпірантаў ці на іншую працу.

г) Прызнаючы далейшае разгортваньне і паглыбленьне краязнаўчай справы адным з сродкаў прыцягненьня шырокіх мас працоўных да ўдзелу ў вырашэньні пытаньня культурнай рэволюцыі, а таксама адзначаючы важнасьць папярэдняга краязнаўчага вывучэньня для разьвіцьця навукова-дасьледчай справы наогул, прызнаць патрэбным па сучасным стане разьвіцьця краязнаўчае справы асыгнаваньне сталых, пэўных сродкаў па мясцовым каштарысе, як акруговых выканаўчых камітэтаў, гэтак і раённых, на падтрыманьне мясцовага краязнаўчага руху, аб чым паставіць пытаньне перад СНК.

д) Узмацніць увагу да пытаньня падрыхтоўкі краязнаўцаў, як шляхам пастаноўкі гэтага пытаньня перад органамі НКА аб пашырэньні курсу краязнаўства на ўсе ВУЗ'ы і тэхнікумы і павялічэньні ліку гадзін на выкладаньне яго, гэтак і на пэрыодычную арганізацыю курсаў краязнаўства пры ЦБК і акруговых таварыствах краязназўства і на летніх настаўніцкіх курсах.

е) Ц. Б. К. у далейшай сваёй працы зьвярнуць асаблівую ўвагу на наладжаньне краязнаўчай справы ў галіне вытворчага краязнаўства (вывучэньне экономікі, с.-гаспадаркі і інш.), наладзіўшы адпаведную сувязь з навукова-дасьледчымі ўстановамі, вядучымі працу ў гэтай галіне з мэтай узмацненьня мэтодычнага кіраўніцтва па вывучэньні гэтых пытаньняў.

ж) ЦБК і Нац. Сэктарам БАН узмацніць увагу да вывучэньня форм і мэтодаў краязнаўства сярод нац. меншасьцяй з мэтай наладжаньня краязнаўчай справы ў гэтай галіне.

з) Установам БАН распрацаваць мэтоды найлепшай увязкі з краязнаўчымі арганізацыямі, мэтоды скарыстаньня дасылаемых імі матар'ялаў у навуковай працы БАН, практыкуючы зьмяшчэньне лепшых матар'ялаў мясцовых краязнаўцаў у працах адпаведных катэдр або паасобных зборніках.

і) У мэтах лепшай увязкі працы краязнаўчых арганізацый з Н. Д. І. імя ЛЕНІНА ўвесьці прадстаўніка ад НДІ ў Прэзыдыум ЦБК.

## Што атрымала ЦБК і рэдакцыя час. „Наш Край“ у лютым-сакавіку м-цах 1929 г.

Ад Х. Клімянка (Жлоб. р.) карткі слоў жывой мовы.

Ад А. Крукоўскага (Мазыр. акр. т-ва)—Матар'ялы па дыялектолёгіі вв. Вуглоў, Бібікаў, Нароўлі, Вербавіч, Белай Сарокі і Даўлядаў—167 стар.

Ад П. Зубровіча (Цешкаўскі Краязнаўчы гурток)—запоўненая програма асаблівасьцяй беларускай мовы.

Ад Я. Даўматовіча, Т. Боўбаса, Н. Лутовіча, Х. Клімянка, У. Лепяшынскага, Максімовіча (Староб. р.), П. Гальчэні—фольклёрныя матар'ялы 72 №№.

Ад Клімавіцкага раённага Т-ва Краязн. Паданьні аб волатах і асілках 26 паданьняў, якія сабраны вучнямі 2 Клімавіцкай 7-кі.

Ад Цешкаўскага Краязн. гуртка (Пухав. р.)—фольклёрных матар'ялаў 247 №№.

Ад Т. Мікалаева (Касьцюковічы)—мэлёдыі і словы 6 народных песень, запісаных у в. Гібалы Касьц. р.

Ад Клімавіцкага раённага т-ва краязнаўства каля 4000 №№ фольклёрных запісаў зробленых вучнямі 2-ой Клімавіцкай школы 7-кі.

Ад М. Ігнатовіча (Арш. акр.) прыпевак 216.

Ад К. Мартынсона арт. Зьбіраньне этнолёго-лінгвістычных матар'ялаў сярод Латыскага насяленьня БССР.

Ад Н. Чахоўскага (Аршан. р.) Беларускі парнік.

Ад Мірскага (Магілеў). Арт. Рабочы і Сялянскі рух на Магілеўшчыне.

Ад Т. Шпілеўскага і Л. Баброві ча. Артыкул „Сучасны стан м. Койданава і раёну“.

## Дзейнасьць Навукова-Дасьледчага Т-ва Краязнаўства Бел. Дзярж. Ун-ту ў бягучым 28-29 г.

Праца Т-ва з г. г. пасьля кампаніі перавыбараў кіруючага складу Бюро Сэкцый і Праўленьня праводзіцца праз наступныя Сэкцыі: 1. Социяльньна-Экономічная, Прыродазнаўчая, Мэдычная, Культурна-Гістарычная, Сэкцыя мовы і літаратуры і яўрэйская. Сэкцыі ў г. г. пашырылі галіны досьледаў праз арганізацыю асобных камісій, новых сэкцый не ўтваралася, але Праўленьне Т-ва мае на мэце арганізацыю Польскай сэкцыі з студэнтаў Польсэктару Пэдфаку. Новымі цікавымі камісіямі, якія прарабілі за гэты час (з кастрычніка м-ца 28 г.) ужо значную арганізацыйную і мэтодычную працу, зьяўляющца: Геолёга-Глебазнаўчая прырод. сэкцыі—кіраўнік акадэмік Блюдухо і Фольклёрна-дыялектолёгічная, кіраўнік доц. Роўрэбэ, апошняя выпрацавала інструкцыю па зьбіраньні фольклёру і некаторыя сябры сэкцыі вывучаюць фольклёр сярод рабочых яўрэяў г. Менску (Меншвэй і інш.). Іншыя сэкцыі праводзяць распрацоўку ўжо сабраных матар'ялаў, зварачваючы сваю асаблівую ўвагу на мэтодыку краязнаўчых досьледаў. Увесь плян працы Т-ва складаецца з 3-х частак. а) Організацыйна-агітацыйная праца, б) мэтодычная, в) навукова-дасьледчая.

Першая частка пляну прадугледжвае популярызацыю краязнаўчых ведаў сярод студэнцва і беларускага насельніцтва ў час вакацыі. Заснаваньне сувязі з краязнаўчымі організацыямі. Організацыю Краязнаўнага Музэю і Бібліотэкі пры Т-ве. І цяпер ужо вядзецца падрыхтоўчая праца да організацыі вечару Яўрэйскай Этнографіі з мэтаю популярызацыі т-ва сярод студэнтаў Яўрэйскай Сэкцыі Пэдфаку.

Мэтодычная праца праводзіцца шляхам пастаноўкі інструкцыйных дакладаў па досьледу пэўных об'ектаў на сэкцыях нав. кіраўнікам. Практычнае азнаямленьне членаў сэкцый з мэтодамі працы праводзіцца спосабам колектыўных экскурсій і выездаў. За мінулыя м—цы іх было 4, 2 з іх у падшэфны сельсавет БДУ і 2 па гор. Менску.

*Навукова-Дасьледчая праца.* Згодна рэзолюцыі Ц. Б. К., Праўленьня Ун-ту і агульнага перавыбарчага Сходу Т-ва па дакладу праўленьня аб працы за мінулы справаздачны год Т-ва зьмянілакі рунак далейшай працы, адмовіўшыся ад дальных экспэдыцый пашырала об'ект досьледу выключна на Меншчыне, чаму галоўная ўвага зьвернута па наступныя пункты: а) Працягваць працу на вывучэньні падшэфнага БДУ раёну, б) закончыць распрацоўку сабраных матар'ялаў па вывучэньні р. Сьвіслачы, в) распачата вывучэньне некаторых об'ектаў гор. Менску, г) выдаць зборнік прац Т-ва.

*Праца Сэкцый.* З тае прычыны, што некаторыя Сэкцыі ў мінулым годзе займаліся глыбока-тэорэтычнымі пытаньнямі (культ.-гістарычная і соц.-экономічная), чаму праца апошніх насіла сэмінарскі характар. Т-вам зроблены круты пералом у плянах працы ў бок набліжэньня іх да дасьледваньня непасрэдна-сучаснага матар'ялу і ў першую чаргу Меншчыны.

Найбольш шырока разьвінула сваю працу Прыродазнаўчая Сэкцыя Т-ва, якая ў г. г. налічвае звыш 100 членаў.

*Флёрыстычная камісія* праводзіць вывучэньне відавога складу расьліннасьці, шляхам гэрбарызацыі, складаньня геоботанічнай карты, вывучэньня лясных масываў.

*Геолёга-Глебазнаўчая* (нанова організаваная) вывучае рэльеф і ледавіковыя рэшткі, дасьледвае знаходжаньне агроруд і будаўляных матар'ялаў, глебу і яе мінэральныя ўгнаеньні.

*Камісія па вывучэньні пустазельля* вывучае пытаньні распаўсюджаньня пустазельля складаньне сьпісу шкодных расьлін і г. д.

*Зоолёгічная камісія* сіламі асобных краязнаўцаў праводзіць вывучэньне тэй ці іншай клясы жывёл, рыб, вадаземніка ў з колекцыянаваньнем для музэю.

*Па шаўконіцтву* праводзіла ў час выезду ў падшэфны БДУ раён пропаганду па разьвядзеньні морвы і культуры коканаў. Ёсьць на мэце зрабіць спробу пастаноўкі вопытаў разьвядзеньня морвы асобнымі аматарамі і пабудаваць куток па шаўконіцтву пры музэі. Неабходна адзначыць, што члены г. сэкцыі студэнты ўвязваюць сваю краязнаўчую працу з дыплёмамі, гэта надае апошнім практычную вартасьць. Чаму праўленьню Т-ва ў далейшым прыдзецца прыняць крокі да рэалізацыі такіх прац у належным кірунку.

Асаблівы напрамак у вывучэньні Меншчыны ўзяла Мэдычная Сэкцыя Т-ва. Калі ў мінулым годзе на пасяджэньнях ставіліся такія адцягненыя даклады, як „Простытуцыя ў Эўропе і інш., дык у г. г. об'ектам досьледаў сэкцыі зьяўляецца Меншчына, аб чым гавораць узятыя для распрацоўкі членамі сэкцыі наступныя тэмы: 1) Організацыя досьледаў становішча буйнай і дробнай прамысловасьці. 2) Дасьледваньне студэнцкага быту, 3) Вывучэньне саніт. становішча падшэфнага БДУ сельсавету. 4) Вывучэньне занядужаньняў рабочых і сялян паводле даных клінік. 5) Організацыя досьледаў сан. становішча ўрачэбных пунктаў у БССР (выпрацоўваецца належная схэма). Вельмі цікавымі зьяўляюцца тэмы: Вывучэньне саніт. і гігіенічнага становішча саўхозаў і кол. гаспадарак, умовы працы на лесараспрацоўках, сан-становішча крам МЦРК. Гэта сьведчаць аб правільным кірунку працы сэкцыі.

Колектыўным спосабам мэд. сэкцыяй ужо зроблен агляд студэнцкага быту.

*Культ.-Гістарычная Сэкцыя* да гэтага часу не разгарнула працы і ў хуткім часе распрацуе некалькі дакладаў па матар'ялах экспэдыцыі, а таксама прыме ўдзел у вывучэньні падшэфнага сельсавету (першы выезд ужо быў увосень). Сэкцыя ўзяла напрамак на падрыхтоўку студэнтаў да досьледаў па матар'яльнай культуры, археолёгіі і спосабу фотографаваньня краязнаўчага матар'ялу. Сэкцыя слаба забясьпечана навук. працаўнікамі, чаму ў далейшым неабходна прымацаваць спэцыялістых, уключыўшы ў плян працы сэкцыі такія пытаньні, як вывучэньне асьветы ў БССР і рэв. руху і сучасных гістарычных падзей.

*Яўрэйская сэкцыя.* Сэкцыя працуе організаваным парадкам, члены акуратна наведваюць пасяджэньні і цяпер прыступілі да распрацоўкі такіх пытаньняў: Па Гісторыка-Культурай Камісіі: Распрацоўка матар'ялаў усеагульнага дэмографічнага перапісу 1926 г. у параўнаньні з перапісам 1897 г. па наступных тэмах:

Нац. склад насельніцтва БССР, соцыяльны склад яўрэйскага насельніцтва, родная мова яўрэяў, Народная Асьвета БССР сярод яўрэйскіх мас. Пісьменнасьць яўрэяў і інш.

*Па фольклёрнай камісіі* (цяпер організаванай) цікавымі зьяўляюцца: Жанчына ў яўрэйскім фальклёры, соцыяльныя супярэчнасьці ў фольклёры. Вытворчасьць у яўрэйскім фольклёры. Антырэлігійная тэндэнцыя ў фольклёры.

*Соцыяльча-Экономічная Сэкцыя* не разгарнула працы з прычыны перагружанасьці членаў бюро сэкцыі іншай пра-

цай. Праўленьне прыняла крокі да ажыўленьня працы сэкцыі. Асаблівую ўвагу сэкцыя зварочвае на дэталёвае вывучэньне эканомічных процэсаў падшэфнага БДУ раёну.

Цяпер Т-ва канчаткова апрацоўвае матар'ялы—экспонаты Полацкай Экспэдыцыі, якія ў хуткім часе будуць надасланы ў акруговы і раённы музэй Полаччыны. Падрыхтоўваюцца: альбом фото-здымкаў, гэрбарый, археолёгічныя экспонаты, зоолёгічныя матар'ялы. Нарэшце Праўленьнем Т-ва разам з ЦБК па прыкладу мінулага году організаваны курсы краязнаўства, якія разьлічаны на 8 тыдняў (заняткі па нядзелях); імі будуць ахоплены студэнты і слухачы навучальных устаноў гор. Менску і гарадзкіх асьветнікаў.

Вад. М. Н — с к і.

## Праца Чэрвенскага раённага т-ва краязнаўства.

**Да 5-цігадовага юбілею існаваньня і працы яго. 10/XI-1923 г.—10/XI-1928 г.**

Чэрвенскае раённае т-ва краязнаўства заснавалася 10 лістапада 1923 г., яшчэ тады, калі сам г. Чэрвень быў не раённы, а павятовы цэнтр.

Першыя, хто падаў думку аб заснаваньні данага т-тва, былі: Пісарчык (цяпер інсп. асьветы г. Менску), Каранеўскі, Бэлюсь, Бэсман, Хлябцэвіч, Шатэрнік М. і Савіч. На 10 лістапада памянёная група таварышоў назначыла сход жадаючых працаваць у галіне вывучэньня краю, дзе тав. Пісарчык зрабіў даклад на тэму „аб неабходнасьці організацыі ў гор. Чэрвені краязнаўчай грамады". Пасьля яго дакладу тут-жа было абрана першае часовае Праўленьне з 5 асоб: (Пісарчык, Протасаў, Каранеўскі, Бэлюсь і Савіч, кандыдатамі Бэсман і Хлябцэвіч) і быў намечаны прыблізны плян працы, які для поўнай распрацоўкі быў даручаны Праўленьню. Акрамя гэтага часоваму Праўленьню было даручана зараз-жа „прыступіць к вышэйпаказаным работам, устанавіць сувязь з неабходнымі ўстановамі і організацыям для ўчыненьня апошнімі сваёй дапамогі".

Галоўнай мэтай і бліжэйшай задачай т-ва было: усебаковае вывучэньне Чэрвенскага павету ў адносінах: прыродна-гістарычным, грамадзка-эконамічным, этнографічнымі і інш., але паставіць працу як мае быць не ўдалося.

У 1924 г. праводзілася раёнаваньне, шмат сяброў, як Праўленьня так і т-ва наогул (усяго 21 асоба) пераяжджалі ў іншыя мясцовасьці, некаторыя засталіся па-за межамі раёну і т-ва фактычна распалася. Праўда, кінутая краязнаўчая думка знайшла сабе водгук сярод некаторых сяброў, былі такія, што не пакідалі распачатай працы, тое-сёе рабілі, але доўга так цягнуцца не магло.

17 жніўня 1925 г. на агульным сходзе сяброў Саюзу Працасьветы, ужо ў раёне зноў было ўтворана краязнаўчае т-ва, абрана Праўленьне з 5 асоб: (Хлябцэвіч, Шацкі, Катлінскі, Каўтовіч, Біруковіч і канд. Ляндрэс), зроблены запіс у сябры т-ва і была прапанова Праўленьня скласьці больш сталы плян працы. Новае Праўленьне, як і старое, доўгі час працавала бяз пляну, паперы, якія дасылаліся рознымі краязнаўчымі організацыямі, выконваліся зацяжна, а падчас дзякуючы сваёй складанасьці і зусім заставаліся без выкананьня. На дасылаемы інструкцыйны матар'ял, таксама зварочвалася мала ўвагі, лепшы кажучы, ён не разглядаўся.

Нарэшце Праўленьне т-ва, склала плян. І з гэтага часу краязнаўчае т-ва, як-бы ўступіла на новы шлях працы — больш продукцыйнай больш карыснай у справе вывучэньня раёну. Плян быў наступны: 1) скласьці карту раёну, 2) вызначыць на карце глебавыя, вадзяныя, расьлінныя асаблівасьці, 3) зрабіць апісаньне ўсіх насельных пунктаў раёну, з боку гістарычнага, географічнага і эконамічнага і 4) зьбіраць апавяданьні, казкі і словы. Склаўшы такі схэматычны плян Праўленьню т ва ўдалося тое-сёе выканаць, а мясцамі даволі здавальняюча: 1 і 2 заданьне адносна складаньня карты раёну поўнасьцю выканана ня было, складзена было толькі 5 карт сельсаветаў, а трэба было згодна ліку сельсаветаў 11. Карты ня мелі тых адзнак, розных „асаблівасьцяй" мясцовасьці, аб якіх гаварылася ў пляне. Ня было інструкцый як вясьці працу. 3-е заданьне зусім ня было выканана, а што тычыцца 4-га, дык было сабрана шмат апавяданьняў, казак (т. Вінаградаў наст. 7-кі), слоў (т. Шатэрнік М.) і г. д. чынны ўдзел, як у запісах апавяданьняў, казак, так і ў зьбіраньні слоўнікавага матар'ялу прынялі вучні белар. 7-кі, але, на вялікі жаль, гэты ўдзел у большай сваёй частцы быў выпадковы, не організованы. Апрача вызначанага па пляну, Праўленьне праводзіла 2 экскурсіі з мэтай агляду помнікаў мінулага. Адна была праведзена ў урочышча „Батура" і „Гарадзішча" Хутарскага сельсавету, а 2-я ў вёску Іванічы для агляду там землянога т. зв. „Гарадзішча". Вынікі экскурсій было — звычайнае апісаньне курганоў, гэтых мясцовасьцяй.

З тэй прычыны, што для працы неабходны былі сродкі, Праўленьне ставіла на агульным сходзе сяброў т-ва пытаньне аб сяброўскіх узносах. Быў устаноўлены ўзнос у памеры 25 кап. у год. Сабраць гэтыя ўзносы ў той час, калі яны надта патрэбны былі, Праўленьню не ўдалося. Было сабрана ўсяго 2 рублі пры наяўнасьці 70 сяброў т-ва. Былі праведзены 4 пасяджэньні Праўленьня і 5 агульных сходаў, як на агульных сходах, так і на пасяджэньнях Праўленьня ставіліся ў большасьці пытаньні організацыйнага зьместу. Пытаньняў, якія-б зьяўляліся вынікамі дасьледваньня раёну ня было. Была зроблена справаздача працы Праўленьня. 2 разы пасылаўся прадстаўнік на краязнаўчыя акруговыя конфэрэнцыі (1-ы раз на

Акр. конф., 2 раз на 1-ы ўсебеларускі зьезд тав. Каўтовіч, наст. белар. 7-кі).

Так існавала і працавала т-ва да 18/X 1926 г.

З тэй прычыны, што некаторыя сябры Праўленьня (Біруковіч, Шацкі, сакратар Каўтовіч) пераехалі ў іншыя мясцовасьці, былі ўведзены ў склад Праўленьня новыя сябры (тав. Дземяшкевіч—Сакратаром, Хайлоўскі і Вугалева членамі, усе наст. 7-кі). Гэтая зьмена складу Праўленьня кладзе зноў новы пэрыод працы раённага краязнаўчага т-ва і, трэба сказаць, гэты пэрыод рэзка адрозьніваецца ад ранейшых па сваёй працы, як у падыходзе, так і выніках яго. Але раней, чым характарызаваць гэты пэрыод, трэба падкрэсьліць недахопы, якія былі ў працы ранейшых складаў Праўленьня. Галоўны недахоп—краязнаўчая думка амаль зусім ня была папулярызавана сярод тэй часткі насельніцтва, якая-б у першую чаргу прынесла-б карысьць данай справе — гэта настаўніцтва, адсюль выцякала ўжо тое, што ўся праца праводзілася выключна сябрамі Праўленьня і то ня ўсімі. Акрамя гэтага Праўленьня ня ставіла сваёй мэтай організаваць тых, хто бязумоўна мог дапамагчы—гэта вучняў. Яны прымалі ўдзел, але выпадковы. Школьныя програмы, асабліва малодшых груп 7-к таксама былі з краязнаўчым ухілам, але гэтаму не аддавалася належнай увагі; праводзіліся экскурсіі, зьбіраліся матар'ялы, рабіліся досьледы, запаўняліся анкеты і г. д., але ўсё гэта заставалася без апрацоўкі, бяз усякага догляду—не захоўвалася.

На папярэдні працы новага складу Праўленьня ў Менску адбылася Акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя, на якой прысутнічаў прадстаўнік і ад Чэрвенскай організацыі (т. Дземяшкевіч).

Як толькі была заслухана інформацыя аб акруговай конфэрэнцыі ў Менску, Праўленьня Чэрвенскага Райт-ва зараз-жа прыступіла да выкананьня тых пытаньняў, якія былі высунуты на конфэрэнцыі. У першаю чаргу быў намечаны плян заснаваньня раённага краязнаўчага музэю. Была абрана камісія, якой і даручана была гэтая справа.

Таксама была складзена камісія па вывучэньні гораду Чэрвеня. Сябры камісіі, за выключэньнем некаторых, на вялікі жаль, працы сваёй ня выканалі. Што датычыцца працы музэйнай камісіі, то яна таксама ў цэлым не працавала, усю працу прышлося праводзіць мне, як загадчыку музэю. У гэтай справе дапамагалі, вучні, якія з вялікай ахвотай пачалі зьбіраць розныя рэчы, і к сучаснаму моманту музэй мае звыш 500 экспонатаў; сярод іх асаблівае месца займаюць старасьвецкія грошы, сабраныя выключна вучнямі. Цяпер у музэі ёсьць: 10 старажытных тапароў, 237 розных старадаўных монэт, 12 модэляй, прылад сялянскіх вырабаў, 28 узораў тканіны; 2 паясы і 2 ўзоры вязаньня, 15 экспонатаў збожжа і гароднiны, 20 мэдаляй і жэтонаў; 1 пячатка Ігуменскага павету 1809 г., 16 фото-здымкаў: 5 гістарычных докумэнтаў (паміж імі „маніфэст 17 кастрычніка" надрукав. у газэцэ „Беларускі лісток" і адозва ваенна-рэволюцыйнага камітэту Ігуменскага павету); 4—малюнкі—краявіды Чэрвеншчыны, 8 плянаў, 6 з іх сельсаветаў, 3 чучалы (галовы): 2 моноліты глебы. 3 боны Чэрвенскага банку. 8 экспонатаў дрэў; 11—раённых крэдытовых білетаў.

23 студзеня 1927 г. Праўленьне райтаварыства склікала першую раённую краязнаўчую конфэрэнцыю, якая палажыла пачатак масавага абгаварэньня краязнаўчых пытаньняў у межах раёну. Конфэрэнцыя, акрамя тэорэтычных пытаньняў, абмеркавала цэлы шэраг пытаньняў практычнага зьмеесту і зьявілася моцным штурхачом у далейшай працы краязнаўства (прысутнічала 75 асоб). На конфэрэнцыі разглядаліся наступныя пытаньні: 1—краязнаўства, як аснова працы па програме ГУС'а, 2—справаздача Праўленьня краязнаўчага т-ва, 3—плян працы на люты—май, 4—Выбары праўленьня краязнаўчага т-ва і 5—Бягучыя справы. У рэзолюцыях галоўным чынам гаварылася аб тым, каб гэтую працу ажывіць, перавесьці яе на плянавасьць, каб яна мела больш сыстэмны характар у школе, а таксама і ў тых гуртках, якія павінны заснавацца. Тав. Шчацько прапанаваў далучыць да краязнаўчага т-ва, камісію па экономічным вывучэньні раёну, якая працавала пры РВК. Гэтая прапанова была прынята. Агульна трэба сказаць, праца конфэрэнцыі праходзіла жвава. У склад новага Праўленьня былі абраны наступныя сябры: Катлінскі, Дземяшкевіч, Хайлоўскі, Вугалева, Сарока, Шчацько, Савіч (аграном) Жыгалковіч і ад вучняў—Вішнеўскі і Бэсэк.

Усе тыя недахопы, якія былі ў папярэдняй працы т-ва, новы склад Праўленьня стараўся зьнішчыць. На організацыйны бок таксама была зьвернута вялікая ўвага: было заснована 11 падраённых гурткоў пры кожным сельсавеце. Заснованы былі і вучнёўскія гурткі, найбольш выдатны ў працы аказаўся з іх гурток пры беларускай 7-цы, заснаваны 4/XII-26 г. Былі заснаваны 2 фэнолёгічныя пункты ў Чэрвені і Рудні. Вынікі назіраньняў Руднянскага пункту кепскія, больш сталымі зьявіліся Чэрвенскія—дзякуючы таму, што тут гэтую працу вялі вучні.

Шырока і досыць стала разгарнула сваю працу Мэтэоролёгічная станцыя пад непасрэдным кіраўніцтвам загадчыка беларускай 7-кі тав. Катлінскага. Ужо з год вядуцца запісы адносна атмосфэрных ападкаў, а таксама і сьнегавога насьцілу, якія рэгулярна адсылаюцца ў Цэнтр. Мэтэр. станцыю пры Наркамземе БССР.

Што-ж зроблена фактычна ў справе вывучэньня Чэрвеншчыны на працягу ўсяго існаваньня таварыства і што яно думае зрабіць у будучым?

*Організацыйная частка працы*: 1. Папулярызавана даволі шырока ідэя краязнаўства. 2. Для большай продукцыйнасьці працы

і больш шырокага ахапленьня яе заснаваны 11 падраённых гуртkoў, для ўцягненьня вучнёўскай масы—заснаваны вучнёўскія гурткі 3. Уся праца праведзена на плянавасьць. 4. Наладжана канцэлярская праца, дзякуючы чаму вядзецца сталы вучот і справаздачнасьць. 5. Праведзена 23 пасяджэньні і 2 конфэрэнцыі, на якіх разгледжана 95 пытаньняў і 7 пытаньняў на 2-х конфэрэнцыях. 6. Праведзена 1 раённая вучнёўская краязнаўчая конфэрэнцыя—9/XII-28 г. Гэтая конфэрэнцыя значна пасунула працу юных краязнаўцаў на вёсцы. 7. Павялічаны лік сяброў. У шэрагі краязнаўцаў уцягнуты ня толькі партыйныя сілы, але і сялянскі актыў таксама і вучнёўства. Рух краязнаўцаў за ўвесь пэрыод існаваньня т-ва паказвае наступная табліца:

| Год | Агульны лік | Па партыйнасьці | | | Па нацыянальн. | | | | | Па профэсіі | | | | | | | Па полу | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Чл. і канд. КПБ | Чл. і канд. ЛКСМ | Беспартыйн | Белар. | Яўр. | Паляк. | Расійц. | Інш. | Наст. | Політасьв. | Агран. | Статыстаў | Працоўн с-таў | Сялян | Вучняў | Мужч. | Жанч. |
| 1923 | 21 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 1926 | 75 | 6 | 66 | 57 | 12 | 1 | 5 | — | — | 72 | 2 | — | — | 1 | — | — | — | — |
| 1927 | 131 | 4 | 11 | 116 | 93 | 29 | 3 | 3 | 3 | 67 | 1 | — | 3 | — | — | 60 | 73 | 58 |
| 1928 | 258 | 14 | 24 | 220 | 214 | 25 | 8 | 7 | | 5111 | 1 | 1 | 4 | 8 | 12 | 120 | 183 | 75 |

Праўленьне т-ва для ўзмацненьня арганізацыйнай працы і, галоўнае, дасьледчай, шляхам узысканьня запазычанасьці сяброўскіх узносаў, пастаноўкі на краязнаўчыя тэмы платных лекцый і дапамогі збору РВК павялічыла свае сродкі. У сучасны момант т-ва налічвае звыш 100 руб.

*У дасьледчай частцы* зроблена наступнае: заснаваны раённы краязнаўчы музэй, які мае свой уласны пакой пры „Доме Асьветніка" (гл. вышэй). Шырока разгорнута праца па назіраньні за прыроднымі зьявішчамі, з гэтай мэтай ужо 3 гады пад непасрэдным кіраўніцтвам краязнаўцы тав. Катлінскага працуе мэтстанцыя, а таксама заснаваны 2 фэнолёгічныя пункты. Вялікую працу т-ва прарабіла ў справе зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу (песень, казак, забабон і інш.). На працягу 3-х год запісана і адаслана ў БАН 1104 №, фоклёрных запісаў (гл. „Наш Край" № 12, за 1928 год). Сабрана шмат слоў — 9500, дзякуючы чаму ў недалёкім будучым Чэрвеншчына будзе мець свой слоўнік. Гэты слоўнік ужо ўвосені 1927 г. паступіў у Слоўнікавую камісію апрацаваным па карткавай сыстэме ў ліку 9.000 слоў. Да 1-га сьнежня надрукована ўжо $4^1/_2$ аркушы. Сабрана шмат матар'ялу, якія характарызуюць Чэрвеншчыну ва ўсіх галінах яе жыцьця, як у мінулым, так і сучасным стане. Нарыхтавана да друку Ул. Дзямяшкевічам гаспадарка Ігуменшчыны ў мінулым і рыхтуецца таксама культурна-гістарычны нарыс Ігуменшчыны. Г. Ів. Катлінскі рыхтуе працу—вынікі досьледаў мэтстанцыі. Зьбіраюцца весткі па рэвруху, настаўнікам Панасенкам ужо зроблены даволі каштоўны пачатак: ім напісаны „нататкі рэвруху ў Хутарскім сельсавеце". Павялічваецца поступова і краязнаўчая бібліотэка. Праўленьне зьвязалася ў сваёй працы з ЦБК Ленінграду і яго Гідролёгічным Інстытутам, а таксама трымае сувязь і з С.-Гаспадарчай Акадэміяй у Горках. Праца т-ва значна пасунулася наперад.

*У далейшай сваёй працы* т-ва ставіць мэтай яшчэ больш популярызаваць краязнаўчую думку сярод насельніцтва—узмацніць зацікаўленасьць шляхам пастаноўкі на краязнаўчыя тэмы популярных лекцый, вечароў, павялічыць лік сяброў са складу Комсамолу гораду і вёскі, даючы пэўныя заданьні для выкананьня. Наладзіць сувязь з профарганізацыямі і найбольш усяго з РВК. Узмацніць працу заснаваных гуртkoў шляхам індывідуальных заданьняў, пашырыць працу раймузэю, стараючыся набываць шмат экспонатаў па мясцовай вытворчасьці. Наладзіць справу выданьня часопісу Чэрвеншчыны, які-б згрунтаваў вакол сябе дасьледчы актыў (ужо на 1-ы № собран. матар'ял, хутка будзе надрукаваны). Правесьці некалькі масавых экскурсій з мэтай агляду помнікаў старажытнасьць, прыроды і быту Чэрвеншчыны. Скласьці сталую карту Чэрвенскага раёну з адзнакай помнікаў мінулага і прыродных багацьцяў. (Праца ў гэтым напрамку ўжо распачата; складзена 6 карт сельсаветаў). Пашырыць сферу працы мэт. станцыі, набываючы найбольш неабходныя для гэтага прылады і ўрэшце выдаць, лепш кажучы, падрыхтываць да выданьня зборнік Чэрвеншчыны, які-б зьявіўся сталым яе дасьледаваньнем. Бліжэйшай задачай, якая ўжо выконваецца, гэта складаньне спраўчнікаў па Сельсаветах. Для гэтага ўжо складзены плян і праца распачата. Разам з гэтым т-ва з надыходам вясны распачне вывучэньне колектыўных гаспадарак раёну і саматужніцтва як пашыранага занятку насельніцтва. Пашырыць подпіску на час. „Наш Край", ужо подпісалася звыш 13 асоб.

Канчаючы свой артыкул, прызначаны да 5-цігадовага існаваньня і працы раённага краязнаўчага т-ва я хачу выказаць шчырую

падзяку, як старшыня сучаснага складу праўленьня, няўхільнаму працаўніку ў данай справе, аднаму з лепшых організатараў краязнаўчай працы па Чэрвеншчыне Г. Ів. Катлінскаму.

Старшыня Праўленьня Чэрвенскага раённага краязн. т-ва Ул. Дземяшкевіч.

## Краязнаўчая праца ў Мазырскай акрузе.

### Пятрыкоўскае раённае т-ва краязнаўства.

З восені мінулага году праца т-ва на некаторы час спынілася. Прычына ў тым, што ў мінулым годзе праўленьне т-ва складалася з прадстаўнікоў ад РВК (старшыня РВК), райкому і настаўнікаў і амаль у поўным складзе праўленьне пераехала ў іншыя раёны Мазырскай акругі. 7/I-29 г. была склікана конфэрэнцыя сяброў т-ва і абрана новае праўленьне. Да гэтага часу новае праўленьне яшчэ ня склала пляну працы на новы год, бо старшыня т-ва ўвесь час быў у разьездах, а без яго іншыя сябры праўленьня не праяўляюць ініцыятывы. На працягу мінулага году т-ва некаторую працу зрабіла: заснавала 2 гурткі пры школах 7-ках, правяло 2 конфэрэнцыі сяброў т-ва, 8 пасяджэньняў праўленьня, запоўніла 8 анкет дыялектелёгічных, сабрала 5 апісаньняў у географічны слоўнік, запоўніла некалькі анкет аб сьляпых, аб спосабах народнага лячэньня хвароб вачэй, заклала была музэйчык, які знаходзіцца цяпер у дрэнным стане і зусім не папулярызуе краязнаўчую справу, заснавала 2 фэнпункты, зрабіла апісаньне шкоднікаў садоў г. Пятрыкова, правяло 2 папулярызацыйныя даклады аб краязнаўчай працы на комсамольскіх сходах і 1 лекцыю на пленуме Горсавету, прывяло ў парадак перапіску і бібліотэчку т-ва, сабрала некаторыя сродкі (35 р.) на далейшую працу т-ва. РВК цікавіўся працай т-ва і ў мінулым годзе 9/V заслухаў справаздачу т-ва 10/II-29 г. Т-ва наведаў прадстаўнік ЦБК. Было пасяджэньне праўленьня, на якім намячаўся плян працы т-ва на новы год. Цэнтральным пунктам пляну намечана зьбіраньне вестак для географічнага слоўніку раёну.

### Капаткевіцкае раённае т-ва краязнаўства.

Т-ва працуе сэкцыйна, лепш працуе прыродазнаўчая і культурна-гістарычная сэкцыі. Адзін раз у тыдзень сябры т-ва зьбіраюцца для супольнай працы і апрацоўкі матар'ялаў. Сабраны экспонаты для музэю пэрыодычна бываюць выстаўкі краязнаўчых матар'ялаў, але памяшканьня, каб адчыніць музэй, няма, хоць цяпер ужо ёсьць каля 200 экспонатаў. Т-ва найбольш працавала ў зьбіраньні географічнага слоўніка, гэтая праца па раёну амаль што закончана. Адначасна складаецца географічная карта (поўная) раёну, падставай для яе будзе гэографічны слоўнік. Усе весткі слоўніка супастаўляюцца з данымі перапісу насельніцтва. Таксама вельмі шырока вядуцца мэтнагляданьні. Т-ва пры дапамозе некаторых устаноў набыла абсталяваньне для мэтстанцыі (коштам каля 200 р.)—флюгер, баромэтры, рэйкі, тэрмомэтры і г. д. Т-ва дабіваецца (і бязумоўна мае права) прыняцьця станцыі на дзяржаўнае ўтрыманьне. На станцыі зьбіраюцца весткі аб тэмпэратуры паветра, атмосфэрным ціску, напрамку і хуткасьці ветру, вільготнасьці паветра, вядуцца нагляданьні над сьнегавым насьцілам. Т-ва заснавала і 2 фэнпункты—у Капаткевічах і Хуснай. Іншай цікавай працай, якую вядзе т-ва, гэта вывучэньне рэўруху раёну: 1) біографічныя даныя аб партызанах в. Чамошчавічы, 2) партызанскі рух у Лучыцкім с. с., 3) 10 год Кастрычніка ў Капаткевічах, шэраг цікавых нарысаў з эпохі Кастрычнікавай рэволюцыі, нямецкай і польскай окупацыі, 4) дзейнасьць падпольнага гуртку „Толкач“ у Капаткевічах. З пералічаных матар'ялаў аб рэўруху ў раёне некаторыя вельмі каштоўны, напр. успаміны б. старшыні рэўкому І. С. Кузьміча „Восстание кулачества и арест ревкома“ і „Расказ Хасі Кветнай“ (аб пагроме 1921—налёт балахоўцаў). Таксама цікавую працу вядзе т-ва на падставе вывучэньня „Апісаньня Мазырскага замку ад 1552 г.“. Сябры т-ва разьбіраюць на падставе яго сучасную і тагочасную номэнклятуру так званай „Бчыцкай воласьці“. Апрача пералічанай працы, т-ва склала сьпіс археолёгічных помнікаў па сельсаветах, схэматычную карту глебаў раёну, прапаравала каля 20 шт. чучал птушак раёну, правяло ў 6 пунктах раёну дыялектолёгічныя досьледы, склала яшчэ ў 1927 г. „Апісаньне Капаткевіцкага раёну“, атрымала ад аднаго мясцовага Краязнаўцы „Апісаньне вясельля ў Вялікім Сяле“, шмат матар'ялаў аб волатах і асілках (казкі, легенды), сабрала некаторыя кнігі і докумэнты з б. панскага маёнтку, з якіх асабліва цікавым ёсьць альбом зарысовак часу 1880 г. У апошні момант адным сябром т-ва прысланы цікавы літаратурны матар'ял да рэволюцыйнага часу — арсшытак вершаў, якія нагадваюць аўтара Арлоўскага (?). РВК даваў у мінулым годзе некаторую дапамогу т-ву (50 р.). У лютым г. г. Т-ва наведаў прадстаўнік ЦБК і адбылося ў гэты час пасяджэньне праўленьня, на якім былі ўнесены некаторыя корэктывы ў плян працы т-ва.

### Азарыцкае раённае т-ва краязнаўства.

За мінулы год найбольш цікавай працай Т-ва было: 1) Абсталяваньне краязнаўчага музэйчыка, што каштавала каля 30 р.; 2) заснаваньне 3-х сельсавецкіх краязнаўчых гурткоў; 3) закончана праца па эканомічным абследваньні і апісаньні Азарыцкага раёну; 4) У часе с.-г. раённай выстаўкі праведзена дасьледваньне культур аўсу, бульбы і жыта ў 9 мясцох раёну (апрацоўка поля, угнаеньне, сяўба, прыборка, хаваньне); 5) складзены поўны сьпіс паселішчаў раёну; 6) сабраны матар'ялы для географічнага слоўніка па 3-х сельсаветах; 7) сабраны матар'ялы аб пан-

шчыне і рэўруху ў раёне; 8) абсьледваны і разгледжаны матар'ялы аб 3-х сельсаветах раёну ў мэтах конкурсу на лепшы сельсавет і складзена корэспондэнцыя аб гэтым і г. д. Пры т-ве існуе мэтстанцыя і 2 фэнпункты. На жаль, РВК і коопэрацыйныя ўстановы не дапамагалі матар'яльна т-ву, што дало-б магчымасьць яшчэ больш разгарнуць працу. У бягучым годзе т-ва ў гэтым напрамку мае пэрспэктывы.

**Мазырскае акруговае т-ва краязнаўства.**

У мінулым годзе неабходна падкрэсьліць наступную працу т-ва: 1) поўнае дыялектолёгічнае апісаньне каля 60 вёсак Мазырскай акругі з ілюстраваньнем гэтага апісаньня слоўнікавым і фольклёрным матар'ялам. Некаторыя з гэтых матар'ялаў ужо дасланы ЦБК; 2) вызначаны мясцовыя ботанічныя тэрміны (каля 400 №№) і дасланы ў Слоўнікавую камісію БАН; 3) складзены бюджэт аднаго селяніна-комуніста з в. Бярозаўкі Юравіцкага раёну; 4) сабрана шмат документаў па гісторыі рэўруху ў Мазырскай акрузе (успаміны, мэмуары, апавяданьні); 5) дасьледваліся бюджэты рабочых заводу „Чырвоны Кастрычнік"; 5) абсьледваны прыродныя фарбы (умбра ці охра?) у в. Бярозаўцы Юравіцкага раёну (у мінулым годзе ў Нараўлянскі раён гэтай фарбы было вывезена каля 20 вазоў); 6) т-ва адчыніла 1/1-29 г. акруговы Краязнаўчы музэй. Т-ва ня думала так скора адчыняць музэю, паколькі собраныя экспонаты яшчэ не зьяўляюцца належна апрацаванымі і самы падбор экспонатаў зусім яшчэ ня поўны, але зацікаўленасьць савецкага грамадзянства была такой вялікай, што прышлося датэрмінова адчыніць музэй. Цяпер на працягу месяца (музэй быў адчынены 2 разы ў тыдзень). Музэй наведала 820 чалавек. Музэй мае такія матар'ялы: документы цэнтр. установ, документы, характэрызуючыя першыя крокі Савецкай улады на Мазыршчыне, эпоху нямецкай і польскай окупацый, эпоху бандытызму (зброя бандытаў), альбом Савецкай улады ў г. Мозыры, тканіны, этнографія, багаты аддзел археолёгіі Мазыршчыны і г. д.

У гэтым годзе праца т-ва вядзецца не па сэкцыях. Працуюць групы па вытворчым прынцыпе. Так, напр., прыродна-гэографічная група складаецца з 7 асоб (географічным слоўнікам заняты 3 чалавекі, адзін вядзе фэнолёгічную і мэтэоролёгічную працу, адзін заняты гідролёгічнымі назіраньнямі і г. д.). Т-ва ў цэлым орыентуецца на пэдтэхнікумаўскую моладзь—выхоўвае зарысоўшчыкаў, ботанікаў, зоолёгаў, фольклёрыстаў і г. д.

У бягучым годзе т-ва мае плян, які будзе бязумоўна выкананы. Найбольш цікавыя моманты пляну працы: 1) Вясною на працягу 10 дзён будуць організаваны краязнаўчыя курсы для моладзі—вучняў старэйшых клясаў 7-дак. Мэта: падрыхтаваць актыўных зьбіральнікаў па вёсках краязнаўчых матар'ялаў; 2) вясною склікаць акруговую краязнаўчую конфэрэнцыю; 3) скласьці падрабязную анкету па вывучэньні, рэўруху ў Мазыршчыне; 4) сабраць весткі аб бойках Чырвонай арміі ў акрузе; 5) вывучыць сэктанцтва ў Мазыршчыне — некаторыя этапы; 6) скласьці культурна-гістарычны нарыс г. Мазыра і апісаньне фабрыкі „Чырвоны Кастрычнік"; 7) абсьледваць яўрэйскі калгас „Сядзельнікі"; 8) зафотографаваць об'екты для гэографічнага слоўніка Мазыршчыны і 9) організаваць пры музэі аддзел мясцовай вытворчасьці.

## Праца Бельскага Т-ва Краязнаўства за 5 год, з 1924 па 1928 г.

Організацыйны сход Бельскага Т-ва першы раз адбыўся 10/1—24 г. Прысутнічала 41 чал. Былі разгледжаны пытаньні: 1) інформацыя аб Бельскім гуртку аматараў прыроды, 2) даклад Н. В. Уласкіна аб значэньні краязнаўства ў грамадзкім жыцьці, 3) даклад А. В. Цьвяткова „Гісторыя краязнаўчага руху", 4) даклад Д. А. Трайкоўскага „Роля аматара ў краязнаўстве", 5) зацьверджаньне статуту і выбары кіраўнічых органаў Т-ва.

Другі сход Т-ва быў 9/VII—24 г. Былі заслуханы даклады: 1) С. Л. Тапельзона „Аб руху насельніцтва ў Бельскім павеце за годы 1921-22-23; 2) А. В. Цьвяткова „Аб працы гістарычна-археолёгічнай і этнографічнай сэкцыі Т-ва"; 3) Кубліцкага „Аб працы с.-г. сэкцыі", 4) А. П. Манохіна „Аб працы прыродазнаўчай сэкцыі і 5) справаздача Праўленьня Т-ва.

Трэці сход быў 14/VIII—25 г. Прысутнічала 17 асоб. Была заслухана справаздача аб дзейнасьці Т-ва за 1924 і 1925 г. Разгледжаны плян працы Т-ва і адбыліся перавыбары Т-ва.

Чацьверты сход адбыўся 3/IX-26 г. на ім было 200 асоб. Была заслухана лекцыя проф. Н. І. Кібоўскага „Аб скарыстаньні балот Сьвіцкі Мох".

Пяты сход быў 11/III-27. Прысутнічала 16 асоб. Была заслухана гадавая справаздача Т-ва, пераабрана праўленьне і зацьверджаны плян працы Т-ва на 1927 г.

Шосты сход адбыўся 10/V-28 г. Была заслухана справаздача Т-ва і пераабрана праўленьне.

Сёмы сход адбыўся 20/XII—28 г. Быў зацьверджаны плян працы Т-ва на 1929 г.

# БІБЛІОГРАФІЯ.

**М. І. Касьпяровіч.** *Краязнаўства (нарысы) Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск. 1929.*

Гэта першая кніжка ў беларускай мове аб агульных пытаньнях краязнаўства, — аб яго задачах, гісторыі, сучасным стане, організацыйных формах краязнаўчага руху і мэтодах пачатковай краязнаўчай працы. Падзагаловак „нарысы" аслабаняе аўтара кніжкі ад абавязку задаволіць чытача-краяведа паўнатой і сыстэматычнасьцю даказаў на ўсе пытаньні краязнаўства: для гэтага патрэбна было-б солідных два томы, а ня кніжка ў 158 старонак.

Хаця амаль усе думкі нарысаў знаёмы чытачом часопісу „Наш Край" за 1926, 1927, 1928 г. г., аднак гэта ніколькі не зьмяншае вартасьці і карыснасьці выданьня кніжкі: наадварот, тут яшчэ яскравей вызначаецца заслуга аўтара і дасягненьне Бел. Дз. Выдавецтва, якое выпусьціла першую краязнаўчую кніжку.

Выхад у сьвет „Краязнаўства" будзе вітацца краязнаўцамі і ўсімі, хто прымае ўдзел у нашым соцыялістычным, экономічным і культурным будаўніцтве, бо краязнаўства дапамагае такому адбудаваньню краіны. Кніжка гэтая тым больш патрэбна, што ідэя краязнаўства настолькі ў нас ужо прасякнула жыцьцё і працу, што выкладаньне мэтодыкі краязнаўства ўведзена, як абавязковы прадмет, у нашых тэхнікумах і на чарзе ўвядзеньня ў ВНУ. Часткова ў такой працы кніжка М. Касьпяровіча зьявіцца адзіным дапаможнікам на беларускай мове ў краязнаўстве. Як адзначае сам аўтар у прадмове, кніжка гэтая адбывае асаблівасьці беларускага краязнаўчага руху і асабліва карысна будзе нашай моладзі, для якой краязнаўчая літаратура на расійскай і ўкраінскай мовах зьяўляцца менш блізкай і даступнай.

У першым разьдзеле кніжкі вызначаецца паняцьце „краязнаўства", яго мэты і гісторыя краязнаўчай дзейнасьці на Беларусі. Тут аўтар з націскам падкрэсьлівае, што краязнаўствам называецца толькі такая дзейнасьць у пазнаньні краю, якая праводзіцца *спэцыяльнаю* організацыяй, *колектыўна* і ахапляе *ўсебаковае* дасьледваньне краю і з сьвядома і зараней пастаўленай мэтай — зьмяніць край на сваю карысьць. (Курсыў мой). Аднак, так абмяжоўваць агульнае паняцьце краязнаўства ня варта, ды і сам аўтар прызнае, што краязнаўчую дзейнасьць выяўляюць і паасобныя працаўнікі, дадаткова да сваёй спэцыяльнай працы, і ведамственныя організацыі, і неаб'яднаныя аматары, і навуковыя інстытуцыі, часта ў вельмі вузкіх спэцыяльных мэтах. Злучанасьць усёй такой працы і складае „краязнаўства" ў шырокім агульным сэнсе. Азначэньне-ж аўтара тычыцца да краязнаўства, як культурна-грамадзкага руху і ў нашай савецкай устаноўцы.

Правільна ў кніжцы зазначана (ст. 12), што адно засваеньне комплексу ведаў аб даным краі—яшчэ не краязнаўства. Непасрэдная, актыўная ўласная праца ў дасьледваньні свае мясцовасьці, у зьбіраньні матар'ялаў, апрацоўцы іх і г. д. — зьяўляюцца запраўднымі адзнакамі нашага краязнаўства. Толькі такое краязнаўства патрэбна і ў нашай школе — дзейнае, актыўнае, дасьледчае.

Карысна было-б, каб аўтар дадаў да сваіх разважаньняў шэраг конкрэтных прыкладаў запраўднай краязнаўчай працы галоўныя тэмы яе.

Гаворачы аб першых, яшчэ несьвядомых праявах краязнаўчай дзейнасьці першабытнага чакавека (ст. 9), аўтар чамусь гэтую дзейнасьць разумее толькі на тэрыторыі Беларусі. „Яно (пазнаньне краю) пачалося разам з пачаткам тэй ці іншай дзейнасьці чалавека *на тэрыторыі Беларусі*". (Курсыў мой). Лепш было-б сказаць — „на пэўнай тэрыторыі"

Нельга згадзіцца з аўтарам і з тым, што „сьвядома задач вывучэньня і дасьледваньня вакольнай прыроды, умоў яго працы і жыцьця яго грамады селянін сабе ня ставіў" — бо ўсякае вывучэньне і дасьледваньне можа быць такім толькі тады, калі яно сьвядома, падпарадкавана пэўнай сьвядомай мэце, галоўным чынам практычнай. Вывучэньне „дзеля вывучэньня" не праводзілася, — да і не патрэбна праводзіць.

Бясспрэчнымі і асабліва цікавымі ў кніжцы зьяўляюцца кароткія нарысы аб гісторыі краязнаўства на Беларусі. Толькі крыху штучна робіцца падзел краязнаўчай чыннасьці на Беларусі: на „польскае", „рускае" і „беларускае" краязнаўства. Усякае краязнаўства на Беларусі будзе беларускім, калі яно выразна

ставіць мясцовыя мэты, кім-бы яно ні выконвалася; беларусамі, палякамі, расійцамі, або яўрэямі. Да рэчы: пра „яўрэйскае" краязнаўства, як пра краязнаўства іншых нацыянальнасьцяй БССР—латышоў, літоўцаў,—у кніжцы ні слова.

Весткі, якія падаюцца ў гістарычнай частцы, багаты рознымі датамі, вытрымкамі, са статутаў організацый і крыху нагадваюць характар афіцыйнай справаздачы. Але аўтар, усюды, дзе можна вызначае і падкрэсьлівае клясавую сутнасьць панскага (польскага) і дваранскага („рускага") краязнаўства на Беларусі. Шкада, што ў кніжцы няма пэўных вестак аб тэй продукцыі папярэдняй краязнаўчай працы, якую можна было-б скарыстаць тым, хто самастойна пажадаў-бы паглыбіць свае веды па гісторыі пазнаньня Беларусі. А для разуменьня сутнасьці сучаснага краязнаўства—як грамадзкага руху—вельмі патрэбна ведаць запраўдныя вытокі яго. Такое вывучэньне паказала-б, што выток нашага краязнаўства адзіны—Кастрычнікаўская Рэволюцыя. Аўтар лічыць, што першай рускай навукова-беларусазнаўчай грамадзкай організацыяй на Беларусі быў Паўночна-Заходні аддзел імпэратарскага рускага географічнага таварыства (ў Вільні). Між тым, паводле артыкулу Д. М. Васілеўскага ў № 2-3 „Наш Кр." за 1926 „Сталецьце краязнаўчай працы на Беларусі"—такім вызначаецца „Вольна-Экономічнае Таварыства" ў Віцебску, заснаванае ў 1826 г. і прасінаваўшае да 1843 г. Ніякіх заўваг аб гэтым М. Касьпяровіч ня робіць.

„Рускаму" краязнаўству ў кніжцы адводзіцца параўнальна многа месца (30 старонак), да гэта зусім і натуральна, прымаючы пад увагу досыць інтэнсыўную і доўгую русіфікатарскую дзейнасьць царскага самаўладзтва на Беларусі.

Цыкавы адзначаныя ў кнізе спробы організацыі краязнаўчай чыннасьці праз студэнцкія гурткі—у Пецярбурзе і Н. Александрыі паколькі можна параўнаць гэтую дзейнасьць з мэтамі сучасных нашых студэнцкіх краязнаўчых аб'яднаньняў.

Таксама вельмі цікавы нарыс аб „Нашай Ніве" як краязнаўчым „Цэнтры", дзе дакладна і досыць поўна высьвятляецца вялікая роля гэтага часопісу ў справе ўтварэньня і пашырэньня беларускай краязнаўчай сьвядомасьці і зацікаўленасьці, Некаторыя інструкцыі „Нашае Нівы", як напр. аб зьбіраньні этнографічных матар'ялаў,—не пазбаўлены вартасьці і да сучаснага дня. Толькі ўсё-ж непатрэбна было ў кароткім гістарычным аглядзе зьмяшчаць поўнасьцю тры анкеты, якія друкавала „Наша Ніва" (аб дасьледваньні нар. тэатру, 30 пыт. і інш.) Дзейнасьць „Нашае Нівы" ў краязнаўстве набліжае яе да сучаснага краязнаўства (вывучаліся і рамёствы і бюджэт сялян і інш).

Пачаткам організаванага краязнаўчага руху аўтар зусім слушна лічыць тыя провінцыяльныя гурткі, якія ўзьніклі ў некаторых мясцох Беларусі самацёкам пасьля Кастрычнікавай Рэволюцыі. Прыкладамі такіх організацый былі Смалярскі гурток (у былой Ігуменшчыне—Чэрвеншчыне) і Слуцкая павятовая камісія беларусазнаўства у якіх актыўную ролю адыгрываў і сам аўтар кніжкі.

Натуральна, гістарычны агляд краязнаўства на Беларусі аўтару патрэбна было-б прывесьці да сучаснага стану, спыніўшыся на ролі першых краязнаўчых беларускіх конфэрэнцый зьездаў, пасьля якіх, пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі, краязнаўчы рух атрымаў сучасную ўстаноўку і афармленьне.

У разьдзеле „сучаснае краязнаўства" даецца агляд краязнаўчай сеткі БССР і вызначаецца дзейнасьць краязнаўчых організацый паасобных акруг і некаторых раёнаў, а таксама студэнцкіх і вучнёўскіх гурткоў краязнаўства. Апрача таго, падаюцца кароткія весткі аб дзейнасьці тых устаноў БССР, якія праводзяць краязнаўчую працу, як Інбелкульт, Дзяржаўны Музэй, Архівы і інш.

Гэты разьдзел, як і гістарычны, павінен асабліва зацікавіць краязнаўцаў з іншых Савецкіх рэспублік.

Краязнаўчая дзейнасьць апошніх на старонках кніжкі М. Касьпяровіча высьвятляецца досыць скупа, можа прымаючы пад увагу тое, што кожны жадаючы можа самастойна здабыць патрэбныя яму весткі. Аднак варта было-б больш спыніцца на краязнаўстве і РСФСР, УССР і інш. Вельмі цікавіць і беларускіх краяведаў краязнаўчая справа і Туркменіі, і Закаўказкіх Рэспублік, і Сібіры, і Крыму і інш.

Як і трэба было чакаць, пры аглядзе чужаземнага краязнаўства, аўтар досыць поўна і падрабязна спыняецца на Фіншчыне (у якую быў камандыраваны ЦБК у 1927 г.). Але хацелася-б знайсьці тут запраўды жывы нарыс фінскага краязнаўства на фоне прыроды, быту і культуры гэтае краіны. Пералічэньне комплактаў часопісаў за 14 гадоў (стар. 97) мала кажа „уму і сэрцу" чытача. Аднак, фіншчына і з гэтага агляду вызначаецца як клясычная краіна ў краязнаўчай справе. Кароткі агляд даецца краязнаўству Эстоніі, Латвіі, Літвы і яшчэ менш Польшы (а нам яна цікава ня менш Фіншчыны).

Чамусьці ні словам не закранута справа краязнаўства ў „вялікіх" суседніх дзяржавах як Нямеччына.

Перадапошні разьдзел „аб організацыі краязнаўчага руху" імкнецца даць мэтодыку пачатковай краязнаўчай працы. Але аўтар занадта ўжо популярызуе і дэталізуе першыя крокі краяведа і гаворыць аб такіх драбніцах, як патрэбна протокол запісваць (стар. 120). Можа гэтыя парады яшчэ і будуць карысны, дзе пра краязнаўчую працу яшчэ ня чулі.

Закрануты аўтарам і школьныя краязнаўчыя гурткі, пры гэтым ён полемізуе з няпрыхільнікамі школьнага краязнаўства, якіх да рэчы ў запраўднасьці і прынцыпова амаль няма. Прычына слабасьці школьнага края-

знаўства ў другім — яшчэ добра ня выяўлены мэты, зьмест, формы і мэтоды школьнай краязнаўчай працы.

У апошнім разьдзеле вызначаюцца „першыя крокі краязнаўчай арганізацыі“—зьмест і формы яе працы. Тут вельмі коштоўныя мэтодычныя паказаньні даюцца справе краязнаўчага бібліографаваньня, музэябудаўніцтва, падарож і вандраваньняў і краязнаўчых выданьняў. Тут-жа вызначана 12 прыкладных маршрутаў экскурсіі па БССР з паказаньнем літаратуры.

Наогул-жа кніжка дае шмат матар'ялаў, абуджае краязнаўчую думку, дае каштоўныя паказаньні і кіраўніцтва. Але аўтар і Дзяржвыдавецтва не падумалі аб тым, што засвоіць гэты матар'ял досыць цяжка, бо амаль уся кніжка надрукавана неперарыўным тэкстам (і прытым досыць дробным шрыфтам). На 158 старонак—20 загалоўкаў, іншы раз пад адным загалоўкам звыш 30 старонак. Асабліва гэтая цяжкасьць будзе адчувацца пры скарыстаньні кніжкі ў якасьці навучальнага дапаможніка, якім ён ужо фактычна зьяўляецца ў тэхнікумах. Да і для даведак кніжка ў такім выглядзе ня зручна, адшукаць пэўныя весткі па ёй ня хутка.

Малюнкі ў кнізе — добрыя знаёмыя для чытачоў „Нашага Краю“, але іх можна было-б даць яшчэ больш і ад гэтага кніжка значна не падаражэла-б.

Напісана кніжка добрай беларускай мовай. Тэкст чытаецца бесьперашкодна, лёгка.

Кніжка, бязумоўна, карысна для кожнай культасьветнай установы і кожнага культурнага працаўніка. С. Ж.

**„Наш Раён“** *часопіс краязнаўчага гуртка пры Асіпавіцкай чыгуначнай сямігодцы. № 1 — сакавік, № 2 — красавік, № 3 — лістапад 1928 г.*

Краязнаўчая праца ў Асіпавіцкім раёне (Бабруйшчына) ужо даўно пастаўлена на належную вышыню. Вось гэта якраз і дало магчымасьць выканаць вельмі патрэбную для ўсіх раёнаў Беларусі, карысную для навукі. працу—даць узорнае апісаньне аднаго з раёнаў Беларусі *). Мы маем ужо вышаўшымі з друку два тамы гэтае працы — „Асіпавіцкі раён“.

Краязнаўчая праца ў Асіпавіцкім раёне праводзіцца пад кіраўніцтвам энэргічнага, адданага справе працаўніка — т. Немцава. Працуючы настаўнікам у Асіпавіцкай чыгуначнай сямігодцы, ён стварыў тут моцны, запраўды зацікаўлены справаю навуковага пазнаньня свайго краю, краязнаўчы вучнёўскі гурток. Праца гэтага гуртка дала шмат матар'ялаў у памянёнае вышэй грунтоўнае апісаньне „Асіпавіцкі раён“. Шмат сабрана экспанатаў, якія склалі вельмі цікавы, багаты музэй. Ён заслугоўвае асобнага апісаньня — артыкулу. Частка прац гуртка знайшла свой адбітак, адлюстравана ў рукапісным часопісе „Наш Раён“, які мецьме выходзіць штомесячна (за выняткам, як відаць, летняга перапынку ў працы школы).

Часопіс мае ўжо тры нумары. У іх зьмешчаны цікавы, рознастайны матар'ял. Гурткоўцы любяць свой музэй, у кожным нумары часопісу ёсьць артыкул, які інформуе пра новыя здабыткі музэю. У № 1 і 3 знаходзім інформацыю — хроніку працы гуртка. Вось тут яскрава бачна тая каштоўная праца, што зроблена, што ёсьць на мэце ў гуртку. Вельмі цікавы артыкул т. Немцава (№ 1 і 2) „Помнікі старыны“. Робіцца паступовы агляд прамысловасьці раёну („Ясеньскі завод“ Паўтарака), кожная праробленая гуртком экскурсія падагульваецца ў часопісе. Прашоўшая паўсюды кампанія па самаабкладаньні не прайшла няпрыкметнай для гуртка— ёсьць артыкул „Самаабкладаньне ў в. Зашыбіна“ А. Шафраноўскага, дзе фото-здымак ілюструе зьмест — папраўку сялянамі дарог на сродкі ад самаабкладаньня.

Вельмі цікавы і багаты аддзел фольклёру —у кожным нумары зьмешчана шмат прымет, звычаяў, прыпевак, песень, народных лекаў. Усе яны адзначаны — кім, дзе і ад каго запісана. У мастацкай афарбоўцы пададзены некаторыя звычаі абраднасьці, удзельнікамі якіх, а то назіральнікамі якіх зьяўляліся аўтары гэтых мастацкіх эскізаў („Першае ворыва“, „Улазіны“, „Залом“, „Дажынкі“). У апошнім нумары пачаты артыкул „Пяцігадовы гаспадарчы плян раёну“, напісаны паводле лічбовых даных РВК. Тут шмат каштоўных лічбаў, што характарызуюць сучасны стан гаспадаркі раёну, даюць пэрспэктыву яе разгортаваньня, палепшаньня. Гэты артыкул у свой час будзе каштоўным параўнаўчым матар'ялам, для падлічэньня росту гаспадаркі раёну.

Пішуць у часопісе вучні, сябры гуртка. Мы знайшлі толькі адзін артыкул кіраўніка гуртка Немцава. Удзельнічаюць і таварышы, якія ўжо скончылі сямігодку, яны не парываюць сувязі з гуртком, так-жа аддана працуюць у ім, дапамагаюць малодшым таварышом. Гэта добрая адзнака, яна лепей за ўсё характарузуе і часопіс і гурток. Праца яго патрапіла захапіць досыць каштоўных працаўнікоў краязнаўства.

Кожны артыкул ілюстраваны ўдалымі, добра выкананымі фото-здымкамі т. Немцава і гурткоўцаў (ён навучае іх і гэтаму), а таксама плянамі, рысункамі. Упрыгожаны часопіс шматлікімі канцоўкамі, застаўкамі, выкананымі ў фарбах. Мотыў іхны — беларускі орнамэнт. Напісаны часопіс ад рукі, на адным баку ліста, памер — пісчая папера. У № 1—20 старонак, у № 2—13, у № 3—18. Вокладка — з абкладкі „спраў“ жоўтага колеру, загаловак — Скарынінскім шрыфтам, на вокладцы якая-небудзь характэрная фотографія, пекны орнамэнт (туш). Такі выгляд мае часопіс.

*) Мы ня лічым вышаўшую з друку працу „Апісаньне Горацкага раёну“, якая ёсьць вынікам працы ня звычайных краязнаўцаў, але кваліфікаваных навуковых працаўнікоў.

Цяпер некалькі заўваг, якія з нашага погляду ня шкодзіла-б мець па ўвазе ў далейшым.

У зьмешчаных прыпеўках зварачае на сябе ўвагу тое, што пераважная большасьць з іх зьяўляецца проста расійскімі „частушками“, занесенымі ў раён, як відаць, вайскоўцамі — ці з мясцовых, што былі ў арміі ў Расіі, ці расійскімі, што адбывалі службу на Беларусі. Яскравей за ўсё гэтыя „прыпеўкі“ характарызуе наступная:

„Вышывала я платочак.
Ня знала каму аддаць,
Ішоў міленькі ў салдаты,
Дала сьлёзкі уціраць“.

Самая звычайная расійская „частушка“. Тое-ж і з казкай „Дурань“. Гэтую казку можна знайсьці ў расійскіх „хрестоматиях“, нават у выданых 45 год таму назад. Вось адсюль яна і трапіла, прычым передаецца амаль што даслоўна. Вось, па нашай думцы, і трэ' было-б гуртку прасачыць, вывучыць — што, адкуль, калі і як трапіла, прынесена ў раён. Гэта дало-б цікавыя вынікі, якія і можна было-б падаць абгульняючым артыкулам у часопісе. Так-жа — нятыповыя, „запазычныя“ матар'ялы толькі займаюць месца ў часопісе.

Ня шкодзіць больш увагі аддаць мове і ортографіі: кульгаюць.

Вельмі пажадана было-б, каб часопіс выходзіў штомесячна, без перапынку як сёлета, бо ў летні час якраз гуртком вядзецца самая плённая праца.

І яшчэ адно. Асіпавіцкае раённае таварыства краязнаўства мае шмат моцных сіл, якія праводзяць ня менш карысную працу, як школьны гурток. Як мы бачылі — частка сяброў гуртка ўжо скончыла школу, хоць і прымае ўдзел у часопісе і гуртку, але ці надоўга? Вось і ня шкодзіла-б часопіс абярнуць (як і музэй) у часопіс раённага таварыства. Лепшае, больш дасканалае і поўнае адбіцьцё меў-бы раён, прыцягвалася-б больш сіл для агульнае, карыснае працы. Баяцца таго, што праца гуртка страціць свой твар — няма чаго. Яна сябе добра рэкомэндавала і імя свайго ня згубіць. Ад масавасьці часопіс выйграе, згубіць-жа ён толькі прысмаку „келейнасьці“. Можна будзе падумаць і пра шапірограф.

Хв. Шынклер.

## Мэтодычна-краязнаўчая літаратура 1928 году.

Рост краязнаўчага руху значна выпярэджвае рост мэтодычна-краязнаўчай літаратуры. Таму неабходна скарыстоўваць цалкам хоць-бы тое, што зьяўляецца ў сучасным друку. А гэта значна абцяжарана раскіданасьцю мэтодычна-краязнаўчых матар'ялаў пераважна па самых розных часопісах. Каб дапамагчы мясцовым краязнаўцам, ніжэй і сабраны назвы найбольш даступных ім кніг і артыкулаў. Апрача беларускай літаратуры, намі скарыстаны і суседнія, пераважна артыкулы часопісаў „Краєзнавство“, „Краеведение“ і „Известия Центрального бюро краеведения“. Зразумела, кожны краязнаўца, спэцыялізуючыся на пэўнай галіне досьледаў, павінен будзе далей адшукваць патрэбную мэтодычна-краязнаўчую літаратуру на іншых мовах, дапаўняючы і названую ніжэй.

У мэтах экономіі месца намі прыняты наступны парадак элемэнтаў паказчыку: аўтар, назва кнігі або артыкулу, месца і час выданьня, а для артыкулаў — нумар часопісу і старонкі, якія займае артыкул, цана кніжкі, а часамі і зьмест яе. Усё гэта зьмяшчаецца без абзацаў. Скарачэньні назваў часопісаў наступныя:

А — Асьвета, часопіс Народнага Камісарыяту асьветы і Саюзу працаўнікоў асьветы. Менск 1928, 8 нумароў у год. 6 руб.

НК — Наш Край, штомесячнік Цэнтральнага бюро краязнаўства, Менск 1928, 12, нумароў у год, 4 руб.

БМД — Беларуская мэдычная думка, выданьне Народнага камісарыяту аховы здароўя. Менск 1928, 12 нумароў у год, 5 руб.

Кр — Краеведение, периодический орган Центрального бюро краеведения. Лнгр. 1928, 10 нумароў у год, 5 руб.

П — Полымя, часопіс літаратуры, політыкі і грамадзкага жыцьця. Менск 1928, 10 нумароў у год, 10 руб.

Пл — Плуг, навукова-популярны часопіс сельскай і лясной гаспадаркі. Менск 1928, 12 нумароў у год, 2 р. 20 кап.

ИЦБК — Известия Центрального бюро краеведения. Москва 1928, 10 нумароў у год, 2 руб.

К-во — Краєзнавство, щомісячный орган Українського комітету краєзнавства. Харків 1928, 5 нумароў у год, 3 руб.

СБ — Савецкае будаўніцтва, штомесячны політычна-экономічны часопіс. Менск 1928, 12 нумароў у год, 7 руб. 50 кап.

БП — Беларускі піонэр, двохтыднёвы дзіцячы часопіс, орган ЦК ЛКСМБ і Наркамасьветы БССР. Менск 1928, 24 нумары ў год, 2 р. 40 к.

СЛГ — Сельская і лясная гаспадарка, двохмесячны часопіс Беларускага навукова-дасьледчага інстытуту сельскай і лясной гаспадаркі. Менск 1928, 6 нумароў у год, 5 руб.

ПБ — Паляўнічы Беларусі, двохмесячны часопіс, орган Белкахотсаюзу. Менск 1928, 6 нумароў у год, 1 р. 50 кап.

Увесь матар'ял разьмешчаны ў 6 разьдзелах. У першым разьдзеле названы паказчыкі краязнаўчай літаратуры, друкаваныя ў 1928 годзе і розныя даведачныя матар'ялы: сьпісы навуковых работнікаў і краязнаўцаў, законы аб аўтарскім праве і д. т п.; у другім — матар'ялы аб сучасным стане краязнаўчых організацый і ўстаноў і гісторыі краязнаўства; у трэцім — матар'ялы аб прынцыповых пытаньнях краязнаўства, аб пытаньнях агульных для некалькіх галін пазнаньня краю, музэях

і асьветным краяунаўстве; у чацьвертым – матар'ялы што да мэтодаў прыродна-географічнага; у пятым — грамадзка-экономічнага і ў шостым—культурна-гістарычнага вывучэньня краю. Некаторыя назвы маюць дачыненьне і да іншых аддзелаў, а называць іх некалькі раз ня было месца. Таму карысна прачытаць увесь паказчык і занатаваць патрэбнае для данага краязнаўцы.

Варта адзначыць, што ў пачатку гэтага году вышла кніжка „Краязнаўства" з наступным зьместам:

I. Краязнаўства, яго задачы і гісторыя (краязнаўства і яго мэты; польскае краязнаўства на Беларусі; рускае краязнаўства на Беларусі; „Наша Ніва" як першы беларускі краязнаўчы цэнтр; першыя беларускія краязнаўчыя організацыі).

II. Сучасны стан краязнаўства (краязнаўства ў БССР; краязнаўчая чыннасьць па-за межамі краязнаўчых організацый; беларускае краязнаўства па-за межамі БССР; краязнаўства ў суседніх савецкіх рэспубліках; краязнаўства ў заходніх суседзяў).

III. Організацыя краязнаўчага руху (гурток краязнаўства; раённае і акруговае таварыства краязнаўства; ЦБК; краязнаўчыя ор-організацыі ў асьветных установах; краязнаўчыя аб'яднаньні ў профсаюзных організацыях; організацыя працы краязнаўцы).

IV. Першыя крокі краязнаўчай організацыі (краязнаўчы падлік і популярызацыя краязнаўства; краязнаўчая бібліографія; краязнаўчы музэй; краязнаўчыя вандраваньні і падарожы; краязнаўчыя выданьні).

**I. Бібліографічныя паказчыкі Даведачныя матар'ялы.**

Касьпяровіч М. Організаванае вывучэньне краю і школа. (Бібліографічны паказчык). А 1, 124—130.

Касьпяровіч М.(Агляд мясцовых краязнаўчых часопісаў). НК VI-VII, 92-93.

Касьпяровіч М. Організаванае вывучэньне Беларусі. НК 1, 61—63; III, 62-63; IV, 63—67; V, 64—66; VI-VII, 94—96.

[... Матар'ялы што да абароны аўтарскага права. Менск 1928.

[... Наука и научные работники СССР. Часть VI. Научные работники СССР. без Москвы и Ленинграда. Лнгр. 1928, 4 р. 50 к,

[... Постановление Совета народных комиссаров Белорусской ССР об авторском праве. „Савецкая Беларусь", Менск 1929 № 26.

Шашалевіч А. Матар'ялы рэдакцыі „Нашага краю", якія не надрукаваны. НК VI—VII, 77—79.

[... Што атрымала ЦБК. НК: II, 55; III 51; V, 61—62; VI—VII 77; X, 61—62; XI, 53.

**II. Стан краязнаўчых організацый і ўстаноў. Гісторыя краязнаўства.**

Байкоў М. Слоўнікавая праца на мясцох у БССР за тры гады. НК XII, 47—56.

[... Беларускае школьнае краязнаўства на выстаўцы ў Лейпцыгу. НК IV, 62.

Бюро сялян-дасьледчыкаў. Вынікі працы інстытуту сялян-дасьледчыкаў 1927 г. Менск 1928, 30 кап.

Васілевіч Я. Віцебскі дзяржаўны культурна-гістарычны музэй. „Віцебшчына" 11, Віцебск 1928.

Гарэцкі, Дубах, Прышчэпаў. Першы год працы БНДІ і рабочы плян працы на 1927/28 г. Менск 1928, 50 кап.

Дабратворскі М. Год існаваньня Золёгічнага Музэю Беларускай Акадэміі Навук. НК. XII, 78—82.

Д. Н. Научно-фармацевтический кружок. БМД 124—125.

Драздоў М. Галоўныя вынікі з працы Турскай сельска-гаспадарчай дасьледчай станцыі. Рагачэў 1928.

[... Дзейнасьць ЦБК (паседжаньні). НК: II, 54—55; IV, 50—51; VI—VII, 76—77; X, 59—60; XI, 51—53.

Дзьмітрыеў В. Краязнаўчая праца ў Смаленскай губ. за 1927 г. НК IV, 59—62.

Ігнатоўскі У. Ад Беларускай тэрмінолёгічнай камісіі да Беларускай Акадэміі Навук НК XII, 6—17.

Інстытут Беларускае Культуры. Бюлетэнь. № 2. 1927—1928. Менск 1928.

Кагароў Е. Школьное краеведение на западе Кр. I, 27—30.

Казак А. Справаздача Цэнтральнага бюро краязнаўства. НК V, 55—61.

Касьпяровіч М. Організаванае вывучэньне Беларусі ў 19 і пачатку 20 сталецьця. П 1. 140—155; 2, 159—177.

Касьпяровіч М. Білоруське краєзнавство. „Червоний шлях" Харків 1928, № 7, ст. 160—178.

Касьпяровіч М. Польская буржуазная навука на Беларусі. НК I, 4—8.

Касьпяровіч М. Краязнаўства ў Эстоніі, Латвіі, Літве і Польшчы. НК V, 12—21.

Касьпяровіч М. Новае з гісторыі краязнаўства. НК IV, 53.

Касьпяровіч М. Краязнаўства па-за межамі краязнаўчых організацый. НК IV, 51—53.

Касьпяровіч М. Аб краязнаўстве ў Фіншчыне. НК IV, 10—20.

Касьпяровіч М. Краязнаўства ў суседніх савецкіх рэспубліках. НК III. 61.

Касьпяровіч М. З гісторыі краязнаўства. НК II, 13—19.

Касьпяровіч М. Адчыненьне першай усебеларускай выстаўкі краязнаўчых фотографій і зарысовак. НК IV, 51.

Касьпяровіч М. Беларусскае краязнаўства па-за межамі БССР. НК II, 59—61.

Касьпяровіч М. Беларуская культура. „Маладняк" 1928, № 12, ст. 125—152.

Касьпяровіч М. Беларуская навука к дзесяцігодзьдзю абвяшчэньня БССР. НК XII, 17—27.

Касьпяровіч М. Кароткая справаздача аб замежнай камандыроўцы. НК XI, 58-59.

Касьпяровіч М. „Наша Ніва“ і краязнаўства НК VI—VII, 15—24.

Козыраў М. Агляд дзейнасьці Сел.-гас. акадэміі. Агляд дзейнасьці катэдраў. Агляд дзейнасьці вучэбна-дапаможных устаноў. Агляд дзейнасьці навуковых таварystваў. „Запіскі Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскай гаспадаркі“ т. VI, Горкі 1928.

[... Краязнаўчая праца яўрэйскага сэктару Інбелкульту. НК V, 61.

[... Краязнаўчая праца яўрэйскага сэктару Інбелкульту. НК III. 51—52.

[... Краязнаўчая справа ў Аршанскай акрузе НК: Салаўёў П. Год працы горацкага раённага таварыства краязнаўства. I, 52—55. Краязнаўчы гурток пры Багушэўскай сямігодцы. I, 58. Аршанская акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя. IV, 53—56.

[... Краязнаўчая справа ў Бабруйскай акрузе. НК: Любаньскі раён. I, 56. Клічаўскі раён I, 56. Справаздача Клічаўскага раённага таварыства краязнаўства. I, 58—60. Бабруйская акруга. II, 57—59. Аб дзейнасьці Слуцкага раённа-гарадзкога краязнаўчага таварыства. VI—VII, 88—89. Мікіцінскі У. Падарожніцкая справа Слуцкага таварыства краязнаўства. XI, 57. Пяцэвіч, Мікіцінскі, Ажэўскі. Краязнаўчы рух на Случчыне. XII, 62—78.

[... Краязнаўчая справа ў Віцебскай акрузе. НК: Краязнаўчая праца ў школах Сянскога, Лёзьненскага і Віцебскага раёну. I, 55—56. Іваноў. Х. Чашніцкае раённае таварыства краязнаўства. I, 57-58. Касьпяровіч М. Віцебская акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя. III, 52—57.

[... Краязнаўчая справа ў Гомельскай акрузе. НК: Дзейнасьць Гомельскага Акруговага таварыства краязнаўства. XI, 54—56. Праца некаторых краязнаўчых організацый у Гомельшчыне. XI, 56-57.

[... Краязнаўчая справа ў Магілеўскай акрузе. НК: Быхаўскі раён. I, 56. Клімавіцкі раён. I, 56. Магілеўская акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя. II, 55—57. Праца Магілеўскага акруговага таварыства III, 59—61. Халмэўскі. Краязнаўчая праца студэнтаў Рагачэўскага белпэдтэхнікуму. IV, 59. Краязнаўчы гурток пры Мсьціслаўскім дзяржаўным пэдтэхнікуме. IV, 59.

[... Краязнаўчая справа ў Мазырскай акрузе. НК: Тураўскі раён. I, 57. Жыткавіцкае раённае таварыства. Краязнаўства IV, 57. Тураўскае раённае таварыства краязнаўства. IV, 57. Мазырскае акруговае таварыства краязнаўства. IV, 57—58. Пятрыкоўскае раённае таварыства краязнаўства. IV, 58. Лельчыцкае раённае таварыства краязнаўства IV, 58-59. Лакін І. Краязнаўчы рух на Мазыршчыне. VIII-IX, 90—92. Кулакоў Т. Азарыцкае раённае краязнаўчае таварыства. VIII-IX, 92-93. Палявы Ц. Капаткевіцкае раённае таварыства краязнаўства. VIII—IX, 93—95.

[... Краязнаўчая справа ў Менскай акрузе. НК: В. К. Смалявіцкае раённае таварыства краязнаўства. I, 55. Сьмілавіцкі раён. I, 56-57. Сам-іч В. Першыя вынікі сыстэматычнай краязнаўчай працы. I, 60-61. Уладзіміраў. Праца школьна-краязнаўчага гуртка. II, 59. В. С. Барысаўскае раённае таварыства краязнаўства. III, 57-58. Праца краязнаўчага гуртка пры 7 Н. Барысаўскай школе. V, 62—64. Аніхоўскі і Невядомскі. Праца таварыства краязнаўства пры Б. Дз. У. у 1927-28 г. VI-VII, 79—86. Шашалевіч А. Выстаўка прац краязнаўчага гуртку пры Менскай 4 сямігадовай школе. VI-VII, 86-87. Праца Менскага акруговага таварыства краязнаўства VI-VII, 87. Шашалевіч. Менская акруга. X, 62—64. Шашалевіч А. Этнографічны вечару Б. Дз. У. XI, 53-54.

[... Краязнаўчая справа ў Полацкай акрузе. НК: Касьпяровіч М. Полацкая акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя. III, 58-59. Ш-іч Ан. Полацкая акруга VI-VII, 89-90.

Ляўданскі А. Краязнаўчыя організацыі і археолёгія. НК XII, 56—63.

Мазуркевіч Я. Віцебскае аддзяленьне беларускага дзяржаўнага музэю. НК X. 55—58.

Мікалаеў А. Гомельскі дзяржаўны гультурна-гістарычны музэй. НК XII, 82-88.

Мікіцінскі У. Слуцкі раённы краязнаўчы музэй. НК I, 28-29.

[... О работе научного кружка при Витокр. отделении союза М. С. Т. БМД 1928, № 2, ст. 122—124.

Осьцін А. Вынікі працы магілеўскай дасьледчай станцыі лекавых расьлін. Пл. 12, 18—21.

[... Плян працы Цэнтральнага бюро краязнаўства. НК X, 60-61.

[... Праца горна-дасьледчых партый ВСНГ БССР у 1927 г. Менск 1928.

Прысутны. 2-я нарада архіўных працаўнікоў БССР. НК I, 51-52.

Пылько М. Менская станцыя аховы расьлін. ПЛ XII, 21.

[... Статут цэнтральнага бюро краязнаўства. КН IV, 39-40.

Трамповіч П. Вывучэньне прыродных вытворчых сіл Беларусі. НК XII, 27—35.

Шашалевіч А. Першая ўсебеларуская выстаўка краязнаўчых фотографій і зарысовак. НК VI-VII, 3—10.

Шлюбскі А. Другі год зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу. НК III, 19—27.

Шлюбскі А., Трэці год зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу. НК XII, 35—47.

Я. Ж. 5 год працы менскай расьлінаводнай станцыі. ПЛ XII, 13—18.

### III. Агульныя пытаньні краязнаўства. Асьветнае краязнаўства. Комплексныя музэі.

[... Аб выданьнях мясцовых краязнаўчых організацый. НК XI, 57-58.

[... (Аб сьвяткаваньні юбілею 10-годзьдзя БССР). НК XI, 51.

[... Ад цэнтральнага бюро краязнаўства. НК V, 3-4.

Аляксандраў Г. Падрытоўка краязнаўцаў. НК II, 3—6.

Аляксандраў Г. Програма вывучэньня мястэчка. НК II, 45—53.

Biblioteka regionalna, tom I. Muzea regionalne, ich cele i zadania. Książka zbiorowa. Warszawa 1928.

Большаков А. М. Краеведение и школа. Кр 5, 279—287.

Букин Б. С. Краеведение и оборона СССР. Кр. I, 1—16.

Вангенгейм А. Ф. Об увязке краеведческих организаций с научно-исследовательскими учреждениями. ИЦБК II, 1—3.

Веселовский Б. Креведческая работа и строительство городов. ИЦБК VIII, 1-2.

Волягин А. Из практики вовлечения юридических лиц в краведческую организацию. ИЦБК VIII, 7-8.

В. С. Краязнаўчыя экскурсіі ў выхаваньні моладзі. НК III, 3—5.

Высоцкий А. Краеведческие кружки при школах и избах-читальнях. ИЦБК IV, 7.

Гейнике Н. А. Краеведение и туризм. ИЦБК III, 1—5; IV, 5—6.

Герд В. А. Экскурсионное дело. М-Л. 1928, 1 руб.

Гнатюк С. Фотографія в краєнавчій роботи. К-во IV, 4—8; V, 5—10.

Гриневич К. Э. Что такое музей (о просветительном значении музеев) ИЦБК II, 7—10.

Гурвіч К. Краязнаўчыя бібліотэкі і іх склад. НК VI-VII, 24—26.

Гурьев Н. Сравнительное изучение краеведения. КР IV, 201-202.

Дзямідовіч А. Да мэтодыкі працы сялян-дасьледчыкаў. Пл. 1928, № 5, ст. 22-23.

Изучение музейного зрителя. М. 1928, 1 р.

[... Інструкцыя для складаньня тэрмінолёгічных проэктаў. НК IV, 44—46.

Касьпяровіч М. Там, дзе тварыў Каганец (літаратурная экскурсія). НК X, 14—26.

Клименко К. Пути сближения хозяйственной и краеведной работы. ИЦБК VII, 5—9.

Краснуха Э. В. Загородные экскурсии в клубах. Л. 1928, 60 кап.

Криворотченко. До обліку краєзнавчих об'єктів. К-во II-III, 1—4.

Криворотченко М. Місто і краєзнавство. К-во, IV, 1—4.

Криворотченко М. організаційни форми краєзнавчого руху. К-во V, 1—5.

Крупская Н. К. Краеведение и народное просвещение. ИЦБК I, 6—8.

Кучинский Д. Д. Краеведение и профсоюзы. ИЦБК VII, 1—3.

Лейтнеккер Е. Э. К вопросу о праве юридических лиц быть членами краеведческих организаций. ИЦБК VIII, 5—7.

Леонтьев П. Велосипедные экскурсии. Л. 1928, 45 коп.

Ляўчук Я. Нататкі для маршрутаў (экскурсій па Менску). НК VI-VII, 27—33.

Маршак. Як праводзіць экскурсіі з дзяцьмі-дашкольнікамі. А. II, 114—123.

Мікіцінскій У. Аб арганізацыі групавых падарожай з мэтай пазнаньня і вывучэньня краю. НК V, 52—55.

[... Основные правила составления библиографических карточек по краеведной литературе. Кр. VI, 355—367.

Петров Ф. Н. Краеведение и социалистическое строительство. ИЦБК I, 9—17.

[... Плян курсу краязнаўства ў вышэйшых школах і тэхнікумах. НК VI-VII, 63—67.

Преображенский Н. Ф. Краеведение и местный бюджет. ИЦБК V, 1-2.

Преображенский Н. Краеведная работа среди национального студенчества. ИЦБК VI, 5—7.

Радченко Е. Что может дать уездное статистическое бюро для краеведной работы учителя. Кр. X, 561—567.

Р. Какая нужна програма. Кр. IV, 232-233.

Рудницький С. Радянська туристика. К-во II-III, 8—13.

Савіцкі М. Сяляне, бліжэй да дасьледчых станцый. Пл. III, 7-8.

Савіцкі М. Дасьледчая справа ў калгасах. Пл. VII, 13-14.

Савченко-Бельский А. Дальние экскурсии. Задачи, организация, методика и содержание экскурсий. М. Л. 1928, 90 коп.

Садвокасов С. С. Краеведение в национальных районах. ИЦБК VI, 2—5.

Самцэвіч В. Краязнаўства ў працы профсаюзных організацый. НК IV, 3—5.

Самцэвіч В. Аб некаторых практычных задачах мясцовых краязнаўчых арганізацый у соцыялістычным будаўніцтве. НК XI, 3—5.

Сегаль А. О материальной базе краеведческих организаций. ИЦБК 8, 4-5.

Семенов С. Руководящие начала в работе с крестьянскими—опытниками. СБ, V, 85—94.

Сергеева Е. Из практики работы с посетителями музея. Кр. III, 141—148.

Симоновский В. В. Очерки краеведной работы библиотек. Кр. VIII, 467—476.

[... Синтетическая расстановка в отделе местного края областного музея. Кр. VII, 397—401.

Степанов П. Опыт краеведной работы с активом уральского студенчества. Кр. X, 572—578.

С. Т. Некалькі слоў аб працы сялян-дасьледчыкаў. Пл. V, 14-15.

Тачыцкі Я. Масавы досьлед у проблеме разьвіцьця сельскай гаспадаркі. СЛГ 5-6, ст. 150—155.

Шик Лев. Экскурсионная работа. М-Л. 1928, 1 р. 40 коп.

Шмит. Музейное дело. Вопросы экспозиции. Лнгр 1929, изд. Academia.

[... Што трэба зрабіць у гэтым месяцы. НК I, 3-4.

Чуйко Г. Сялянскі досьлед—найлепшы шлях для падвойнай ураджайнасьці. СЛГ 5-6, 155—173.

Чуйко Г. За перабудову гаспадаркі на навуковым грунце. Пл. XII, 39—42.

Яната О. А. Державні завдання краэзнавства. К-во I, 1-3.

### IV. Прыродна-географічнае вывучэньне краю.

[... Аб кальцаваньні птушак. НК XI, 59.

Албычев П. Геологические экскурсии. Л. 1928, 40 коп.

Барысевіч Г. Шануйце лес мясцовага значэньня. Пл. II, 35-36.

Белавин А. Главный геодезический комитет ВСНХ и его роль в деле краеведения. ИЦБК V, 3—5.

[... Беражэце яго (лес), БП, VIII, 9-10.

Б. С. О наших заказниках. ПБ II, 12-13.

Бунак В. В. О необходимости постановки антропологических исследований в краеведных учреждениях. Кр. IV, 193—200.

Бурштэйн М. Асновы організацыі дасьледчай справы па садоўніцтву ў БССР. СЛГ 5-6, 192—204.

Бурштэйн М. Якія і як ставіць досьледы ў садзе. Пл. II, 10-11.

Бутурлин С. А. Определитель видов птиц СССР, их подвиды, распространение, польза и вред для хозяйства. М. 1928, 1 р. 65 коп.

Быстроў М. Кароткая інструкцыя як сялянам-дасьледчыкам ставіць пачатковыя досьледы з лекавымі расьлінамі. М. 1928, 15 кап.

Бюро сялян-дасьледчыкаў. Програма і інструкцыя дасьледчай працы інстытуту сялян-дасьледчыкаў. Менск 1928, 25 кап.

Васильковский П. Роль краеведов в деле учета охотничьих богатств нашей страны. Кр. X, 568—571.

Вишневский Б. Н. Об архивных материалах, имеющих значение для антропологии. ИЦБК IX, 5—7.

[... Выставки по естествознанию. Кр. IV, 213—225.

Гаўрыловіч Т. Больш увагі да аховы дзічыны вясною. ПБ II, 8—10.

Гладцин И. Н. Определитель горных пород по внешним признакам. М-Л. 1928, 20 коп.

Гладцин Н. Инструкция по собиранию геологических коллекций. Кр. IV, 226—231.

Грабеншчыкаў В. Для натуралістых ёсьць работа. БП VI, 14-15.

Г—ц М. Защитить лося! ПБ VI, 34.

Дабратворскі М. Чмялі-зязюлі. НК IV, 21—23.

Дабратворскі М. Нашы чмялі. НК XI, 21—27.

Дубраўскі М. Проблема ўраджайнасьці і сялянскі досьлед на балоце. СЛГ V-VI, 68—71.

Е—в В. Почему необходимо охранять рыбу. ПБ III, 26—28.

Заборовский Е. П. Об организации лесного подотдела в краеведных музеях. Кр. II, 65—72.

Зьбіткоўскі Н. А. Аб шоўкавіцы, скарзанэры і шоўкаводзтве. Пл. V, 39-40.

Кіпрыянец К. Аграмерапрыемствы і самадзейнасьць насельніцтва. ЛСГ III-IV, 42—48.

Киселев К. Гидрологическая станция для изучения стока в южной Белоруссии. СБ X, 88—100.

Купрэвіч В. Да пытаньня аб ахове прыроды. НК IV, 23-24.

Лес. Его изучение и использование. Лнгр. 1928, изд. Академии наук.

Любименко В. и Ильин М. Сорные растения наших полей. М-Л. 1928, 35 коп.

Маевский П. Весенняя флора Средней России. Таблицы для определения растений, цветущих в марте, апреле и начале мая. М. 1928, 70 коп.

Маслакавец Г. Падвышэньне ўраджайнасьці і сельска-гаспадарчыя мэтэоролёгічныя назіраньні. СЛГ V-VI, 239—241.

Міран К. Да пытаньня аб вывучэньні пладанашэньня некаторых дрэўных лісьцяных парод мэтодамі біолёгічнага аналізу галін. СЛГ III-IV, 18—22.

Морозов Г. Школьные экскурсии в лес. М. 1928, 30 коп.

Нейштадт М. И. Изучение истории лесов и климата путем анализа пыльцы в торфе. Кр. VI, 339—354.

Нікіфаровіч С. Да пытаньня аб ахове птушак. НК V, 21—23.

Обухов А. Краткое пособие по сбору, сушке и хранению лекарственных и технических растений. М. 1928.

Павловский Е. Наставление к собиранию и исследованию клещей. Л. 1928, 1 р. 20 кап.

Петров А. И. Краткое руководство по собиранию сведений о вредителях сельскохозяйственных растений и по борьбе с ними. Владимир на Клязьме 1927, 1 р. 75 к.

П—н А. О формах организации научно-исследовательских работ по ботанике. СБ XI, 57—63.

Попов Н. В. На экскурсию Маленький определитель растений для учащихся младших групп. Ростов Н/Д 1928, 60 коп.

Потемкин М. Краеведение и охрана природы. ИЦБК 9; 3—5.

Пратасеня Р. Культура некаторых лекавых расьлін ва ўмовах БССР. СЛГ III-IV, 85—99.

[... Програма роботи гуртка юних натуралістів. К-во IV, 11-12.

[... Прываблівай птушак. (Пабудова шпакоўніц). БП IV, 8-9.

Путь весны. В помощь юному натуралисту. М. 1928, 5 коп.

Савіцкі М. Да дасьледчых станцый і сялян-дасьледчыкаў. Пл. X, 3—5.

Салаўёў П. Да пытаньня аб вывучэньні фаўны мясцовага краю. НК I, 18—20.

Самцэвіч В. Ахова прыроды як грамадзка-карысная праца школ. А. IV, 67—69.

Свенцицкий В. Что такое перспективная с'емка. М-Л. 1928, 12 коп.

Семенов-Тян-Шанский В. П. Заповедники и заказники СССР. ИЦБК, III, 5-6.

Серебровский П. В. Методика полевых исследований по зоологии позвоночных животных. М. 1928, 75 коп.

Скандракоў С. Асноўныя заданьні Аддзелу с.-г. расьлінагадоўлі БНДІ і яго організацыя ў сувязі з організацыяй дасьледчай справы ў „Палескай Краіне". СЛГ I, 3—9.

Смирнов Н. П. Современное положение фенологии за границей. Кр. V, 267—278.

Сьцяпуржынскі А. Агрохімія і сялянскі досьлед. СЛГ V-VI, 121—127.

Сюзев П. В. Гербарий. Руководство к собиранию и засушиванию растений для гербария и к составлению флористических коллекций. М-Л. 1928, 1 руб.

Уласенка Я. Аб працы інстытуту сялян-дасьледчыкаў пры горацкай раённай с.-г. дасьледчай станцыі. Пл. XII, 42-43.

Фолькенштейн Б. Фото-с'емка живой природы. Л. 1928, 50 коп.

Чэмелаў В. Кароткая інструкцыя як ставіць досьледы ў гародзе. М. 1928.

Чэмелаў В. Сялянам - дасьледчыкам трэба праверыць. Пл. V, 22.

Шнитников В. Н. Как собирать зоологические коллекции. Позвоночные. М-Л. 1928, 45 коп.

[... Як правесьці „Дзень птушак". БП IV. 7.

### V. Грамадзка - экономічнае вывучэньне краю.

Бельденипов С. И. Сибирское краеведение, правовой быт и обычное право. Кр. 8, 451—466.

Бойка Б. Значэньне рахунковых запісаў для сялянскіх гаспадарак і як іх вясьці. Пл. II, 11—14.

Большаков А. Выяснение понятий, связанных с краеведным изучением социальной структуры деревни. Кр. IX, 513—520.

Гринкова Н. О частных программах по этнографии. Кр. III, 168.

[... Да вывучэньня ўдзелу хатніх рамёстваў у выстаўках 1927 году. НК I, 51.

Данілевський В. До методики дослідження виробничих процесів на селі. К-во I, 7—9.

Евдокимов А. Краеведение и кооперация. ИЦБК VIII, 3-4.

Жарынаў Зьм. Краязнаўства і грамадазнаўства ў сучаснай школе. А I, 14—27.

Зеленин Д. К. Перспективный план работ по изучению генетики культуры. Кр. V, 257—266.

Золотарев А. Краеведение и дорожное строительство. ИЦБК IX, 9-10.

Касьпяровіч М. Як сабраць і ўкласьці лоўнік мовы свайго раёну. НК I, 32—46.

Кузнецов А. М. Отдел фабрично-заводской промышленности в местных музеях. Кр. VII, 385—392.

Макаревич В. С. Обследование дорог местного края. Кр. III, 157—167.

Макарьев С. А. Полевая этнография. Краткое руководство и программы для сбора этнографических материалов в СССР. Лнгр. 1928, 1 руб.

Мизеров А. В. Народные приметы. Кр VII, 409—414.

Рак Р. Програма для вывучэньня прадзеньня і ткацтва. НК III. 44—50.

Рак Р. Інструкцыя для вывучэньня базараў. НК VI-VII, 68—75.

Сегаль А. В. Краеведение в жизни фабрики и завода. ИЦБК VII, 3—5.

Смирнов Вас. Вопросы для изучения быта домашнего скота. Кострома 1928, 7 к.

Соловей Д. До опису виробництва самогону на селі. К-во IV, 8—11.

Спицын А. Краеведная работа на базарах. Кр. IX, 521—523.

Улицкий Як. Монографическое описание фабрик и заводов. ИЦБК IX, 8-9.

Шлюбскі А. Програма для запісваньня помнікаў вуснай народнай творчасьці. НК IV, 40—44.

### VI. Культурна - гістарычнае вывучэньне краю.

[... Аб вывучэньні гісторыі асьветы ў Беларусі. НК I, 47—49.

Анциферов Н. П. Краеведный путь в исторической науке. „Краеведение" VI, 321—338.

Анцыфараў Н. Краязнаўчае вывучэньне літаратуры. НК VI-VII, 10—15.

[... Апытальнік аб стане дасьледаваньня культурных гнёздаў. НК IV, 48-49.

Бахрушин С. В. Задачи исторического изучения края. Кр. III, 129—140.

Гейнике Н. А. Роль краеведных организаций в деле охраны памятников искусства и старины. ИЦБК IX, 1—3.

Гревс И. М. Очередная задача краевого культуроведения. Кр VI, 368—376.

Замоцін І. Аб увязцы беларускага літаратуразнаўства з краязнаўчаю працаю. НК V, 4—7.

Касьпяровіч і Азбукін. Як укласьці раённы географічны слоўнік. НК IV, 46—48.

Мансуров А. А. Об изучении материалов о местных деятелях и уроженцах. Кр. I, 17—26.

Пиксанов Н. К. Областные культурные гнезда. М-Л. 1928, 1 р. 60 к. Содержание: Предисловие. Областные культурные гнезда. Введение в их изучение. К молодым краевым искусствоведам. Темы, библиография. Вопросники.

Свободов А. Н. Литературный и мемориальный материал в областных музеях. Кр. VII, 392—396.

Семенов В. И. Культуроведение в краеведческой работе (история, археология, музейное дело). Л. 1928, 1 р. 40 коп.

Сибилев Н. В. Как я произвожу археологические разведки. Кр. V, 288—293.

Случевская Л. Литературно-образовательные экскурсии. „Родной язык и литература в трудовой школе“ IV-V, 139—150.

[... Спроба ўкладаньня анкет для зьбіраньня крытычна-біографічных матар'ялаў па гісторыі беларускай літаратуры. НК V, 45—52.

Успенский М. (Об архивах). Кр. IX, 534—538.

Чернов С. Н. К вопросу о собирании и изучении географической номенклатуры. Кр. IX, 524—533.

Ялі С. Схема вивчення рев-руху (серед национальних меншостей). К-во II-III, 5—8.

М. К.

# Адказы краязнаўцам.

Пачынаючы з гэтага нумару, рэдакцыя „Нашага Краю“ будзе даваць адказы краязнаўчым організацыям і паасобным краязнаўцам на ўсе іх запытаньні, высьвятленьне якіх цікава і для іншых, а ня толькі для таго, хто пытаецца. Таму раім усім краязнаўцам знаёміцца з матар'яламі гэтага разьдзелу. На дробныя пытаньні будуць давацца адказы паранейшаму лістамі.

**1. Сутнасьць і тэхніка географічна-гістарычнага мэтоду дасьледваньня фольклёру.**

*І. К. Чэрвень.* Дасьледчык, які вывучае пэўны від вуснай народнай творчасьці географічна-гістарычным ці бо фінскім мэтодам, на першапачатку павінен адшукаць праформу кожнага данага сюжэту. Мэтодолёгі фінскай школы дасьледаваньня фольклёру лічаць, што, напр., казка зьяўляецца ўстойлівым апавяданьнем, якое ўзьнікла толькі раз у пэўным месцы і ў пэўны час, але, разам з тым, на працягу свайго існаваньня ў той ці іншай меры зьмянілася. Зьмены гэтыя маглі быць выкліканы: а) запамятаваньнем, б) пашырэньнем, в) памножаньнем або ўнясеньнем дублетнай ці аналёгічнай формы, г) абагульненьнем прыватнага або індывідуалізаваньнем агульнага, д) падменаю мотываў, е) перанясеньнем дзеяў з жывёл на чалавека (антропоморфізмам) ці наадварот (зоомоіфізмам), а таксама перанясеньнем прыгод чалавека і жывёл на чорта ці наадварот (дэмонізаваньнем) ды ўключэньнем у апавяданьне самога апавядальніка (эгоморфізмам), ж) падменаю чужаземных і невядомых элемэнтаў сваімі і вядомымі (акліматызаваньнем), з) падменаю старадаўніх рэчаў і паняцьцяў сучаснымі (модэрнізаваньнем), і) іншымі момантамі ў сувязі з уплывам аднаго мотыву на другі. Высьвятленьне ўсіх гэтых зьмен і служыць адшуканьню першапачатнай формы сюжэту, яно выконваецца параўнаньнем усіх вядомых адменьнікаў сюжэту, яго галоўных частак і паасобных элемэнтаў у іх географічным і гістарычным парадку. Для гэтага вывучаюць: а) колькасную распаўсюджанасьць, лік адменьнікаў, б) тэрыторыяльную распаўсюджанасьць, межы распаўсюджаньня адменьнікаў, в) шляхі іх распаўсюджаньня, а таксама—г) агульны характар адменьнікаў, іх захаванасьць, д) цікавасьць, эфэктоўнасьць і д. т. п., е) натуральнасьць, э) легічную пасьлядоўнасьць, ё) наяўнасьць данага элемэнту ў іншых вусных народных творах, ж) выпадковасьць падабенства элемэнтаў. Першапачатная форма сюжэту, вылучаная такім чынам, мае дапамагчы высьвятленьню месца і часу пахаджаньня данага твору, яго нацыянальнасьці і шляхоў распаўсюджаньня. Месца паходжаньня вызначаецца: а) параўнаньнем твору з старасьвецкімі літаратурнымі адменьнікамі, б) вывучэньнем географічнага распаўсюджаньня і характару твору ў розных краёх, в) адшуканьнем адпаведных паказаньняў у зьмесьце твору і г) высьвятленьнем шляхоў распаўсюджаньня. Падобна аднаўляецца і час, эпоха паходжаньня твору. А далей можна разьвязваць пытаньне аб тым, які ўплыў зрабіў даны народ на даны твор, узаемаўплывы народаў, што ў творы належыць да вераваньняў і г. д., і прыцягваць матар'ялы вывучэньня да высьвятленьня археолёгічных, этнографічных, псыхолёгічных і іншых пытаньняў. Тэхніка дасьледаваньня фінскім мэтодам складаецца з наступных момантаў: а) азнаямленьня з галінай дасьледваньня—казкамі і д. т. п., як у друкаваным відзе, так і непасрэдна з вуснаў народу, і азнаямленьня з мэтодолёгіяй данай галіны досьледаў, б) абраньня тэмы для дасьледваньня, в) зьбіраньня ўсіх матар'ялаў: тэкстаў запісаў твору, літаратурных апрацовак і інш., пачынаючы з матар'ялаў свае бацькаўшчыны, крытычна адносячыся да ўсіх матар'ялаў, вычэрпваючы іх магчыма поўна, запісваючы ўсе адменьнікі на асобных картках і г. д., г) клясыфікаваньня па нацыянальнасьцях і ў межах апошняй—у географічным і хронолёгічным парадку, д) аналізу ўсіх матар'ялаў згодна папярэднім заўвагам і абмеркаваньня іх, е) вывадаў. Да працы павінен быць далучаны ўвесь матар'ял. Для выкананьня досьледу над матар'ялам розных народаў трэба, зразумела, веданьне моваў апошніх.

Адзін з мэтодолёгаў фінскай школы выканаў досьлед казкі „Кароль і абат“ на сусьветным матар'яле. Гэты досьлед складаецца з наступных разьдзелаў: 1) бібліографічнага

пераліку літаратурных адменьнікаў, 2) бібліографічнага пераліку вусных адменьнікаў і 3) параўнаўчага аналізу адменьнікаў. Апошні складаецца з шэрагу артыкулаў: агульнага агляду матар'ялу адменьнікаў і іх статыстыкі, агляду дзейных асоб, агляду ўплываў вусных адменьнікаў на пісьмовыя і наадварот, агульнай гісторыі сюжэту і г. д.

Шмат якіх пытаньняў географічна-гістарычным мэтодам не разьвяжаш. Цяпер атрымлівае перавагу соцыялёгічны мэтод.

**2. Праца гуртка краязнаўства ў галіне вывучэньня краёвага мастацтва.**

*Беларускаму Дяржаўнаму Мастацкаму Тэхнікуму, Віцебск.* Згодна пастановы Народнага Камісарыяту Асьветы ва ўсіх тэхнікумах, у тым ліку і ў вашым, павінна быць уведзена выкладаньне краязнаўства з пачатку 1928-29 акад.году. Значыць тэрміноваю чарговаю задачаю для вас павінна быць выкананьне гэтай пастановы. Практычная частка програмы, якая (апублікавана ў № 67 „Нашага Краю" 1928 г.) павінна быць укладзена па Вашай ініцыятыве спэцыяльна для Вашага тэхнікуму і паслана на зацьвярджаньне Навукова-Мэтодолёгічнага Камітэту НКА.

У тэхнікуме павінен існаваць і працаваць гурток краязнаўства са студэнтаў і выкладчыкаў. Практыка паказала, што пры зацікаўленасьці адміністрацыі і рады тэхнікуму гурток краязнаўства добра працуе. У першую чаргу гурток павінен азнаёміцца з агульнымі прынцыпамі і задачамі краязнаўства, дапамогай у чым можа быць кніжка „Краязнаўства", выд. БДВ 1929 г.

Пасьля гэтага павінна пайсьці спэцыяльная падрыхтоўка членаў гуртка да краязнаўчай працы. У гэтай галіне трэба ў першую чаргу пазнаёміцца з беларускай літаратурай аб беларускім мастацтве, калі гісторыя беларускага мастацтва ўсё яшчэ ў Тэхнікуме не выкладаецца. Тутака могуць памагчы розныя працы М. Шчакаціхіна і выданьні Віцебскага акруговага таварыства краязнаўства. Далей трэба пачаць вывучаць мэтодыку краязнаўчай працы ў галіне мастацтва. Пэўным дапаможнікам у гэтай справе можа быць праца М. Шчакаціхіна „Спасабы зьбіраньня матар'ялаў з беларускага мастацтва" („Наш Край" 1926, № 2-3, ст. 62—69), а таксама інформацыйныя заметкі: „Краязнаўчыя зарысоўкі" („Наш Край" 1927 г., № 8-9, ст. 89—91) і інш.

Калі члены гуртка будуць у пэўнай меры падрыхтаваны, можна будзе распачаць уласна краязнаўчую працу. Яна можа выявіцца галоўным чынам у зарысоўках і кароткіх апісаньнях рэчаў народнага і гістарычнага мастацтва, якія карысна дэманстраваць і заслухоўваць на агульных сходах гуртка.

Каб краязнаўчая праца членаў гуртка магла быць хутчэй рэалізавана, карысна сьпісацца з Менскім, Магілеўскім і Віцебскім музэямі, а таксама з камісіямі народнага і гісторыі мастацтва БАН аб тых зарысоўках, якія ім патрэбны.

Гурток абавязкова павінен паклапаціцца зьбіраньнем музэю з прац яго членаў і розных рэчаў народнага і гістарычнага мастацтва, які з часам дасьць магчымасьць выконваць абагульнаючыя краязнаўчыя працы.

Разам з тым гурток можа распачаць выдаваньне сваіх краязнаўчых матар'ялаў у відзе паштовак, альбомаў і д. т. п., падобна таму, як гэта робіцца пры ўкраінскіх мастацкіх школах, тым больш, што самі члены гуртка могуць рабіць клішэ на лінолеуме, дрэве і інш., ды тэхнікум мае свой літаграфскі станок.

Зразумела, гурток павінен прыцягнуць у свае шэрагі і іншых мясцовых мастацтвазнаўцаў і мастакоў, якія не працуюць у тэхнікуме.

Адначасна мы напісалі НКА аб патрэбе хутчэйшага увядзеньня выкладаньня краязнаўства ў Вашым тэхнікуме і Віцебскаму акруговаму таварыству аб дапамозе Вам у справе організаваньня і разгортваньня працы гуртка. У падручніку па краязнаўству для вышэйшых школ і тэхнікумаў, які мае выдавацца БДВ, будзе разьдзел спэцыяльна для Вашага тэхнікуму.

Аб пачатку Вашай працы ў галіне краязнаўства і аб перашкодах просьба паведаміць.

**3. Аб бягучай працы гуртка краязнаўства на Гомельшчыне.**

*Гуртку краязнаўства Бабчынскай школы II ст. Хойніцкага р.* Раім Вам працягваць працу па зьбіраньні краёвага слоўніка, у чым Вам дапаможа інструкцыя, зьмешчаная ў № 1 „Нашага Краю" за 1928 г., ст. 32—46, а таксама скончыць зьбіраньне матар'ялаў аб мясцовых спосабах афарбоўваньня. Калі Вы зробіце добрае апісаньне апошніх—яго можна будзе надрукаваць у „Нашым Краі". Пабач з выкананьнем гэтых распачатых Вамі прац раім весьці фэнолёгічныя нагляданьні, для чаго Вам пасланы бланкі і сшытак. Агульныя пытаньні краязнаўчай працы высьветлены ў кнізе „Краязнаўства", якая Вам таксама паслана. Трэба прапрацаваць яе гуртком на агульных сходах.

**4. Мэтод вывучэньня пабудовы казак.**

*І. К. Чэрвеньскаму. Гомель.* Вывучэньне пытаньняў формальнай пабудовы казак пачалося нядаўна і таму шмат што яшчэ не ўсталявалася канчаткова ў самых асновах гэтага мэтоду. Больш грунтоўна распрацавана галіна вывучэньня складаных частак казкі і ўзаемаадносін іх паміж сабою і ўсёю казкаю цалкам. Спачатку вылучаюцца сталыя і ўстойлівыя элемэнты казак пэўнага тыпу. Такімі элемэнтамі зьяўляюцца ўчынкі дзейных асоб, выяўленыя з пункту гледжаньня іх значэньня для ходу дзеі незалежна ад таго кім і як гэтыя ўчынкі выконваюцца. Пры гэтым лічыцца, што лік гэтых элемэнтаў

якія звычайна завуцца функцыямі, у казках абмежаваны, пасьлядоўнасьць у функцыях заўсёды аднолькавая і ўсе казкі данага тыпу аднолькавы па сваёй пабудове. У справе вылучэньня функцый трэба высьвятляць уплыў адных формаў на другія, г. зн., асыміляваньне спосабаў выкананьня функцый, што дасягаецца прынцыпам вылучэньня функцыі па яе выніках, а таксама выпадкі падвойнага морфолёгічнга значэньня функцый. Побач вывучаюцца іншыя важныя ў пабудове казкі часткі, якімі зьяўляюцца дапаможныя элемэнты для сувязі функцый паміж сабой ды прычыны або мэты дзейных асоб, што выклікаюць іх на тыя ці іншыя ўчынкі. Таксама важна вызначыць як функцыі разьмяркоўваюцца паміж дзейнымі асобамі. Для так званых цудоўных казак вызначаюцца тры выпадкі разьмеркаваньня колаў дзеяньняў пэрсонажаў: а) кола дзеяньняў дакладна адпавядае пэрсонажу: б) адзін пэрсонаж абхоплівае некалькі колаў дзеяньняў і в) адно кола дзеяньняў разьмяркоўваецца па некалькіх пэрсонажах; разам з тым, гэтыя казкі ведаюць толькі сем дзейных асоб. Далей вызначаецца номэнклятура і аблічча асоб, спосабы ўключэньня новых асоб у ход дзеі казак, жытло асоб ды некаторыя іншыя атрыбуты дзейных асоб. Гэта дазволіць пазьней вылучыць першапачатковую форму ці бо праформу казкі і некаторыя адцягненыя прадстаўленьні, што ляжаць у яе аснове. Пасьля аналізу вывучаюцца асаблівасьці казкі як цэлага, прычым зважаецца на пераход ад аднаго ходу дзеі да другога, калі казка шматходавая, а таксама на вызначэньне роду ўзятых для вывучэньня казак ды на клясыфікаваньне іх у межах гэтага роду. Вывучэньне раяць весьці пры дапамозе ўкладаньня табліц з ужываньнем пэўных умоўных знакаў. В. Проп дае цэлы таблічны дапаможны сьпіс элемэнтаў так званай цудоўнай казкі. Наогул для вывывучэньня морфолёгіі казак абавязкова трэба пазнаёміцца з яго кніжкай: *В. Пропп.* Морфология сказки. Изд. „Academia", Лнгр. 1928, in° 8°, 151 стар., ц. 1 р. 80 коп., склад выданьня: Ленинград, пр. Володарского, 53-б, магазин „Academia".

**5. Зьбіраньне этнографічных колекцый і этнографічных экспонатаў для музэяў.**

*Н. Зубовічу. Глуск Бабруйскай акр.* Зразумела, што можна зьбіраць самастойныя этнографічныя колекцыі падобна таму як зьбіраюцца ўсякія іншыя колекцыі, калі няма музэю, куды-б можна было здаваць этнографічныя экспонаты. Нават некаторыя раённыя музэі могуць абмежавацца на першы час сыстэматычным зьбіраньнем пэўнай этнографічнай колекцыі, а ня цэлага этнографічнага аддзелу музэю. Такімі колекцыямі могуць зьяўляцца зборы ўзораў мясцовых тканін, вышывак, абутку, бірак і д. т. п. Калі поўную колекцыю ўкласьці нават на працягу доўгага часу немагчыма, ні ў якім разе ня можна адмаўляцца ад зьбіраньня паасобных рэчаў, якія ўсё-ж калі-небудзь складуць каштоўную колекцыю. Ды нават паасобныя рэчы маюць вялікае навуковае значэньне. Ці зьбіраюцца экспонаты для музэю, ці для колекцыі — усё роўна трэба няўхільна прытрымлівацца наступных правіл: а) зьбіраць факты так, каб яны давалі суцэльнасьць пэўнай рэчы народнай творчасьці: гарнітур, а не адно вышыты рукаў; вупраж, а не адно хамут і г. д.; б) падаваць пры гэтым дакладныя мясцовыя народныя назвы фактаў, дакладнае азначэньне месца іх паходжаньня, матар'ял, з якога зроблены, тэхніку вырабу і г. д. і в) запісваць месца данага факту ў народным быце, народныя погляды на яго, вераваньні і звычаі, што цесна зьвязаны з самой рэччу, яе вырабам і ўжываньнем. Такім чынам кожная рэч колекцыі павінна здабывацца ў выніку сыстэматычнага, грунтоўнага, вычэрпваючага і ўсебаковага навуковага досьледу. Апошні і рэч колекцыі павінны ўзаемна дапаўняць адно другое і толькі тады яны будуць мець навуковую, а значыць і матар'яльную каштоўнасьць. З усяго гэтага выцякае яшчэ адно асноўнае правіла: колекцыянаваць ня тое, што пад руку патрапляецца, а плянава адшукваць тое, што трэба па вызначанай програме Вашай будучай колекцыі, бяручы, зразумела, самыя лепшыя ўзоры фактаў.

---

Выдавец—**Беларуская Акадэмія Навук.**
Рэдактар—**З. Бядуля.**
Члены Рэдакцыі: **М. Бялуга. А. Казак. М. Касьпяровіч.**

Цана 50 кап.

## ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1929 г.

НА ПОПУЛЯРНА-НАВУКОВЫ КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС

# „Наш Край“

**„Наш Край“** зьмяшчае артыкулы папулярна-навуковага характару па ўсіх галінах краязнаўства ў БССР.

**„Наш Край“** зьмяшчае кіраўнічыя ўказаньні: анкеты, праграмы, інструкцыі і мэтодычныя артыкулы па краязнаўстве.

**„Наш Край“** дае на сваіх старонках адбітак працы ўсіх краязнаўчых організацый БССР.

**„Наш Край“** павінен быць у кожнай школе, нардоме, хаце-чытальні, клюбе і бібліотэцы.

**„Наш Край“** павінен быць настольнай кнігай кожнага краязнаўцы.

## У ЧАСОПІСЕ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:

М. Азбукін, Г. С. Аляксандраў, А. Аніхоўскі, К. Атраховіч, Н. Бываеўскі, З. Бядуля, М. Бялуга, Проф. П. Бузук, Д. Васілеўскі, І. Вітхоўскі, Проф. Васількоў, М. Грамыка, Г. Гарэцкі, М. Гарэцкі, А. Ганжын, Зьм. Даўгяла, В. Дружчыц, С. К. Жураўскі, М. Зьбіткоўскі, Проф. У. М. Ігнатоўскі, А. Казак, Я. Каранеўскі, Кіпель, М. Кіркевіч, А. Квяткоўскі, А. Крукоўскі, Я. Кісьлякоў, М. Касьпяровіч, Купрэвіч М. Ламака, В. Ластоўскі, Макарэўскі, Д-р Магілеўчык, Мацьвяёнак, У. Мікіцінскі, М. Мялешка, Натальлія, С. Нікіфаровіч, А. Нямцоў, Г. Парэчын, Проф. В. Пераход, Проф. У. Пічэта, Я. Ракаў. В. Самцэвіч, П. Самцэвіч, Проф. П. Салаўёў, Н. Савіч, А. Сянкевіч, А. Сяргеенка, Я. Траяноўскі, Я. Троська, У. Уладзімераў, Проф. У. Фядзюшын, Е. Цехановіч, А. Шашалевіч, Ал. Шлюбскі, М. Шчакаціхін, Проф. Яцанткоўскі і шмат іншых.

**Умовы падпіскі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| На год | 4 р. — к. | На 3 м-цы | 1 р. 25 к. |
| На паўгода | 2 р. 25 к. | На 1 месяц | — р. 50 к. |

Гадавым падпісчыкам выдаецца прэмія — „АСІПАВІЦКІ РАЁН“, выпуск II — узорнае краязнаўчае апісаньне сельсавету, мястэчка і вёскі. Кніжка патрэбная для працы кожнага краязнаўцы, настаўніка і палітасьветпрацаўніка.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: ў рэдакцыі часопісу „Наш Край“ (Менск, Рэволюцыйная, № 21, Ц. Б. Краязнаўства), ува ўсіх паштовых аддзяленьнях, у раённых і акруговых краязнаўчых організацыях і ўва ўсіх кнігарнях Бел. Дзярж. Выдав. і інш.

„НАШ КРАЙ“ прадаецца: у Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры Бел. Акадэміі Навук, ува ўсіх аддзяленьнях БДВ і ўва ўсіх аддзяленьнях і кнігарнях іншых выдавецтваў.

Выпісваць можна з Ц. Б. Краязнаўства поўн. комплекты часопісу „Наш Край“ ад 1-га нумару да канца 1928 г. са скідкай для краязнаўчых організацый і паасобных краязнаўцаў у 30% — за 10 руб.

Апрача гэтага ў ЦБК прадаюцца:

„Працы I Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“ — 50 кап.
„Працы II Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“ — 50 кап.
Асіпавіцкі Раён — першы выпуск — 2 р.
Асіпавіцкі Раён — другі выпуск — 80 к.